Я была ў захапленьні, калі прачытала Ваша «Падарожжа» на маю радзіму. У мяне быў такі рогат… Я атрымала задавальненьне... Я столькі гадоў там не была. І, канечне, жахнулася. Не нашмат вырас узровень нашых настаўнікаў. Такое ў мяне было адчуваньне пасьля Вашай вандроўкі… Калі ёсьць Вашы матэрыялы, я Вас часта чытаю. Мне падабаецца Ваша іронія над нашым жыцьцём.

Сьвятлана Алексіевіч, пісьменьніца
(з тэлефоннай размовы)

Падарожжы Зьмітра Бартосіка адкрываюць нам Беларусь, схаваную за афіцыйным фасадам. Там іншыя сьцяг і герб. Там сьвяткуюць несавецкія сьвяты і згадваюць добрым словам пана. Там калгаснае поле ператвараецца ў поле бітвы...

Уладзімер Арлоў, пісьменьнік

Перадача Бартосіка «Падарожжы Свабоды» – адна з найцікавейшых краязнаўчых публіцыстычных праграм. Для мяне з 2012 году сымбалем гэтай праграмы стаў «гаварушчы верабейчык з зашытай жопай»… Маім калегам і сябрам гэтая перадача настолькі спадабалася, што на дзень нараджэньня мне падаравалі плюшавую птушку з адмыслова зашытай задніцай. І зараз гэтая птушка вісіць над маім ложкам.

Антон Астаповіч, гісторык

Здавалася б, каму сёньня трэба – разгаворваць 90-гадовую бабулю пра гісторыю яе жыцьця? А калі гэта не адна бабуля, а сотні такіх па ўсёй Беларусі? Хто яшчэ наважыцца на такое? Затое вынік – ашаламляльны, ён заварожвае, як толькі й можа заварожваць патаемная, усё жыцьцё хаваная і раптам адкрытая праўда. Добра вядомы і вечна жывы ў сусьветнай культуры сюжэт – прызнаньне перад сьмерцю…

Сяргей Дубавец, рэдактар

Імя Зьмітра Бартосіка сустракаецца ў пошце Свабоды значна часьцей, чым іншых нашых журналістаў. І просьба да яго зазвычай адна: «Прыедзьце да нас! Мы вам такое раскажам…» Часам нават прапануюць поўны пансіён, уключна з разьмяшчэньнем ва ўласнай хаце. Калі б Зьміцер адклікаўся на ўсе такія запрашэньні, у яго ўвогуле не заставалася б часу на тое, каб вяртацца ў Менск.

Валянцін Жданко, рэдактар Радыё Свабода

Вандроўкі Зьмітра Бартосіка – выдатны праект. Дзякуючы вядоўцу слухачы могуць віртуальна пабываць у розных кутках краіны. І галоўнае – пачуць аповеды пра падзеі гісторыі Беларусі, галасы ўнікальных герояў перадачы. Аўтар адкрывае самыя нечаканыя, самыя патрыятычныя, самыя закрытыя ў савецкія часы старонкі нашай гісторыі.

Мікола Купава, мастак

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя падобную працу зрабіў Напалеон Орда – абышоў усю Беларусь і захаваў вобраз краіны, якога больш не засталося нідзе. Тое, што пачуў і запісаў Зьміцер Бартосік – не паўторыць больш ніхто. Таму гэтая кніга ня мае аналягаў у нашай гісторыі XX стагодзьдзя. Гэта падарожжы ў пошуках нечага няўлоўнага, няпэўнага… свабоды. Таго, што ў беларусах схавана глыбака, сярод марных, паўзабытых спадзеваў, цёплых летуценьняў, што гояць зьняможаны розум, сярод мараў, якім не наканавана было зьдзейсьніцца… І Зьміцер Бартосік знаходзіў гэтую эфэмэрную, недавыказаную, нязьдзейсьненую прагу свабоды паўсюль, ва ўсіх баках вялікай нашай краіны.

Сяргей Харэўскі, мастацтвазнаўца

У вашага Бартосіка ў перадачах няма палітыкі. Там кіпіць жыцьцё. У яго старыя жанчыны, якім за 80 гадоў, дзіўна пра паноў апавядаюць. А як пяюць, жартуюць і сьмяюцца! Шкада, што яны ня чуюць ягоных перадач…

Анатоль Шапялевіч, слухач Радыё Свабода, Рагачоў

**Зьміцер Бартосік. Быў у пана верабейка гаварушчы…** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016. 326 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У гэтай кнізе няма агульнавядомых фактаў і амаль няма вядомых сюжэтаў. Аўтар сабраў разам гісторыі, пра якія сьведкі адважыліся распавесьці толькі напрыканцы жыцьця. Тым ня менш, факты і сюжэты складаюцца ў карціну Беларусі ХХ стагодзьдзя, і нельга сказаць, што гэтая карціна няпоўная або непраўдзівая. Яна распавядае пра мяжу дабра і зла ў душы беларускага чалавека, якую адныя пераходзілі, рабуючы панскія сядзібы, а іншыя не пераходзілі, пашыраючы асьвету і памнажаючы дабрабыт.
Фота аўтара. Аўтар фота на 4-й старонцы вокладкі Ўсевалад Сьцебурака.

© Зьміцер Бартосік, 2016
© Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2016
FOL

ISBN 978-0-929849-82-9

# Зьмест

# ПАДАРОЖНІК СВАБОДЫ

Тысячу разоў выпраўляўся Падарожнік у паход па невядомай плянэце з таямнічай цывілізацыяй, зьменлівым мінулым і застылай будучыняй.

Тысячу разоў сустракалі Падарожніка зачыненыя брамы, замкнёныя дзьверы, закрытыя вокны.

Тысячу разоў Падарожнік прасіў напіцца ў тутэйшых, якія ня ведалі, дзе жывуць, які час на календары, адкуль і куды ідуць.

Тысячу разоў Падарожніку казалі, што тут разумеюць толькі, чаго ня бачыць, што не памятаць, як не адказваць.

Тысячу разоў даставаў Падарожнік з заплечніка жывую цікаўнасьць, бясконцае цярпеньне і ветлівую настойлівасьць.

Тысячу разоў мусіла паўтарыцца тысяча разоў, каб расплюшчыліся вочы, расьцяліся вусны, паліліся прызнаньні і паўстала гэтая малая падарожная кніжыца.

Малая, як сьвет бясконцы, што ў ёй адкрываецца.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

# Як быццам спрабуеш дасягнуць далягляду

*Слова на дарогу*

Пра Беларусь я ўпершыню пачуў восеньню 1978-га. Мы жылі з маці ў Ніжнім. Бацька быў на стажыроўцы ў Маскве і па тэлефоне паведаміў, што мы пераяжджаем у «Белоруссию». Першае, што я зрабіў, — разгарнуў геаграфічны атляс СССР і тут жа расчараваўся. БССР была пафарбаваная самай брыдкай фарбай, нейкая брудна-фіялетавая пляма паміж яркай зялёнай Украінай і сонечна-жоўтай Літвой. Што там можа быць цікавага, акрамя назвы? «Белоруссия» ў мяне асацыявалася з футбольнай «Барусіяй». Падбадзёрыла суседка: «Белоруссия — это здорово! Там теплей будет. Только язык у них чудной. Вместо “умерла” говорят “померла”».

«Там теплей будет». У гэтым я пераканаўся адразу па прыезьдзе, калі прыйшоў пасярод навучальнага году ў свой новы клас гомельскай школы. Для мяне гэта была ўжо чацьвёртая школа ў жыцьці, і быць «новенькім» было нянова. Хоць і ня вельмі прыемна. Бо «новенькі» — гэта, як правіла, падколкі, наезды, крыўдныя мянушкі. Пайшоўшы ў школу ў Казахстане, я пасьпеў пабыць новенькім у Варонежы і ў Ніжнім. Але толькі ў Гомелі адразу, зь першага дня, стаў сваім. Зараз жа быў абкружаны будучымі дружбакамі, з усімі пераразнаёмлены і ўведзены ў курс усіх спраў. Гэта было неверагодна! Я нібы патрапіў у савецкае кіно пра піянэраў. Далейшая карціна ў рэальнасьці была далёкая ад такога кіно, але першы дзень у беларускай школе застаўся адным з самых запамінальных у жыцьці. Я зразумеў, што значыць «там теплей будет». Беларусь на прыгожай зялёнай мапе ў падручніку геаграфіі здалася проста ідэальнай краінай. І формаю, і памерам. А неўзабаве мне адкрылася і тэма «умерла-померла». Калі я быў вызвалены ад урокаў беларускай мовы.

Не забуду сваю першую сустрэчу з жывой беларускай мовай. Было гэта 1 верасьня 1979 году. У наш звычайны 4-ты клас звычайнай гомельскай школы паступіў навічок, Валера Кажэўнікаў, бацькі якога пераехалі на «Гомсельмаш» з блізкае вёскі Насовічы. Ніна Васілеўна, наша класная кіраўніца, жанчына разумная,

прыгожая і кампанейская, падняла новенькага, каб той прадставіўся. Называючы свой адрас, Валера гучна і выразна вымавіў нумар кватэры — «шэ́сьцьдзесят шэсьць». Клас выбухнуў рогатам. А бедны Валера лыпаў вачыма і кепска разумеў, што адбываецца. Ніна Васілеўна, замест таго, каб спыніць гэты гармідар, з прыязнай пэдагагічнай усьмешкай падказала Валеру: «Мальчик, правильно говорить “шестьдеся́т шесть”. Давай еще попробуем». І Валера зноў паўтарыў сваё «шэ́сьцьдзесят шэсьць». І зноў усе зарагаталі.

Іржалі ўчорашнія вяскоўцы. Іржалі тыя, чые бацькі прыехалі на «Гомсельмаш» год ці два таму. Іржалі тыя, хто кожнае лета праводзіў у вёсках сваіх бабуль. Стрымана ўсьміхалася Ніна Васілеўна, ураджэнка Чачэрскага раёну. І магла ж яна замест «правильно» сказаць «по-русски».

Іржаў і я. За кампанію з усімі.

Валера, нарэшце, з трэцяй спробы паставіў «правильный» націск. Абрад ініцыяцыі, пасьвячэньня ў гарадзкія адбыўся. Учорашнія маленькія беларусы працягнулі піянэрскую руку дапамогі новаму таварышу.

Сваіх словаў ён старанна пазьбягаў з таго дня. А я з таго дня, напэўна, падсьвядома запавважаў тых невядомых мне людзей (якія, я быў упэўнены, ёсьць), хто працягваў бы стаяць на сваім «шэ́сьцьдзесят шэсьць», пакуль бы мы не заткнуліся.

Я б ня выславіў гэтага ў 1979-м, але, відаць, ужо тады адчуў: беларуская мова — несавецкая. Прынамсі, пачатак гэтая думка бярэ з таго незабыўнага выпадку.

***

Больш уважліва і паважна на мапу ўжо незалежнай Беларусі я зірнуў праз 15 гадоў, у кабінэце гомельскага гарадзкога судзьдзі. Радзімая Расея хацела пазбавіць мяне свабоды. А нерадзімая Беларусь, у асобе сівога высокага чыноўніка, чыйго імя я нават не спытаў, вырашыла не выдаваць свайго грамадзяніна. «Вось паглядзі, сынок, на карту нашай рэспублікі. Свабодна езьдзіць цяпер ты будзеш толькі ў гэтых межах». Пасьля чаго дадаў, як напрарочыў: «Доўга будзеш езьдзіць». Я паглядзеў на мапу пад гіпсавай «Пагоняй» і ўзрадаваўся. Такой канкрэтна беларускай свабодзе. Краіна падалася мне велізарнай. І я паехаў.

Маё «Падарожжа Свабоды» па Беларусі цягнецца ўжо больш за 10 гадоў. Я накруціў па краіне тысяч сто кілямэтраў. Але не пакідае ўражаньне, што падарожжа толькі пачынаецца. Як быццам спрабуеш дасягнуць далягляду. Ці праехаць пад вясёлкай.

На пачатку 1990-х мне, рамантыку-нацыяналісту мроілася ідэальная Беларусь, дзе ў адказ на маю недасканалую, нядаўна вывучаную мову я ня буду сустракаць зьдзіўленыя позіркі, бо мова будзе тым паролем, які зьбліжае і дапамагае

прачыніць душы. Марылася не пра савецкую рэспубліку-партызанку і не пра антысавецкую падпольную рэч паспалітую. Хацелася краіны, дзе ні ў краявідзе, ні ў выпадковай размове нават не ўзьнікала б самога паняцьця «савецкасьці». Проста Беларусь. Але чым далей я ехаў і гаварыў, тым больш забываў пра сваю мару. Бо рэальная краіна аказвалася нашмат цікавейшай за ідэальную. Падарожыць цікавей, чым марыць.

За гэтыя гады і мілі мапа Беларусі для мяне ажыла ня помнікамі архітэктуры, не руінамі шляхоцкіх сядзіб ці навабудамі цэркваў, і нават не краявідамі. А дзівоснымі гісторыямі, запамінальнымі тварамі, жывымі галасамі людзей. Большасьці тых, хто гаворыць на старонках гэтай кнігі, ужо няма на сьвеце. Часам здаралася, што мой суразмоўца адыходзіў у нябыт праз дзень пасьля майго візыту. І, слухаючы ягоны жывы голас, я адчуваю кожнага разу дзіўнае пачуцьцё. Нейкую палёгку ад таго, што — пасьпеў. Пасьпеў ухапіць і перадаць яшчэ адну дэталь нялюдзкай эпохі, у якой жылі мае невыпадковыя суразмоўцы. І хоць у нечым, хоць крыху, але перагуляў сьмерць. Як пасьпеў у свой час у вёску Хальч.

***

Хальч — мястэчка з палацам на высокім беразе Сожа. А яшчэ ў Хальчы ёсьць чалавек, які сваёю прысутнасьцю ўпрыгожвае і ажыўляе

тутэйшы арыстакратычны краявід. Емяльян Аўрамавіч Бабкоў ня любіць, калі яго называюць старым. Ён называе сябе «даўні чалавек».

— Пяць вякоў да нашай эры тут людзі жылі. А Хальч у перакладзе з даславянскай мовы — вялікая рака.

Былы капальнік калодзежаў, былы будаўнік, былы сожаўскі бакеншчык, ён як зь іншага часу. Чорнае паліто і чорны капялюш, сівая велізарная барада і маладыя вочы. Ён падобны адначасова на талмудыста і на каляднага дзеда. Ён мне і растлумачыў сапраўднае паходжаньне слова «жыд».

— У Хальчы было пяцьдзясят восем крамаў. Жыдоўскіх. Так і цяпер старыя людзі называюць вуліцу «Жыды». Гэта ж пасьля даведаліся, што гэта яўрэі. А то ж было здаўна — жыд. Увесь час на іх ганеньні былі, яны выжывалі. Жыць хацелі. І слова «жыць» перавярнулі на «жыд».

Але галоўнае ў Емяльяну — ня зьнешнасьць. Бабкоў аказаўся не абы-якім філёзафам.

— Людзі дзеляцца на чатыры катэгорыі: разумны, пісьменны, хітры і просты. Разумны чалавек нарадзіўся з розумам. Ніколі разумны чалавек ня будзе спрачацца. Ён адразу разумее, што ты ня ў той бок хіліш. Гэта самы чысты чалавек. Што такое пісьменны чалавек? Гэта з кніжак. Разумны стварыў кнігу, а ён навучыўся. Разумны чалавек ніколі ня будзе сябе паказваць, а пісьменны: «Я вучыўся!» А што

такое хітры чалавек? Гэта самы шкодны чалавек. Нікому нічога, а толькі сабе. Ён вырашыў дабіцца свайго, ён абавязкова даб’ецца. І гэты хітры чалавек нікому нічога ня дасьць. Ён абяцае, але ня дасьць. Толькі сабе. Гэта самы страшны чалавек. Ніколі чалавек гэты не сап’ецца. А просты чалавек? Самы даверлівы. Гэта дурному брат. Простыя людзі — яны сьпіваюцца. Просты чалавек заўжды сап’ецца. Бо ён даверлівы, кожнаму слову верыць. Ён просты чалавек. У яго няма хітрасьці.

Сутыкаючыся з рознымі людзьмі, я часам успамінаю хальчаўскага філёзафа. Бо ён мае рацыю. І разумных ня так шмат, як хацелася б.

***

Да Ўсходняй Беларусі часам ставяцца як да безнадзейна саветызаванага краю. Тым больш было маё ўражаньне ад Хоцімшчыны, дзе да гэтае пары існуюць шляхоцкія і мужыцкія вёскі. І дзе да сёньня жыве памяць пра крывавы патоп 1654 году. А ў вёсцы Трасьціно ад былых эпох засталася руіна храма. Як кажа мясцовы краязнаўца Міхаіл Ласоўскі, 90-гадовы вясковы інтэлігент, былы настаўнік, гэты храм — дакладнейшы за ўсе памежныя слупы, бо гэта колішні касьцёл памежнага гарнізону Рэчы Паспалітай. У 1924 годзе, калі адбылося першае ўзбуйненьне БССР і савецкая рэспубліка павялічылася больш чым у два разы, дзіўным чынам мяжа Савецкай Беларусі на ўсходзе амаль

цалкам супала зь мяжой Вялікага Княства. Са словаў Ласоўскага, пэўны час мяжа праходзіла па Бесядзі. І для мясцовых дзяцей даваеннай пары яна была ня нейкай адміністрацыйнай граніцай паміж абласьцямі, а сапраўднай мяжой Радзімы. За якую біліся.

— Празь Бесядзь Расія была. І Бесядзь, якую апеў Аркадзь Куляшоў, была тут рубяжом. І толькі пасьля 1924 году той беражок быў далучаны да Беларусі. А раней тут былі такія скандалы! Зловяць нашыя смаленскіх і адлупяць. Безабразная драка. А зловяць нашых — таксама бяда. Нянавісьць такая. Граніца! Не хадзіце па нашай зямлі! Нават і зараз водгукі бываюць. Варажнеча не ад высокай культуры. Падпілі і давай біцца. Пойдзем на Бесядзь. Мы беларусы, хочам скупацца. І тыя. І калі іх партыя большая ідзе, нашых адлупяць. Бойкі працягваліся да 1941 году.

Беларуска-савецкая мяжа. Проста нейкі аксюмаран. На сёньняшнім гербе РБ колішнія серп і молат замяніў контур дзяржаўнай беларускай мяжы. Мяжы, якая склалася за саветамі, і чый абрыс, безумоўна, стаў у мазгах савецкага чалавека галоўным сымбалем Рэспублікі Беларусь. Большым за чырвоную зорку. Але беларуска-савецкая мяжа існуе. Яна праходзіць унутры кожнага беларуса — як бэрлінскі мур. І якая радасьць назіраць, калі ўдаецца чалавека хоць на хвіліну выцягнуць з-за гэтай сьцяны. На волю! Зь якім зухаватым запалам, зь якім

бляскам у памаладзелых раптам вачах глыбоцкі дзядок дэклямаваў мне вершык, вывучаны ў школе ў 1942 годзе. «Ёсьць у нас для абароны і вінтоўкі, і патроны. Стрэліць сталінскіх гадзюк!» Таго дзядка ўжо няма на сьвеце, а інтанацыя дэкляматара запомнілася.

Зрэшты, у Беларусі людзей, якія жывуць на беларускім баку той мяжы ня так і мала. Напрыклад, мастак Міхась Вераціла зь мястэчка Краснасельскае пад Ваўкавыскам. Гэты 75-гадовы няўрымсьлівы вясёлы гаварун ведае пра наваколье процьму легенд, памятае мноства калярытных старажылаў. Дык вось, Вераціла ў хаце будуе ўласны музэй. Робіць макет шахты часоў каменнага веку. Гэта падобна на ліфт у разрэзе. На першым паверсе, «глыбіні», можна будзе пабачыць фігуру «шахцёра» ў белай крэйдавай «шахце», якая вядзе ўгару. А з другога паверху можна будзе зазірнуць у гэтую шахту. Вераціла апантаны сваёй ідэяй не на жарт. Ён ужо зарабіў сабе грыжу, але пакуль жывы, будзе будаваць сваю шахту. А колькі ён ведае анэкдотаў з часоў першых саветаў. І галоўнае — умее іх расказваць.

— Быў такі Марка, той быў Манілавым. Ляжыць і марыць. «Вось каб такую дарогу пабудаваць з габляваных дошак, аж да Ваўкавыску. Каб ня трэсьціся па калдобінах, а раз — і там ужо. На кірмаш». Зіма прыходзіць. Халадзіна. А ён ні дровы не рыхтаваў, нічога. Мерзьне. А ў яго ў гумне салома была. Ён у салому закоп-

ваецца з галавой і ляжыць там. Колькі можа, вытрымлівае, ня еўшы. Прыходзяць саветы. У гумне дах абрынуўся. І каля зрубу трапіла некалькі каліваў канапель. А сонца няма. І тыя каноплі пачалі цягнуцца і вырасьлі вышэй за тын. Пад тры мэтры. А тут гэтыя камсамольцы. Год савецкай улады тут. І чаго мы дасягнулі? І давай хадзіць па хатах. Мо ў вас гарбуз вялікі ці агурок які? І тут бачаць у гэтага — каноплі. «Дзядзька, аддай каноплі на выставу». «Што вы, — кажа, — за ўлада такая жабрацкая, што канапель у вас няма? Выгадуйце і выстаўляйце». І не аддаў. Нават за грошы. Вось такі быў Марка.

Дзяржава не дапамагае Міхасю зь ягоным музэем. Зрэшты, як можна падпускаць да будаўніцтва шахты часоў палеаліту савецкую дзяржаву?

***

По дарозе на Глыбокае ёсьць вёска Варганы. Ляжыць яна пад велізарнай гарой, самай сапраўднай — зь вяршыняй, парослай лесам, і з падножжам. Як толькі вяршыня Варганскай гары паказваецца з-за далягляду, я кожны раз успамінаю пра сумную трохпудовую жабу, якая сядзіць там на гары і ўвесь час стогне. Такое паданьне распавяла мне старая варганская настаўніца Кацярына Каваленка, жанчына з тварам патомнай ангельскай арыстакраткі і цьвёрдым голасам. «Гэта было страшна! Гэта было жудасна!» — працягвала яна ўжо пра

1939 год. Маленькай дзяўчынкай яна патрапіла ў Беразьвечча ў 1941-м, калі немцы наладзілі «экскурсію» для жыхароў усяго navakolля. Пагналі глядзець на турму НКВД, якую перад тым сьпешна пакінулі чэкісты. Як я ні ўгаворваў, старая ні словам не абмовілася пра пабачанае ў дзяцінстве. Расказала толькі пра жабу. Напэўна, як і сваім дзецям і ўнукам.

Каля апошняй варганскай хаты, пры самай дарозе стаяць тры крыжы, складзеныя з абчасаных валуноў. Тут жыў унікальны чалавек. Аляксандар Каўбасіч. Невысокі хударлявы дзядок. Яго, сямнаццацігадовага юнака, гітлераўцы выправілі ў працоўны лягер у Латвіі, а савецкія «вызваліцелі» далі Каўбасічу 25 гадоў лягераў «за супрацоўніцтва зь немцамі». Зь іх дзесяць ён адбыў на Калыме. Да хрушчоўскай адлігі.

— Лазіць па шурфах — самае цяжкое было. Дзе ты ўсё раскажаш… Туды завезьлі, далі майку, картовыя штаны амэрыканскія, целагрэйку і летнюю фуражачку. А мароз як зімануў — 50 градусаў! Нас памясьцілі, баракаў не было, на сьнезе. Дык за ноч сто пяцьдзясят чалавек замярзала.

Там ён і навучыўся калоць камяні. Слава пра Каўбасіча хадзіла па ўсёй Глыбоччыне. Маглі ня памятаць ягонага імя, але заўжды ўспаміналі ягоны чароўны сталёвы молат. Я папрасіў Каўбасіча даць паспрабаваць. Выйшлі на дарогу. Я ўзьняў цяжкую кувалду над галавой і з усяе

моцы ўдарыў па валуне. Мой працоўны парыў пакінуў на паверхні адно няроўную драпіну. Маленечкі сухенечкі дзядок моўчкі пераняў з маіх рук сваю прыладу, паглядзеў уважліва на камень, узьняў і дакладна ўдарыў у патрэбную кропку. Валун разваліўся, як гарбуз. «За адзін удар раскалваю. Вось гэтым кантам. У мяне была кувалда на дванаццаць кіляграм. А гэтая толькі на дзесяць». На маё пытаньне, ці ёсьць у яго крыўда, Каўбасіч паглядзеў на мяне са зьдзіўленьнем: «Дык лёс жа такі».

Якая ў гэтым невысокім дзядку жыцьцёвая сілішча ўжываецца з пакорнасьцю лёсу. Такі выжыве на любой вечнай мерзлаце. Збудуе сабе хатку з валуноў і яшчэ на валунах бульбу пасадзіць. І пры гэтым напяваць сабе нешта будзе. І ўсіх «пераражывець»! І таварыша Сталіна, і дарагога Леаніда Ільліча, і дзясятак калгасных старшыняў, і сотні сэксотаў… Не да стогнаў яму! Цікава, ці памятаюць сёньня ў Варганах пра трохпудовую жабу?

***

Як бы выглядала наша краіна, калі б бальшавікі пакінулі ў спакоі ўсе храмы ў 1930-я гады! Калі б нацысты з саветамі не бамбавалі жылыя кварталы. Калі б партызаны не ўзрывалі і не палілі шляхоцкія палацы. Калі б па вайне не пракацілася яшчэ адна выбуховая хваля, якая зьнесла Полацкі езуіцкі сабор, менскую Халодную сынагогу разам зь Нямігай, гара-

дзенскую Фару Вітаўта і яшчэ безьліч помнікаў. У тым ліку ансамбаль цэнтральнай плошчы ў мястэчку Ільля Вялейскага раёну — старую ўніяцкую царкву і помнік-капліцу паўстанцам 1863 году, што загінулі каля вёскі Ўладыкі. Пра тое, як бурылі капліцу, мне распавёў унук паўстанца стогадовы Іван Рудніцкі.

— Прыгажосьць была трохпавярховая! Там унутры была мармуровая дошка, і на ёй залатымі літарамі былі напісаныя прозьвішчы ўсіх паўстанцаў, якія загінулі ва Ўладыках. Помнік стаяў пасьля вайны яшчэ. Дарэмна яго сталінскі рэжым зруйнаваў. Навошта? Хай бы быў. Каму ён замінаў? Красата. Упрыгожваў Ільлю. Хацелі падарваць спачатку. Але навокал дамы, нельга. Дзяўблі доўга. Бэтон быў моцны.

Дзед старога Івана, таксама Іван, быў касьцельным арганістам. І нават хаваў у касьцёле зброю паўстанцаў. Маглі і яго выслаць у Сыбір. Слухаць ягонага ўнука і крыўдна, і балюча. Бо разумееш, што інфармацыйная вайна генэрала Мураўёва працягваецца дагэтуль.

— У 1861 годзе адменены прыгон. А ў 1863-м памешчыкі зрабілі паўстаньне супраць цара. Ім, напэўна, не спадабалася. Яны ж былі поўныя гаспадары. Яны і судзьдзі былі, што хацелі, тое і рабілі. І каля вёскі Ўладыкі быў паўстанцкі лягер. А якія ў іх стрэльбы? Дубальтоўкі. І паслалі аднаго мужыка па піва. А гэты мужык — у жандармэрыю. НКВД тады ж не было. Далі ўзвод салдат. Ён і павёў іх праз лес. А салдаты ж

усе зь вінтоўкамі. Усіх іх там пабілі, паўстанцаў. Ніводнага салдата нават не паранілі. Некаторыя праз рэчку спрабавалі сплысьці, усё роўна пабілі. Памешчыкаў. Затым жандармэрыя знайшла ў касьцёле зброю. Напэўна, паўстанцы здавалі на захаваньне. І майго дзеда вырашылі ў Сыбір саслаць. У яго вялікая сям'я была. І сказалі — альбо прымай праваслаўе, альбо ў Сыбір. І ён прыняў праваслаўе. І так мы сталі праваслаўнымі.

Ці ня з той інфармацыйна-рэлігійнай вайны паўстала гэтая мяжа ў беларускіх галовах? Мяжа, якая часам ператваралася ў фронт. І дазваляла рабіць такое, пра што і ўспамінаць павінна быць сорамна, а ня тое, што гаварыць з гонарам. Сумленьне — катэгорыя, якая па той бок беларуска-савецкай мяжы не працуе. Там рабунак ператвараецца ў вяртаньне справядлівасьці, катаваньне — у змаганьне. Зрэшты, любое мярзоцьце набывае гераічны бляск.

***

У вёсцы Дублін пад Брагінам запомнілася размова з тутэйшым жыхаром Уладзімерам Кур'янам. Дабротную хату гэтага насьцярожанага дзеда ніяк не назавеш ягоным радавым гняздом. Бо дасталася яна ягонаму бацьку дзякуючы калектывізацыі.

— Тут жылі, дзе я жыву, жыды гэтыя. Тут у іх было два млыны. І калі ўжо ў 1929 годзе ў іх

гэтыя млыны канфіскавалі, ну, каб памешчыкаў, фабрыкантаў розных ліквідаваць, дык нам гэты дом аддалі. Майму бацьку аддалі гэты дом. Канечне, усім бедным людзям гэта было добра. Мой бацька першы пайшоў у калгас. Была адна карова і адна каняка. Але ж ня ўсе ішлі. Некаторыя не хацелі ў калгас. Ну, іх так паступова прыцясьнялі. Ссылалі. Мелі пяць ці колькі кароў. І яны ўжо лічыліся кулакі.

Усё гэта стары Ўладзімер расказваў бадзёрым голасам без драматычных нотак. Ён браў удзел у Другой сусьветнай вайне, выжыў пры ўзяцьці Штэтына. Але ягоныя ўспаміны пра Нямеччыну мне нагадалі кнігу Сяргея Пясэцкага «Запіскі афіцэра Чырвонай арміі».

— Столькі ў іх дабра было, што мы хадзілі і перакідалі яго. Шукалі. Аж зойдзеш у дом. Выкідаеш, выкідаеш. Што-небудзь добрае знайсьці. Ды думаеш — колькі ж у яго дабра! Нашто ім тая вайна была? Чаго яны хацелі? Ці многа нашы панабіралі? Некаторыя — канечне. Там інтэнданцкія службы. Начальства. Яны рабавалі. Хадзілі па дварах з шомпаламі. Сьвіныя кумпякі вэнджаныя. А кансэрвы якія курыныя! І мы даставалі. Жывіліся.

Ужо даўно не сакрэт, як савецкія салдаты часам абыходзіліся зь нямецкімі жанчынамі. Толькі лішні раз дзіўлюся, што ўдзельнікі нічога ганебнага ў тым ня бачаць. — Там у адной хаце былі немец зь немкай. І дочка іхная. І нашыя салдаты строіліся ў чаргу. Што хацелі.

А камандаваньне на гэта ніяк не глядзела. Хіба яны бачылі? А што? Калі ў каго немцы спалілі хату, радню расстралялі?

***

У вёсцы Сьвятая Воля каля Івацэвіч я сустрэў найстарэйшага мясцовага жыхара Міхаіла Каланчука. Дзядуля не па гадах жвавы і гаваркі. У 1940 годзе ён працаваў на чыгунцы машыністам цягніка, якім у Сыбір вывозілі «ворагаў народа».

— Як саветы прыйшлі, тут весела было, далей няма куды! Адкрыта ідзі ў клюб. Ня трэба плаціць. Бо раней плацілі. А то ідзі ў кіно! А людзей пачалі забіраць ужо ў саракавым. Вывозілі лесьнікоў, польскіх асаднікаў. Іх многа тут было. Шкада іх было. Прывезьлі ў саракаградусны мароз. На двары іх выкінулі. Зь дзецьмі. На вагоннай пляцоўцы. Пагрузілі і павезьлі. Я нават суправаджаў. На гэтай калейцы ўжо тады працаваў. Прыйшлося нам… Сьнежная была зіма. Дык мы выскокваем, сьнег расчысьцім і далей. Завезьлі ў Івацэвічы, павыгружалі, і ўсё. Гэта глупасьць была. Як яны сябе паводзілі? Плакалі і маўчалі. Ці адчувалі мы грэх? Ніякага граху ніхто не прадстаўляў. Не. Можа, якія, хто ў гэту рэлігію ўкаранёны… Можа. А так — не. Ну, вывозяць і вывозяць. А куды вывозяць? Ніхто нічога ня ведаў.

Гэты маналёг быў прамоўлены спакойным, прыязным тонам добразычлівага, адкрытага

чалавека. Напэўна, такім самым спакойным тонам запрашалі няшчасных у тое зімовае падарожжа. Ад гэтага безэмацыйнага тону людзям, пэўна, было зусім невыносна. Нішто так не паралізуе волю ахвяры, як спакойная абыякавасьць ка́та.

У Каралеўшчыне пад Докшыцамі недалёка ад дэпо жыве Часлаў Адамавіч Будрэвіч. У трыццаць дзявятым Чаславу было 14. Той год ён успамінае як самы жахлівы ў сваім жыцьці. Ад высылкі іх выратавала бацькава прафэсія — машыніст. Адам Будрэвіч кіраваў цягнікамі, якія вывозілі з навакольля кулакоў, асаднікаў, памежнікаў, настаўнікаў ды іншы «ненадзейны элемэнт». І вось пра якую дэталь распавёў мне сын машыніста.

— У трыццаць дзявятым годзе як прыйшлі, «брацкую руку» як падалі — ну і давай шарсьціць. Хто слова сказаў, не паддаецца — усіх туды. У Архангельск, у Котлас вазілі. Хто не падабаўся. Гэта адно. Другое... Шапкі зьдзіралі з галоў. Ага! Хапае шапку, глядзіць — Варшава ці Познань, Кракаў. Вядомыя шавецкія фабрыкі. Безагаворачна, безь нічога... Убачаць, чалавек ідзе ў капелюшы — усё. Котлас, Архангельск і Сыбір. І ніхто пасьля не вярнуўся. Болей за сорак градусаў мароз. А іх везьлі такія вагончыкі-каробачкі. І ў гэтых вагончыках цяплушак ніякіх не было абсалютна. Абрашочаныя люкі. Дзьверы на закрутку. З дошак зьбітыя прыладкі такія — для апраўкі людзям, і ўсё. Яны

ж іх тут хапалі апоўначы. Адзежы, нічога не давалі. Урываюцца, штыхамі ломяць дзьверы. І ў вагончыкі гэтыя. Да Полацку давязуць. Прыходзяць пад дзьверы, грукаюць: «Мороженые, умершие есть? Открывай». Трыццаць дзявяты год для Заходняй Беларусі быў страшнейшы, чым немец. Страшнейшага не было і пры немцах. Ну ўжо немец — гэта немец быў. А то ж гэта нашы лічыліся браты. І вось тварылі гэта.

Такім самым шляхам павінна была ехаць у высылку сям'я паэта Мар'яна Дуксы, які ўсё жыцьцё жыве ў родных Солах каля Смургоняў.

— Бацька быў дзесяць гадоў у Амэрыцы за польскім часам. Прыехаў, купіў 28 гектараў зямлі. У 1940 годзе быў суд на высылку. Мы не зьявіліся, бо быў страшны мароз — да 44 градусаў даходзіла. З малымі дзецьмі крануцца ў такі мароз не маглі. Справа цягнулася, са сьпісу ў сьпіс перакідаліся мы. Пачалася вайна. Нас вайна ўратавала ад фізычнага зьнішчэньня. Бо тыя, хто паехалі, усе памерзьлі… Едуць абозы. Маса людзей. Дзеці, галодныя. Плач стаіць. Дарога гэтая зарасла травой новай. Травой забыцьця. Нічога ня памятаецца. Але ўсё гэта было. Нікуды ад гэтага ня дзенесься. І жвір, на які падалі сьлёзы, — ён даўно прамыты дажджамі. Але памяць застаецца.

Пачуцьці, якія людзі перажылі зімой 1940-га, нікуды ня зьніклі. Не растварыліся ў жыцьцёвых клопатах. Не забыліся з часам. Бо тыя, з кім я гутару напачатку XX стагодзьдзя, тады

былі дзецьмі. Браніслава Кандуховіч зь вёскі Рубяжэвічы Стаўпецкага раёну распавядала, як забіралі яе бацьку — заможнага гаспадара, ня могучы стрымаць сьлёзы. Тыя, дзіцячыя сьлёзы.

— Як сёньня яго бачу. Мы ішлі зь ягад. Збаночкі несьлі. І глядзім — машына. Там людзі едуць і ўсё крычаць, рукамі махаюць. Мы сталі, глядзім. Глядзім — татусь едзе. Махае рукой. Мы за гэтаю машынай, паказваем, што хочам гэтыя ягады хоць аддаць. Ой... А цяпер прыслалі, што невінаваты. Загубілі сям'ю, бацьку ад дзяцей. У нас дзьве сястры памерлі. У пятнаццаць гадоў і адна, і другая памерлі…

***

Калі беларусы пачалі станавіцца савецкімі людзьмі? Калі пераехалі ў горад? Калі перайшлі на расейскую мову? Калі пазбавіліся прыватнай уласнасьці? У мяне ёсьць свой варыянт адказу. У Заходняй Беларусі гэты адказ больш відавочны, бо жывыя людзі, якія нарадзіліся не пры саветах.

Размова ў Бянюнах, вёсцы пад Гальшанамі, зь дзьвюма немаладымі кабетамі. Дагледжанымі, хударлявымі, карэктна-ўсьмешлівымі рымакаталічкамі Станіславай Рудзінскай і Эвай Мацэвіч. Станіслава апавядала з гонарам, як яе сьвёкар, парабак, вазіў пана коньмі аж у Вільню. Сама яна не парабчанка, а з багатай сям'і. Але пайшла за парабка. Была ў іх брычка, конь до-

бры, малатарня. І ўсё забралі. Гумно разабралі. Засталіся голыя. У калгасе задарма рабілі. А хто мог красьці, дык пойдзе «снапоў нейкіх ці сена якога» скрадуць.

— Я ўначы баюся хадзіць. Мужу кажу: Пойдзем скрадзем што-небудзь. А ён мне — ты мяне ў турму хочаш пасадзіць?

Тэму падхоплівае пані Эва.

— А я так любіла красьці! Каб вы толькі зналі. А не скрадзеш, дык жыць ня будзеш. Бо такое бядноцтва было.

З вуснаў старой дабрадушнай кабеты гэтая фраза — «я так любіла красьці» — гучыць дзіўна і ненатуральна. Разумееш, што кралі з калгасных палёў дзеля таго, каб выжыць. Але ўсё адно слухаць такое няёмка. Мяне ўразіў расповед Станіславы Рудзінскай пра самы першы крадзеж, які здарыўся ў верасьні 1939 году. Калі рабавалі сядзібу Карчэўскіх у Бянюнах.

— Пана раскулачвалі, забіралі ўсё. І пан кажа: «Рудзінскі, бяры. Ты ж мяне вазіў»... Разьбіралі. Тата цялушку прывёў. Зарэзаў і раздаў людзям. Тады ўсе цэлыя вазы грузілі. І крупы, і муку. Усё. Есьці сабе. Мама кажа: «Я стаю. Нічога сабе з адзеньня не ўзяла. Адчынілі склеп, а там поўна сыроў. Як рынулі людзі. Хто ляжаў, па гэтых ляжачых ляцелі. Ніхто не глядзеў, што там ляжаць людзі. А я дзесяць сыроў, кажа, узяла. Яны сьлізкія. Пад яблыню схавала, другі раз схавала». Во як разьбіралі. Усё пад мятлу мялі. Там страшна што рабілася. Са Смургоняў

пасьля віно вазамі вазілі. Белая кафля была. Усё паразьбіралі. Нашы людзі. Але не бянюнскія. Зь іншых вёсак прыяжджалі. На Карчэўскага ніхто не зважаў. Сядзеў, за галаву ўзяўшыся. Ніхто на яго не глядзіць. Лятуць, хапаюць. Лёгка хіба было перажыць? Разграмілі ўсё, што чалавек быў нажыўшы.

Вось такі «вясёлы» выдаўся першы дзень новага, савецкага жыцьця. Пасьля якога словы «красьці» і «любіць» стала магчымым вымаўляць разам. І зьнікла патрэба ў сумленьні.

***

Улетку 2006 году я завітаў на пару дзён у Крынкі, да пісьменьніка Сакрата Яновіча. Мяжа Беларусі ў Крынках праходзіць ледзь не за апошнімі хатамі.

Едучы да Яновіча ў госьці, я ўяўляў сабе сумную карціну. З-за назвы аднаго апавяданьня — «Доўгая сьмерць Крынак». Чакаў убачыць лядашчыя хаткі з пахіленымі платамі. Пагатоў прыемным было ўражаньне ад эўрапейскага мястэчка. Але Яновіч не падзяляў майго зачараваньня.

— Так, я б сказаў, што цяпер элегантная сьмерць. Бо зьмяншаецца вельмі раптоўна лік насельніцтва. Моладзь эмігруе, выяжджае на Захад, на заробкі. Нідзе ў Польшчы не жывуць так бедна, як у нас. У гэтым сэнсе тут усе беларусы — толькі яны аб тым ня ведаюць. Бо ва ўсіх іх ёсьць беларускі лёс.

У сёньняшніх амаль цалкам польскіх паводле мовы Крынках нават цяжка ўявіць, што некалі было інакш.

— Мова беларуская — гэта была ў той час моваю нармальных людзей. А ўсе іншыя мовы — то панскія выдумкі. Бо ў Крынках тады папольску гаварыла літаральна некалькі асобаў. Гэта ксёндз, паліцыянт, пан і настаўнік. Але ўсё гэта былі паны. А паны маюць нейкае дзіва. Два пакаленьні зьмяніць могуць многа. Цяпер на працягу двух пакаленьняў па-беларуску ў Крынках рэдка хто гаворыць. А моладзь выгадаваная ў школах. Таму так важныя школы.

Як жахліва й містычна выглядае колішняя польска-савецкая мяжа з заходняга боку! Уздымаесься за мястэчкам на ўзгорак — а за ім на многія кілямэтры цягнецца суворая сьцяна. Слупы з калючым дротам і чорны лес за тымі слупамі. Стоячы ў поўнай цішыні перад гэтым мурам, я не адчуў ніякага жаданьня памкнуцца на той бок калючкі. Сакрат Яновіч кажа, што гэтая мяжа, як ніштo іншае, уплывае на жыцьцё і мэнталітэт крынкаўцаў.

— Гэта быў вельмі пагодны сонечны дзень. На нашай Сакольскай вуліцы павыбягалі ўсе бабы з кветкамі. Кідаюць тыя кветкі цэлымі букетамі на танкістаў. Танкісты стаялі ў тых танках, а танкі з грукатам перлі на Беласток. За танкамі беглі дзеці, я бег. Гэта было вялікае сьвята. Сьвята, аб якім сьнілася ці марылася цэлае міжваеннае дваццацігодзьдзе. Аб’явілася

наша ўлада. Нашыя родныя анучнікі паначаплялі чырвоныя кукарды на грудзі, абвясьцілі самі сябе камэндантамі міліцыі. Але ўсё гэта цягнулася два дні. Прыйшло савецкае начальства, і гэтых нашых родных камунякаў разброілі. І сказалі, што тут можа быць толькі адна ўлада. Савецкія функцыянэры. Памяць пра страшную савецкую ўладу існуе па сёньняшні дзень. Толькі сёньня гэтая памяць мае характар генэтычны. Бо моладзь, якая цяпер ёсьць, ня памятае тых эпізодаў, якія памятаю я. Страх перад саветамі перадаецца ў падсьвядомасьць. Жывем пад лапаю нейкага мядзьведзя. І той мядзьведзь у добрым настроі. Ён ня душыць, ня б'е. Але мы ведаем, што за кілямэтар ад нас ёсьць тая рэчаіснасьць, аб якой бацькі расказвалі як аб нечым жахлівым. Расказвалі аб тым, што калі прыйшлі саветы да нас, то на нашай вуліцы наладзілі народны сход. І на гэтым сходзе нашыя наіўныя людзі пачалі перад савецкімі камісарамі скардзіцца, што пры паляках жылося цяжка. Палякі не давалі работы. А саветы слухалі й дзівіліся, ці гэта былі дурні тыя палякі, што не давалі работы. Мы вам дамо работу. Але кожны думаў па-свойму. Нашы думалі найперш аб заробках. А савецкія камісары акурат так ня думалі. І ў хуткім часе пагналі ўсіх на вырубкі лесу.

Сакрат Яновіч ня мог схаваць свайго грэблівага стаўленьня да вёскі. Пісьменьнік ня мог дараваць вяскоўцам адкрытага рабава-

ньня габрэйскіх дамоў пасьля вынішчэньня іх гаспадароў. Марыя Самасюк, вясёлая, шчырая цётухна з горада Высокага — ужо зь беларускага боку мяжы, расказвала мне пра падзеі, якія адбываліся ў іх.

— Мы жылі ў вёсцы. І як забралі яўрэяў... Я помню, як мама мая і іншыя жанчыны пайшлі нешта шукаць у іх. Мая мама на сьпіне прынесла стол невялікі. І крэсла яшчэ. На сабе. Як яна казала, на гэтым крэсьле вуйт сядзеў! Мая дачушка ў Мінск яго забрала. Такое крэсла прыгожае! Як у начальніка. І вось цяпер яно ў дачкі, у Мінску. Мая мама крэсла прынесла, а людзі павозкамі вывозілі. З усіх вёсак людзі прыяжджалі. Некаторыя людзі многа золата знайшлі. Пасьля вайны будаваліся за тое золата. Цэлыя скарбы знаходзілі.

Гэтая абаяльная кабета ня бачыць у паводзінах вяскоўцаў нічога кепскага. «Не прападаць жа дабру». І я яе ні ў якім разе не асуджаю. Бо для яе тое старое крэсла было неад'емнай часткай дзяцінства. Ледзь не сямейнай рэліквіяй. Але ж старыя рэчы нясуць на сабе памяць пра былых гаспадароў. І нехта кінуў на гэтае крэсла апошні позірк перад дарогаю ў невараць.

Маральнай стэрыльнасьці не бывае. Хіба толькі ў савецкіх кніжках. А людзі — яны жывыя. І адкрытасьць і шчырасьць, можа, найпершыя несавецкія якасьці. Несавецкі чалавек ня будзе казаць «как надо». Таму я адчуваю найбольшую ўдзячнасьць да тых суразмоўцаў,

якія адкрываюць заслону, за якой хаваецца непрыгожае. Сваё непрыгожае.

***

Чым больш аддаляецца ў часе вайна і сталіншчына, тым больш разьняволенымі становяцца людзі ў сваіх успамінах. Паступова спадае страх.

У сваёй вандроўцы ў вёску Воўцу пад Карэлічамі я каторы раз пачуў пра забойства беларускай сям’і савецкімі партызанамі. Забілі гаспадара, Уладзімера Блакіцкага, ягоную жонку Еўдакію, сястру, і чацьвярых дзяцей. Наймалодшай дачцэ было 3 гады. За што расстралялі — невядома.

Гэта ня першая падобная гісторыя на шляху маіх падарожжаў. У Багданаве на Валожыншчыне я чуў ад людзей, як у красавіку 1943-га савецкія партызаны расстралялі сям’ю солтыса Вайгяніцы. Забіта было 5 дзяцей. У вёсцы Сакалоўка на Вялейшчыне старая Валіна Войцік распавядала мне, як савецкія партызаны забілі сям’ю яе цёткі. Толькі за тое, што цётчын муж служыў лесьнікам. Расстраляна было шэсьць чалавек, зь якіх двое дзяцей. У вёсцы Варонча каля Міра старыя памятаюць, як напярэдадні першамая 1943-га была замардаваная сям’я шляхцічаў Чарноўскіх. Сярод загінулых — маладая цяжарная жанчына. У вёсцы Міхалова, якую паглынуў Менск, старажылка памятае настаўніка беларускай мовы,

забітага партызанамі. На Вялейшчыне, ужо пасьля адступленьня немцаў, настаўнік спрабаваў угаварыць партызан не паліць будынак школы. Бо дзецям жа вучыцца трэба. Школу спалілі, а настаўніка расстралялі. Зрэшты, настаўнікаў палегла тады безьліч. Я пра дзяцей. Іх, са словаў бягомальца Канстанціна Гайдука, загінула шмат у сьнежні 1942-га пад Бягомлем, дзе партызанскі камандзір Сьцяпан Манковіч наладзіў «чыстку» цывільнага насельніцтва. Гінулі дзеці і ў Дражне пад Старымі Дарогамі, дзе жыхары памятаюць, як быў разгромлены паліцэйскі гарнізон.

Гэта не былі забойствы сьведак рабаваньня, як тое здарылася зь няшчаснай сям'ёй сястры Максіма Танка. Гэта былі выкананьні загадаў камандзіраў. Усе гэтыя факты я здабыў ня з кнігі «Памяць». Пра ўсё гэта я ведаю толькі са словаў маіх суразмоўцаў. Іншых крыніц папросту не існуе ў прыродзе. І як гэта ўсё называць? Як называць выканаўцаў гэтых загадаў? Партызанамі? Абаронцамі? Ваеннымі злачынцамі? Як назваць тых, хто аддаваў гэтыя загады? Чым яны адрозьніваюцца ад нямецкіх карнікаў?

Сярод тысяч удзельнікаў партызанскага руху былі, напэўна, розныя людзі. Ідэйныя камуністы і безыдэйныя мсьціўцы, сапраўдныя героі і сапраўдныя садысты, змагары з марадзёрамі і звычайныя рабаўнікі. Але ўсе яны яшчэ да перамогі атрымалі індульгенцыю на ўсё, што адбывалася на акупаванай немцамі тэрыторыі.

Усе сталі героямі. Многія аўтаматы памянялі на ўладныя партфэлі. І спатрэбілася 70 гадоў, каб людзі пачалі гаварыць пра ваенныя злачынствы.

А, можа, ня будзем «пераглядаць гісторыю» і мяняць ацэнкі. Бо ці былі злачынцамі камандзір Іван Чумачэнка, які расстраляў сям’ю Чарноўскіх, ці Васіль Сякірка, які забіваў трохгадовую дачку Блакіцкіх? Мо яны, згодна зь лёгікай вайны, дзейнічалі абсалютна правільна? Ну не дзеля абароны ж мясцовага насельніцтва НКВД ствараў партызанскі рух. А дзеля нанясеньня максымальнай шкоды праціўніку. І тады ніякія яны не злачынцы. А воіны, якія эфэктыўна праводзілі акцыі застрашэньня. Ад выгляду прашытага кулямі маленькага цельца мала каму захочацца заняць вызваленае месца солтыса ці лесьніка…

Але лягчэй ад гэтага ня робіцца. Як гэта ўсё называць? А галоўнае — як называць гэтых няшчасных, пра якіх маўчыць кніга «Памяць»? Быццам ніколі іх і не было.

***

У красавіку 1944 году, калі фронт каціўся на Захад, каля вёскі Парэчча ў Докшыцкім раёне група савецкіх партызан заклала міну. На ёй падарваўся нямецкі патруль. Ніводзін гітлеравец не пацярпеў, загінулі толькі два кані. І за гэта немцы Парэчча пакаралі. За восем конскіх ног расстралялі восем чалавек. Адбылося гэта 29

красавіка, а 1 траўня ўсіх парэчанцаў вывезьлі ў вёску Сітцы ў лягер ваеннапалонных, а хаты спалілі.

Парэчча — вёска ня проста прыгожая. Яна нагадвае пастаральны пэйзаж. Дзьве вузенькія вулачкі зь ярка расфарбаванымі дамкамі. Падворкі патанаюць у кветках. Ва ўсім адчуваецца прага жыцьця і працы, хаця ў Парэччы ўжо не засталося людзей працоўнага веку. Тут жыве пара дзясяткаў пэнсіянэраў. І амаль усе яны ў дзяцінстве рыхтаваліся да сьмерці. Як, напрыклад, Часлаў, дабрадушны румяны дзед, і ягоная жонка Ганна, невысокая і жвавая, што завіхаліся каля сваіх вульляў.

Яны мне наперабой расказвалі, як у той страшны дзень вёску абкружылі карнікі, як людзі апынуліся ў лягеры.

— Нас выратаваў афіцэр Беларускай краёвай абароны Рачыцкі Мечык. Ён сказаў, што «Я тады са сваім войскам пайду на вас, калі вы маіх братоў, сёстраў пастраляеце».

Староста вёскі Антон Стычнеўскі, жыцьцярадасны асілак, таксама быў у тым лягеры.

— Плян быў такі. Мы ўжо яму выкапалі. Старых — расстраляць, а моладзь у Нямеччыну. Але адзін зь вёскі працаваў у самаахове. Армія такая была, самаахова. Беларуская нацыянальная армія, каторая за немца ішла. Ён пры Польшчы гімназію скончыў, пісьменны, капітана званьне меў. Рачыцкі. Ён зайшоў, у яго карабін быў нямецкі. А перакладчык быў украінец. І

гэты перакладчык стаў хлусіць. На нас цень накладваў. І ён яму чыста па-нямецку сакануў: «Чаму нямецкі афіцэр, камэндант трымае такога здрадніка?» Дык ён пісталет узяў, па галаве даў, і яго ўвязьлі. Перакладчыка.

Тое, што вяскоўцы расказваюць пра Рачыцкага, больш падобна на легенды, чым на праўду. І пісталетам па галаве перакладчыка біў. І немцам пагражаў… Бліжэйшым часам помнік на радзіме герою не паставяць. Але імя ягонае дакладна забытае ў Парэччы ня будзе.

І яшчэ. Чаму на адрас немцаў беларусы, нават тыя, хто страціў радню падчас карных акцый, заўжды знойдуць (абавязкова знойдуць!) некалькі добрых словаў. І пра чакалядкі для дзяцей. І пра знаёмства з драўлянай прыбіральняй. І пра яйка з салам, за якія плацілі грашыма. І чаму на адрас партызан, якія, хай у цябе асабіста нічога не забралі і нікога з тваіх не забілі, але заўжды знойдзецца грэх, якім трэба іх, злыдняў, памянуць? Ці не таму, што сваіх баяліся больш? Бо свае нікуды не падзенуцца. Ні пасьля вайны, ні падчас яе.

***

У тым, што ў Беларусі паўсюль знойдзецца свая лякальная гісторыя пра дабро і зло, я пераканаўся, толькі ажаніўшыся.

Вёска Канюцічы — маленькае паселішча з адной вуліцы непадалёк ад Сеніцы пад Менскам. Гэта радавое гняздо маёй жонкі, дзе мы

праводзім сям'ёй кожнае лета. Назваць вёску, заціснутую паміж вайсковым аэрадромам у Мачулішчах і Слуцкай шашою, маляўнічай ці ўтульнай не выпадае. Бо ўвесь час над хатамі вісіць гул самалётаў. Калі ж баявыя машыны не ахоўваюць наш мірны сон, тады даносіцца шум ад блізкай шашы. Блізкасьць гораду адбіваецца і на вясковай архітэктуры. Старыя лядашчыя хаты перамяжоўваюцца з сылікатнымі катэджамі былых менчукоў. Навокал ні лесу, ні вадаёму. Але нават у такой, на першы погляд, банальнай сытуацыі мне адкрылася таямніца.

«Там, дзе быў лягер». Гэтую фразу прамовіла неяк суседка. І высьветлілася, што на месцы агародаў за домам нумар 58 была абгароджаная калючым дротам пляцоўка з баракам. Падчас усёй акупацыі ў Канюцічах існаваў лягер ваеннапалонных, якіх прымушалі працаваць на Мачулішчанскім аэрадроме. Усю акупацыю тут жылі і працавалі савецкія вайскоўцы. Жыхары Канюціч чым маглі іх падкормлівалі. Але вялікім адкрыцьцём для мяне было даведацца, што людзі, якія служылі ў акупацыйнай паліцыі, прынамсі ў Канюцічах, па вайне ня трапілі пад суд. Пра гэта распавяла старажылка Алена Клімовіч.

— Нашы паліцаі даўно ўжо падохлі. Ніхто іх ні ў якія лягеры не забіраў. Хай скажуць дзякуй, што ў нас такі народ, ніхто нікому не сказаў, што яны былі ў паліцыі… Што яны тут выраблялі! Мой брат быў у партызанах. Дык бацьку

вазілі ў Самахвалавічы і білі. «Дзе сын?» І яны спакойна пражылі, і ніхто іх не чапаў. Такія ў нас людзі добрыя. Жыў у нас такі паліцай, ён роднага брата застрэліў. Калі б зараз пачалася вайна, усе нашы алькаголікі нас бы пазабівалі. Бо мы ведаем пра ўсе іхныя дзялішкі.

Я крыху іншым позіркам паглядзеў на стары дом, дзе бавіўся летам і дзе семдзесят гадоў таму жыло некалькі шараговых нямецкіх салдат і адзін унтэр-афіцэр. Пра іх ролю ў лёсе нашай сям'і і лёсе ўсёй вёскі мне распавяла жончына цётка Валянціна Карпіловіч, якая ад нараджэньня жыла ў гэтым доме. Яна магла быць расстраляная з-за пільнасьці паліцаяў, але выжыла дзякуючы тым нямецкім салдатам.

— У нас у хаце жыло тры немцы. І па суседзтве стаялі. Яны нас ахоўвалі і ад гестапаўцаў, і ад паліцыянтаў. Калі яны нешта пачуюць, яны нам паведамлялі, каб мы хаваліся. Іх нельга параўнаць з нашымі паліцыянтамі. Гэтыя немцы былі сапраўднымі абаронцамі вёскі. Быў выпадак, калі партызаны зь лесу прыехалі па кабана. І адзін з нашай вёскі данёс у паліцыю. Ня немцы заявілі, а наш. Што прыяжджалі партызаны. І тут жа немцы гэтыя папярэдзілі, каб таго кабана заколатага закапалі. Прыехалі паліцаі з сабакамі. Усю вёску пастроілі. Сказалі, што калі знойдзем сьвежае мяса, кожны адзінаццаты будзе расстраляны. Але кабана не знайшлі.

Чым мог скончыцца той выпадак з кабаном, які быў зарэзаны для партызан і якога не

знайшлі паліцаі, тлумачыць ня трэба. Чалавека, які выратаваў жыхароў Канюціч ад сьмерці, звалі Гельмутам. Ён быў у чыне унтэр-афіцэра. Прозьвішча Валянціна ўспомніць не змагла. Але дзякуючы менавіта гэтаму чалавеку сёньня жывуць і мае дзеці. І калі ў Асьвенціме малодшая дачка спыталася ў мяне, ці немцы людзі, я растлумачыў, што «немец» і «нелюдзь» — гэта зусім не сынонімы. Як і «беларус» ня значыць «заўжды добры чалавек».

***

У вёсцы Курылавічы на Глыбоччыне жыве толькі адзін чалавек. Сярод закінутых і разваленых хат толькі ў адной штовечар запальваюцца вокны. У хаце Адальфіны Крук. Уключаецца сьвятло, але не тэлевізар. Адальфіна, дабрасардэчная жанчына, ад адзіноты ратуецца чытаньнем, а ня «скрыняй».

— Жудасна. Даўней было хат 50. Весела было, людзей многа. Я яшчэ ў школу хадзіла. Бабы ў нас зьбіраліся. Хата вялікая была. І сусед казаў — яшчэ прыйдзе гэткі час, што чалавек чалавеку будзе рады. А я ляжу на печы і думаю — а дзе ж яны дзенуцца? А цяпер мне самой гэта прыйшло. Рада, як чалавека пабачу. Во, думаю, праўда. Людзі ўперад зналі ўсё.

Пані Адальфіна падаравала мне сваю неверагодную гісторыю часоў вайны. Яе мужа акупанты вывезьлі на працу ў Нямеччыну. Але на чужыне той зусім ня згінуў.

— Яго немцы забралі. А ён там атруціўся гарэлкай. Ня насьмерць. Падлячылі, групу далі. Дык што, ён паедзе сюды? А пасьля расьпіўся. Мне ягоны друг расказваў. Расьпіўся, кажа, валізку водкі возьме, пад кочкай паставіць і п'е. Пасьля ідзе ў алькагольную бальніцу. І ён там у 78 гадоў памёр. Мы перапісваліся. Але неяк ён напісаў, што жонку там можна купіць за пачак папярос. Дык я ўзлавалася і ня стала адпісваць яму.

***

Несавецкі чалавек — гэта зусім не антысавецкі чалавек. І ў яго можа ня быць вышэйшай адукацыі. І ён не абавязкова мусіць валодаць ангельскай ці францускай мовай. Але цану сваёй ён ведае. І ніколі ад яго не пачуеш «малая родзіна». Толькі — бацькаўшчына.

Вёску Малмыгі немагчыма знайсьці на мапе. Яна зьнікла гадоў сорак таму пад хвалямі Вялейскага мора. Але раз на год каля памятнага каменя, які ўсталявалі самі былыя малмыжцы, зьбіраюцца людзі зь Вялейкі і Воршы, зь Менску і Горадні, прыяжджаюць нават з Эстоніі і Латвіі.

Старэйшы малмыжац Георгі Мароз, селянін з тварам літаратурнага клясыка, з мудрым позіркам з-за рагавых акуляраў, усё жыцьцё працаваў электрыкам на Вялейскім моры і, дарэчы, выратаваў не адно жыцьцё купальшчыкаў. А яшчэ Георгія можна лічыць першым беларускім палітвязьнем. У далёкім 1991-м, калі ў Беларусі

ніхто ня чуў пра «тэрміны за палітыку», дзед Жора выйшаў на галоўны Вялейскі пляц, каб прылюдна спаліць свой партбілет. За гэты ўчынак ён атрымаў 15 сутак. Пасьля чаго перайшоў у жыцьці выключна на беларускую мову.

— Вайну бачыў. І немцаў гэтых бачыў. І партызан бачыў. Яны забіралі ўсё, што ім патрэбна і што непатрэбна. Ну як гэта так: у нас трое дзяцей было — узяць карову і павесьці. Ну як так? Я вам раскажу выпадак такі. Немцы ўсталёўвалі парадак, прызначалі старастаў. А ў нас старастам у вёсцы ніхто не хацеў пагаджацца на пастаяннай аснове. Дык яны па чарзе. Карацей кажучы, стаў Баравы такі, Іван. Дык мужыкі кажуць: «Нашто нам мяняцца? Будзь ты старастам. Якая табе розьніца?» Вёска яго прымусіла. А нашы прыйшлі — і дзесяць гадоў катаргі. І за што? А калі б чарга спынілася на маім бацьку?.. Бацька мяне вучыў: «Што чалавек думае, хай яму застаецца. А што ты думаеш, хай табе». Дык жыву па гэтым прынцыпе.

Якая часам у даўніх беларускіх людзей мова! Такой трапнасьці і вобразнасьці ні ў якім радыё не пачуеш. Часам думаеш — ну навошта цягнуцца на той далёкі хутар каля вёскі Зябкі ў Глыбоцкім раёне да нейкай бабулі. Ну што яна новага можа паведаміць пра той 1939-ты? Але ідзеш. І бабка, распавядаючы пра прыход саветаў, раптам адным словам ды інтанацыяй паказвае салдата з Усходу. «Сядзіць на возе такі салдацік… зьнішчаны». Усё. Больш пра гэтага

«зьнішчанага» можна нічога не дадаваць. Які ён бедны, кепска апрануты, сумны і яшчэ тысяча рысак. Усё ўжо сказана адным словам. Старая пісаць ледзь умее, а пачуцьцё слова такое, якому ў інстытуце не навучаць.

Ці вось такая пэрліна, таксама з Глыбоччыны. Кабета ў гадах, кажучы пра першыя саветы, гэта значыць 1939 году, нясьпешна так, быццам казачку баючы, вымаўляе: «Першыя рускія былі добрыя. Прыйшлі, перазімавалі і пайшлі сабе…»

Спачатку сьмяесься, а пасьля з халадком у грудзях разумееш, што гэта зусім не пра першыя саветы яна кажа. А пра іншыя. Гэта значыць, нядобрыя. Якія затрымаліся не на адну зіму. Вызвольныя саветы 1944-га. Вось такая мова эзопава.

***

Што азначала апынуцца ў ліпені 1944 году на вызваленай тэрыторыі мірнаму беларусу, мужчыну прызыўнога ўзросту ды яшчэ па-за межамі сваёй хаты? Усе гэтыя абставіны маглі мець фатальны вынік.

«Добры дзень. Вырашыў напісаць пасьля апошняй вашай перадачы. Майго бацьку таксама расстрэльвалі чырвонаармейцы. У 1944 годзе перад прыходам Чырвонай арміі ў Негарэлае немцы, адыходзячы, пазабіралі ў мясцовых жыхароў коней і зладзілі абоз. Кіраваць узялі падлеткаў і старых. З абозам мой бацька,

17-гадовы юнак, дайшоў да Наваградка. Потым яны (два юнакі і некалькі старых) уцяклі. Па дарозе дадому папалі да партызанаў у Налібоцкай пушчы. З тыдзень бацька там пасьвіў кароў. Потым камандзір выпісаў нейкую паперу і адпусьціў дадому. Выйшлі з пушчы на ўскраек вёскі Пясочнае каля Міра. Насустрач перадавыя часьці Чырвонай арміі. Кавалерыя. П'яны афіцэр. Хто такія? Расстраляць».

У той самы дзень я выправіўся ў мястэчка Негарэлае, дзе жывуць Мікалай Іванавіч Валахановіч і ягоная жонка Феня Ёсіфаўна. Абаім пад 90. Але з памяцьцю ў гэтых людзей усё добра. Зрэшты, тое, што перажыў Мікалай летам 1944-га, забыць немагчыма.

— Нас было пяць чалавек. Двое маладых — я і Шура Стэльмах. І трое саракагадовых: Васіль Сьмялоў, Бобчанка — імя ня памятаю — і Кісель з Чурылаў. Да партызан церазь Нёман пераправіў нейкі стары. Бачыў, як партызаны мініравалі дарогу ад танкаў. Дзьве жанчыны і мужчына. Раптам выбух. Адна жанчына загінула. Перавярнулі яе, а замест твару кавалак мяса… І ў тым атрадзе мы і жылі, каровы пасьвілі. Тыдзень мы там пажылі, і бачым неяк — едуць конныя чырвонаармейцы. Ну, мы думаем — нашы! Пайшлі да камандзіра атрада — мы пойдзем дахаты ўжо. Ён кажа: «Вам няма як ісьці. Па лясах яшчэ немцы. І нават перадавыя часьці Чырвонай арміі вас могуць забіць». Ён як у ваду глядзеў.

Яны ўсе маглі застацца жыць, калі б паслухаліся партызанскага камандзіра. Але моцна хацелася дамоў.

— Мы пабылі два дні яшчэ і зноў пайшлі да камандзіра. Ён ізноў адгаворваў. А пасьля ўзяў паперу, напісаў нешта. Што ён напісаў, я ня ведаю. Ну, і пайшлі мы. Выйшлі за Нёман. Першая вёска, я чытаю — Пясочнае. Каля першага дому лавачка, мы там і паселі. Раптам ідзе салдат. «Ідзіце, вас кліча начальнік». Я пайшоў у двор, там афіцэр стаіць на двары зь пісталетам. «Хто такія? Бандыты! Уласаўцы!» Як ён нас толькі не абзываў. Я ня ведаю, што і гаварыць. Адзін чалавек выйшаў. І кажа: «Ну, ты са сваімі як хочаш. А я свайго адпускаю». Нейкага чалавека адпусьціў. А гэты п’яны. Давай абшукваць мяне. Дастаў з кішэні тую паперку ад партызанскага камандзіра. І, не чытаючы, за плот выкінуў. «Давай астатніх сюды!» І я ззаду ў яго апынуўся. Першым ішоў Кісель. Ня памятаю імя. «А ты, стары хрэн, чаго тут?» Бах-бах! Два разы. Той упаў і трапечацца. Ён да салдата: «Дабі яго!» Той з аўтамата стракануў. Той ужо не шавеліцца. Выйшлі іншыя салдаты, глядзяць. Што такое? Падбеглі, аднялі ў яго пісталет. Але ж ён камандзір! Капітан! Ізноў аддалі. А як аддалі, ён на Бобчанку. Два разы стрэліў. Як першы раз стрэліў, Бобчанка хапіўся за шыю. Затым другі раз стрэліў. У гэты час салдаты махнулі нам рукой. Мы ўдвух з Шуркам Стэльмахам стаялі за ім. Ну, мы пабеглі. Мэтраў за трыццаць гумно

было. І адны, і другія дзьверы адчыненыя былі. Мы праз гумно — і ў жыта пабеглі.

Такім чынам вырваліся двое. Мікалай Валахановіч і Аляксандар Стэльмах. Але ў Міры іх ізноў арыштавалі. Ізноў іх жыцьцё павісла на валаску. І ўратаваў незнаёмы франтавік.

— Толькі зайшлі ў Мір. Ізноў салдат. Ізноў: «Ідзіце да начальніка». «Хто такія? Ай, давай іх туды!» Куды? Невядома. Ці да палонных немцаў, ці страляць? А другі кажа: «Ты што? Гэта ж нашы дзеці! Мы што? Будзем сваіх дзяцей страляць?» І яшчэ нешта сказаў. І той начальнік: «Ладна, ідзіце начуйце. Потым разьбярэмся». Раніцай адпусьцілі. Прыйшлі дахаты. Бацька мёд катаў. Убачыў мяне і заплакаў. Думаў, што я ўжо не прыйду.

Мікалай Валахановіч і Аляксандар Стэльмах дажылі да нашых дзён. Але гісторыя гэтая так і засталася б невядомай, калі б ня сын Валахановіча, таксама Мікалай. Напрыклад, дачка Стэльмаха размаўляць журналісту Радыё Свабода з бацькам пра падзеі 1944 году не дазволіла. Гэта быў адзін на сто выпадкаў, калі мяне выправілі з хаты. Прычым выправіў ня той, да каго я прыйшоў па ўспаміны, ён быў гатовы да размовы. Але дзякуючы Валахановічу-малодшаму карціна вызваленьня дапоўнілася важным эпізодам. І, сьвяткуючы Дзень Перамогі, трэба памятаць і пра гэтыя забраныя жыцьці. Негарэльцаў Васіля Сьмялова і Бобчанкі, і Кісяля зь вёскі Чурылы.

***

Каб толькі не было вайны! Пасьля таго, што Беларусь перажыла, гэтае выслоўе зусім не выглядае савецкім лёзунгам. І вельмі дзіўна пачуць нешта супрацьлеглае. Аднак я гэта пачуў. У Жодзішках пад Смургонямі.

Жодзішкі славутыя сваім касьцёлам Найсьвяцейшай Тройцы. Драматычныя падзеі тут разгарнуліся напрыканцы 1920-х гадоў, калі ў сьвятыні служыў адзін зь лідэраў беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Дзякуючы яму нямала маладых людзей азваліся беларусамі. І жаданьне маліцца на роднай мове трэба было ў літаральным сэнсе адваёўваць у супрацьстаяньні з тутэйшымі палякамі.

Альдона, 85-гадовая полька, у тыя гады была зусім дзяўчынкай.

— Помню Гадлеўскага. Хацеў беларускага языка. А мы не хацелі, дык мы ганілі яго. Не любілі.

На маё пытаньне, ці будзе Беларусь нармальнай краінай, хударлявая старая адказала наступнае.

— Хто яе знае. Калі будзе вайна, дык тады можа і быць. А ня будзе вайны, так і будзем таўпціся. Альбо будзе канец сьвету. Павінна быць вайна. Такі сьвет не павінны быць. Хіба гэта сьвет? Які гэта сьвет! Будзе вайна, застануцца самыя лепшыя людзі. Застануцца людзі годныя. І сьвет той будзе не такі, які ў нас ёсьць.

Напэўна, ад 1944 году, калі сюды прыйшло савецкае войска, яна так і чакае вайну. Вайну, якая, згодна зь яе ўяўленьнямі, ачысьціць наваколльле ад нягодных людзей. Пра нацыянальнасьць нягодных я пытацца ня стаў.

***

У Воўчыне, каля самай польскай мяжы, мне стала шкада апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, некалі пахаванага ў мясцовым касьцёле. У караля быў нешчасьлівы лёс. Слабы палітык страціў сваю дзяржаву. «Удзячныя нашчадкі» раскідалі ягоныя косткі.

Пра рабаваньне касьцёла мне распавёў старажыл Воўчына Іван Вайцюк. Невысокі хударлявы дзядок у цяльняшцы, з калючым позіркам з-за тоўстых акуляраў. Перад тым Вайцюк доўга расказваў, як радасна сустракалі тут Чырвоную армію. Гэтая тэма была для яго яўна больш цікавая, чым рабаваньне касьцёла і каралеўскай магілы.

— Касьцёл разрабавалі. Ня ведаю, куды ўсё падзелася. Ведаю толькі адно. Калі я працаваў у школе, гэта 1948 год быў, перапынак быў вялікі, 20 хвілін. Убачылі, што адкрыты касьцёл. Адзін пайшоў, другі. І ўсе рынуліся ў той касьцёл. З таго боку, дзе ляжала дамавіна, яна была ўжо зьверху. Дамавіна дубовая, вялікага памеру. У той дамавіне была яшчэ жалезная труна. Нейкія рэчы ляжалі. Шынэль, шашка была,

нейкая булава, карона была. Адзявалі дзеці на галаву. На гэтым і канец. Невядома, куды гэта ўсё пасьля падзелася. Там шкатулка невялікая стаяла. Напэўна, прах там быў яго. А то казалі, косьці нейкія там. Там не было ніякіх касьцей. Адкрыта ўсё было ноччу.

У той колішні мой прыезд у Воўчын Траецкі касьцёл уяўляў сабою руіну. Сёньня, дзякуючы польскім рэстаўратарам, храм набліжаецца да свайго першапачатковага стану. Усё выглядае, як у даваенным «калісьці». Няма толькі магілы караля. Зрэшты, і таго мястэчка няма. З тымі крамамі, з тымі мовамі, з тымі звычаямі. Ёсьць паміраючы калгас і адроджаны касьцёл. На фоне чырвона-зялёнага сьцяга.

Гэты сьцяг сымбалізуе беларускую савецкасьць. Вось толькі не было ў савецкага старшыні калгасу сваёй долі ў закрытым акцыянэрным таварыстве. І словаў ён такіх ня ведаў. Так што Беларусь пад чырвона-зялёным сьцягам толькі выглядае савецкай.

***

Тут, як нідзе, разумееш шэксьпіраўскае «распалася повязь часоў».

Гэты распад можна бачыць і чуць кожнага разу, калі ў госьці да вясковых бацькоў прыяжджаюць гарадзкія дзеці. Я ня ведаю, ці ёсьць яшчэ на сьвеце краіны, дзе дзеці з бацькамі гавораць на розных мовах і лічаць гэта натуральнай нормай.

Повязь часоў, між іншым, ірваў калгасны прыгон, у якім жыло сялянства ажно да 1974 году. Горад і вёску падзяляла мяжа, для законнага перасячэньня якой патрэбны быў пашпарт. Звычайны, унутраны савецкі пашпарт, які ня так лёгка было здабыць у калгаснага начальства. У Шчарбінах пад Заслаўем я разгаварыўся з 92-гадовай Вольгай Калантай, якая раскрыла мне дэталі таго бяспашпартнага жыцьця. Расповед гэтай ціхмянай, але шчырай і не затурканай сялянкі падобны да рэпартажу з Паўночнай Карэі.

— У Мінск паедзеш — цягніком жа езьдзілі, хадзілі на станцыю — пашпарт трэба было паказваць. Хадзілі правяралі. Не пускалі так езьдзіць. «Прад’явіце вашы пашпарты!» Мужчына хадзіў правяраў. Вынімаюць людзі пашпарты і яму паказваюць. Ведаеце, гэта дзеля чаго? Каб не было чалавека якога благога. Які гатовы недзе падкласьці штосьці. Усякія ж людзі ехалі. Правяралі і правяралі гэтыя пашпарты.

***

На пачатку 1960-х гадоў разам з чарговай антырэлігійнай хваляй, падчас якой былі зьнесеныя шматлікія помнікі архітэктуры, па Беларусі пракацілася яшчэ адна навала. Сотні паселішчаў, назвы якіх недастаткова лашчылі слых камуністычным начальнікам, былі перайменаваныя. У той час зьявіліся шматлікія Першамайскія, Ураджайныя, Вясёлыя ды Пры-

вольныя. На Талачыншчыне вёску Бязьдзелічы перайменавалі ў Раздольную. Мясцовы дзед камэнтаваў мне тую тапанімічную прыгажосьць: «Раздольная! Як былі яны Пязьдзелічы, так Пязьдзелічамі і засталіся». Пазьней некаторыя вёскі вярнулі сабе гістарычныя імёны.

— Вёсцы Божына на беразе Бярэзіны, вядомай ад XVI стагодзьдзя, пашанцавала. У ёй нарадзіўся і жыве Адам Папруга. Былы афіцэр марской авіяцыі, былы інжынэр, які перад выхадам на пэнсію вырашыў аднавіць гістарычную справядлівасьць, каб безаблічнае Прырэчча зноў стала Божынам. Адам — сівы вусаты прыгажун з жывым позіркам, які разьмяняў дзявяты дзясятак.

— Адным указам Вярхоўнага Савету БССР адразу 307 вёсак перайменавалі. І ў тым ліку Божына — на Прырэчча. Тут прапаноўвалі Вінаградавам назваць. Я кажу — якое Вінаградава! Ён тут не расьце. Зарэччам назваць была прапанова.

Пан Адам назьбіраў мноства матэрыялаў пра родную вёску.

— Я ведаў, што Божына — старая вёска. Дзякуючы таму, што тут была панская сядзіба і паны гэтыя мяняліся, дык засталіся матэрыялы гэтых падзей. Разборкі ўсякія, дарчыя запісы. Засталіся матэрыялы ў архіве. І я як залез! А што далей, далей. І да сёньняшняга часу далез. І як сабраў, напісаў пісьмо. Дземянцей тады быў. Занёс. Там пленум якраз зьбіралі. Я папрасіў

сакратарак, маладыя дзеўкі прыгожыя, гасьцінцаў ім добрых прынёс, цукерак, шакалядак. Кажу, каб гэты матэрыял на стол папаў на разгляд. Яны мяне запэўнілі — пападзе. І тут зь першага разу ўсё атрымалася. Я ня ведаю, што тут спрацавала. Я ўлавіў час, калі безуладзьдзе было ў Беларусі. І на пад'ёме абуджэньня духу. Я ў гэтую хвалю папаў.

***

Чалавека, які ніколі не пераходзіў на савецкі бок беларускай мяжы, вельмі цяжка адрозьніць зьнешне. Бо ты сустракаесься з тым, каго не павінна быць. Са школьнай парты ведаеш — ніякіх беларускіх нацыяналістаў, дысыдэнтаў ці антысаветчыкаў не было ў прыродзе. І тут, праз дзесяцігодзьдзі пасьля школы, высьвятляецца, што ў суседнім доме, такой самай савецкай бэтоннай спарудзе, жыве былы амэрыканскі шпіён і вязень ГУЛАГу Цімох Вострыкаў. І ты гадамі стаяў зь ім у адной чарзе ў гастраноме…

Мікола Конан ледзь не палову жыцьця правёў у Нарыльску і ў Комі. Спачатку вязьнем ГУЛАГу, а пасьля, калі было немагчыма знайсьці працу на радзіме, рабіў на шахтах. Спадар Конан быў сябрам Саюзу беларускіх патрыётаў. Друкаваў тэкст прысягі гэтай паваеннай глыбоцкай моладзевай арганізацыі, за што ў 1948-м атрымаў 10 гадоў. Я спытаўся, ці пачуваліся яны героямі?

— Нічога там геройскага не было. І мэта была, каб свабодна гаварыць на сваёй мове. Вось і ўсё. Ніякіх палітычных там не было пытаньняў. Гэта цяпер народ езьдзіць па ўсім сьвеце. За граніцу і куды хоча. Тады ўсе сядзелі на месцы. Нікуды ня езьдзілі. У вёсках ведалі адзін аднаго. І як зьявіліся рускія, адразу заўважна стала, што мы ня так гаворым. Многіх слоў мы не разумелі. І спачатку дзікавата было, а потым сталі прывыкаць, прывыкаць, а потым зусім прывыклі. Цяпер ужо ўсё. Мова пайшла на спад. Ніхто не гаворыць. І нікуды ня дзенесься. Таму што ёсьць закон газону. Будуюць дом і сеюць газон. І на газоне ня робяць дарожкі. Народ сам пракладае, дзе яму лягчэй. Так і тут павялося. Ва ўстановах больш на рускай гаварылі. І вось так сталі насаджаць, насаджаць, дзеці прывыклі. І цяпер ужо гэта дзікім не здаецца. Вось такая праблема была. А цяпер праблема ёсьць, але ніхто яе, мусіць, ня зможа рашыць. Са мной разам судзілі Савіка, ён ужо памёр. А калі нас узялі, я ўжо настаўнікам працаваў. У Залесьсі. Думаў, можа, абыдзецца. Не абышлося. Дзесяць гадоў. Здрада радзіме. Вось так і жылі. Баяліся саветаў. Баяліся немцаў. Ізноў саветаў. Ужо ў генах зарадзіўся страх. Людзі шукаюць, дзе лягчэй. І цяпер баяцца — я ня ведаю, чаго. Сьмерці толькі? Дык яна і так, і так прыйдзе. І ўсё роўна баяцца.

Кананава параўнаньне з «законам газону», мне здаецца, не зусім дакладнае. Бо сьцежкі на

тым газоне былі пазначаныя лягернымі вышкамі.

***

«Чаго вы тут ходзіця? — крычала на мяне адна правінцыйная настаўніца. — У нас тут выбары Лукашэнкі Рэспублікі Беларусь!»

З самай гарачай праявай любові да прэзыдэнта я сутыкнуўся ў вёсцы Цялуша пад Бабруйскам. Блукаючы па вуліцы, я пачуў гармонік і, заінтрыгаваны, пайшоў на гукі. Карцінка адкрылася наступная. Пасярод шырокага двара стаяў столік з гарэлкай і няхітрай закусьсю. На гармошцы граў падвыпіты дзед, а каля стала танчыла бойкая бабулька — таксама пад добрым шафэ. Ваш пакорны слуга быў сустрэты з такою цеплынёй, быццам мяне тут чакалі ўсё жыцьцё. Як высьветлілася, да бабы Мані, былой брыгадзіркі даярак, прыехаў з суседняй вёскі родны брат. Глынуўшы добрую чарку, стары гарманіст заплакаў па палеглым пляменьніку. Прычым з такім пачуцьцём, быццам трагедыя адбылася ўчора. Я адразу і ня ўцяміў, што гарманіст бядуе ад 1944 году.

— Пляменьнік пагіб. Паранёк… Душа баліць.

Бабулька яго перабіла.

— Усе там будам. У тое ўрэмя, да вайны — якія мы былі! Я рада была бульбіне! І во выжыла. Колькі гадоў кароў даіла. Тры разы ў дзень. У тры гадзіны ночы ўставала. Во як! Я дзяцей ня бачыла, як яны гадаваліся. І дзеўкі

мае харошыя. Але ў Чэхію зьехалі. Во курвы, а! Стукнула дурным у галаву — і паехалі. Меншая на машынках робіць. А другая ўборшчыца. А я вып'ю, папляшу! Дарма што гора ў мяне. Мужык ляжыць. А я ўсё роўна. Яшчэ кароўку трымаю. Чатыры сабакі, шэсьць катоў.

Глынуўшы яшчэ, весялуха перайшла спачатку на п'яны галас, а пасьля на вясёлае падвываньне.

— Бацечка, міленькі! Лепш надгаладзень, абы вайны не было. Нам абы ціха. А Лукашэнка наконт гэтага змагаецца. Усе на Беларусь нападаюць, цісннуць. А ён… Калі кажа пяць чалавек граніцу перайшлі, усіх падыму на ногі і мала вам і зямлі, і вады будзе. Пры Лукашэнку і пяём, і танцуем, і выпіваем! І грошы дае бясплатна… Будзем выбіраць! Да сьмерці! Што б пакуль мы памерлі, каб Лукашэнка быў. Пойдзем галасаваць. І сваякоў, і знаёмых — усіх загітуем! І кошак, і сабачанят. Усіх буду цягнуць за Лукашэнку. Нам ніхто ня трэба. Толькі Аляксандар Рыгоравіч!

Я ня стаў удакладняць у тым целушоўскім двары, адкуль я журналіст. Не захацеў знаёміцца з сабачанятамі, якіх цётка водзіць галасаваць. Але фармулёўку «грошы дае бясплатна» ўжо не забуду.

Увогуле бачачы ў хатах партрэты Лукашэнкі Рэспублікі Беларусь сярод сямейных фатаздымкаў ці нават побач з абразамі, я пераконваюся, што Лукашэнка для ягоных вернікаў не чала-

век. Гэта больш, чым пэрсанаж з тэлевізара, калгасны супэрмэн, які дае прачуханца ўсім гарадзкім начальнікам.

Аднойчы ў вёсцы Ляўкі пад Старымі Дарогамі 90-гадовая Марыя Васількова сказала мне наступнае.

— Нас Лукашэнка адзеў босых, голых. Мы ў лапцях былі. А ён нас паабуваў. Усе ў бацінках ходзім. Мы да Лукашэнкі ў лапцях хадзілі. Дзеці ідуць у школу — напляці лапцей. Я і цяпер лапаць спляту і абуюся.

Марыя так доўга жыве на сьвеце, а Лукашэнка так доўга прэзыдэнт, што стаў для яе міталягічнай фігурай. Ён і Сталін, і Машэраў, і ўся савецкая ўлада разам узятая. Таму гэта дзякуючы Лукашэнку дзеці зьнялі лапці. І вайну выйграў Лукашэнка. І ў космас паляцелі дзякуючы яму. І ўсё, што ёсьць у жыцьці добрага, зьвязана зь ягоным імем. Але калі Лукашэнка з тэлезоркі становіцца рэальным чалавекам, то рэальнае жыцьцё становіцца іншым. Як рабочы з савецкага плякату іншы ад жывога рабацягі ці — вечна вясёлая калгасная сялянка. Цікава, чаму адзінымі жывымі людзьмі на савецкіх плякатах выглядалі п’яніцы, лайдакі і хуліганы?

***

Пра тое, як рэальнае жыцьцё ператвараецца ў плякатнае, маглі б расказаць людзі зь вёскі Гервяты на Астравеччыне — адтуль, дзе прызямляўся Лукашэнка.

У Гервятах да ягонага візыту наладзілі такую пацёмкінскую вёску, што сам Пацёмкін уразіўся б такому размаху. Ён жа толькі дэкарацыі фанэрныя ставіў, а ў Гервятах зладзілі цэлы фэстываль самадзейных балаганаў. Экскурсію па месцах высачайшага зьяўленьня мне зрабіў адзін асьцярожны гервяцкі дзядзька.

— Зрабілі са школы магазын гаспадарчых тавараў. Абсталявалі за адну ноч. Усё там: косы, сякеры ды іншае. А мужыкі нашы езьдзяць па косы ў Варняны за 14 кілямэтраў купляць. Прыйшлі людзі ў гэтую краму. «Не. Магазын закрыты пакуль». Прыехаў бацька, магазын адкрыты, зайшоў. Выйшаў. Рванулі туды людзі. Глядзяць — косы і сякеры ўжо выносяць. Кажуць, дзе куплялі, туды і едзьце. Гэта проста часова. Вось такая выстаўка дасягненьняў народнай гаспадаркі.

Звычайную амбуляторыю падвысілі да шпіталя.

— Старшыню калгасу паклалі ў бальніцу. Быццам ён хворы. Ага. Зама таксама. З Астраўца ўрач уколы дае. Быццам бальніца. А там бальніцы ўвогуле няма. Амбуляторыя. Праляжалі і ўсё. Гралі ў хворых. Што бальніца ёсьць. Як артысты.

Сустракаць «галубой верталёт» паставілі шчасьлівых пасялян і пасялянак.

— Прывезьлі чыноўнікаў з Ашмян, прывезьлі з Астраўца, з райспажыўсаюзу, з райвыканкаму. Як быццам простыя людзі. Гэта калгасьнікі,

аказваецца. Трактары старыя павыганялі ў лес. Увесь лес быў трактарамі старымі застаўлены. Прыгналі новыя трактары са Смургоняў. Новыя трактары прыгналі з Ашмян. Паставілі на палях. Як толькі бацька едзе, заводзяцца і кранаюцца.

Якая нястомная фантазія ў раённага начальства! Ілжэкрама з ілжэсякерамі, ілжэбальніца з ілжэхворымі, ілжэшчасьлівыя ілжэкалгасьнікі з ілжэтрактарамі. Але былі й сапраўдныя пэрсанажы ў тым цырку. Снайпэры на дахах зь небутафорскімі вінтоўкамі. Няўжо Аляксандар Рыгоравіч такі наіўны, што не заўважыў усю фальш гэтага фарсу? Няўжо не прасёк танную гульню гэтых камэдыянтаў? Напэўна, прасёк, калі падыгрываў ім толькі да таго моманту, пакуль яму тое не абрыдла.

— Былы сакратар партыйнай арганізацыі ды іншае начальства пад капельніцай чакалі. Як людзі, зь якімі можна гаварыць. Каб маглі адказаць Лукашэнку нешта разумнае. А ён не зайшоў у бальніцу. Пастаяў, і хуценька на верталёт. Ролю вучылі дарэмна. Спэктакль не атрымаўся.

***

Настаўнік з Гарадзеі Ўладзімер Бруй расказваў, як у ягоным дзяцінстве, у сярэдзіне 1950-х, дарослыя паслалі яго купіць жытняй гарэлкі ў старой шынкаркі. Справа была ўвечары. І падсьлепаватая шынкарка, не пазнаўшы малога

суседа, замест «Якая табе гарэлка?» спытала: «А ты часам не савецкі?»

Які сэнс яна ўкладвала ў слова «савецкі»? Бруй кажа, што пасьля ўсяго, што пабачылі людзі ад новай улады, савецкі само сабою значыла жорсткі, падступны, бесчалавечны. Калі ж адбылася мэтамарфоза і слова зьмяніла свой сэнс на адваротны ды стала азначаць нешта справядлівае, правільнае, добрае?

Першасны інстынкт чалавека — страх. А глыбей — страх за сваіх дзяцей. Дарослыя беларусы аднойчы схавалі ад дзяцей сапраўдны сэнс слова «савецкі». Як схавалі ў закрытых архівах праўдзівую гісторыю рэвалюцыі, сталіншчыны, вайны. А галоўнае — праўду пра тое, хто яны і адкуль. Калі нічога ня ведаеш, значыць, ні ў чым «не замяшаны» і маеш болей шанцаў выжыць.

Ня ўсім гэта дапамагло. А папраўдзе — не дапамагло нікому. Разнамасныя, але нязьменна бесчалавечныя ўлады, якія на працягу XX стагодзьдзя панавалі ў Беларусі, ніколі не лічыліся са страхам нейкага асобна ўзятага чалавека. Страх, як і кожная прыватнасьць, ня быў для іх аргумэнтам. Вось чаму ад таго, хто «ніхто» і «ніадкуль», нават калі яму ўдавалася выжыць, не засталося нічога. А тыя, хто меў сьмеласьць ведаць, хто ён і адкуль, нават ня выжыўшы, засталіся ў памяці і расповедах наступнікаў, многія зь якіх сталі суаўтарамі гэтай кнігі.

Чым далей я ехаў па Беларусі, тым больш даведваўся пра краіну, настолькі непадобную

да свайго афіцыйнага савецкага вобразу, што пасьля кожнай вандроўкі адчуваў ягоную штучнасьць і часовасьць. Якраз таму, што трымаецца савецкасьць на страху, які ніколі нікога не ратуе. Аднойчы ён абарочваецца пагардаю да ўласнае слабасьці і жаданьнем самапавагі. І тады, як сказаў адзін мой бясстрашны суразмоўца, Беларусь «жывець».

# Конь з валом не часаўся…

*Як вёскі шляхоцкія ня зналіся з мужыцкімі*

Судзілы, Клімавіцкі раён

З патомным шляхцічам Аляксандрам Галкоўскім мы шпацыруем па ягонай роднай вёсцы Судзілы. Хаты раскіданыя на маляўнічых пагорках, якія, са словаў Аляксандра, былі фартэцыямі ў часе самай страшнай у гісторыі Беларусі вайны — 13-гадовага «крывавага патопу» сярэдзіны XVII стагодзьдзя.



— Дзяды расказвалі. Во гэта крапасны роў. Там цэрквы стаялі. Тады маскалі ўсё папалілі, дзевак пабралі. Да самага Смаленску ніводнай хаты не засталося, усё папалілі. Толькі ў Прудку адна хата засталася і ў нас, у Судзілах, пяць. Усё дзяды расказвалі. Калі сьвяты нейкія, сядзяць, расказваюць. То талака якая, воўну расскубаюць, бабы прыйдуць. І гамоняць, і гамоняць. Вось гэтая гара — умацаваньнем лічылася. Там манастыр жаночы быў. Тры гады стаялі, не здаваліся. Тут у нас сем умацаваньняў было. Ігуменьня камандавала.

І мясцовыя там дабро сваё, скаціну хавалі. І абараняліся тры гады. Пасьля іх абдурылі і ўсіх спалілі.



Я іду па Судзілах каля спарахнелай драўлянай царквы і слухаю расповед пра тагачасныя ваенныя зьверствы. Гэта факты, ня вычытаныя з кніжак ці ўзятыя з тэлеперадач, яны дайшлі з успамінаў дзядоў.

— Жывот распоруць, дзіцёнка дастануць з жывата. Яны ж доўга тут стаялі, маскалі. На ражон, на палку насадзяць дзіцёнка гэтага. На вагні падсмажаць і прымушаюць есьці. А туды ката жывога зашыюць, у жывот. А ігуменшу ў вадзе замарозілі. Паніўку прабілі на рэчцы і яе да пояса пасадзілі. І ікону павесілі. «Калі гэта

Бог твой, то ён выратуе цябе». Гэта князь Трубяцкой. Трубяцкая разьня!

Галкоўскаму на выгляд гадоў пяцьдзясят. Ён гаспадар, мае чатыры каровы, кабылу, статак авечак. Але, акрамя гаспадаркі, у майго суразмоўцы ёсьць унікальная этнаграфічная калекцыя. Старажытныя андаракі, ручнікі, пасы, фартухі. Карункі і вышыўкі Аляксандар расчытвае ня горш за сталічнага этнографа. Галкоўскі — шляхціч, а Судзілы — шляхоцкая вёска. Непадалёк ёсьць і мужыцкія вёскі, дзе, са словаў Аляксандра, гаспадары былі не такія руплівыя і норавы панавалі іншыя.

— Конь з валом не часаўся, а шляхціч з мужыком ня знаўся. У іх жа, як гуляюць мужычкі, на вясельлі ці дзе, абавязкова пабіцца трэба. Калі бойні няма, то гэта не вясельле. У мужычкоў. А ў нас гэта сорам і ганьба. У шляхты. Мужык, як падпіў, пачынае — спалю, заб'ю. А нашы зьбіраюцца, гуляюць, песьні пяюць, танцуюць. Стаканамі пілі, і нічога. А ім толькі біцца. Чуць што ня так сказаў, спаляць.

Мы ідзем у госьці да шляхцянкі Ніны Мартышэўскай. Ужо даўно пачалося XXI стагодзьдзе, але памяць пра шляхоцтва і мужыцтва на беларускім далёкім усходзе жыве і паміраць не зьбіраецца. Вось праехаў на калёсах нейкі дзядок, і Аляксандар крыху насьцярожыўся.

— Во едзе. Ягоны бацька лютаваў у калектывізацыю. Так лютаваў! З вайны як ішоў, тут яго забілі. У Клімавічах сустрэлі і забілі.



Ніна Ціхонаўна Мартышэўская сядзіць на сонечным ганку і ўсьміхаецца восеньскай пагодзе. Загаманілі пра мужыкоў.

— Яны шкодныя людзі. Шляхта лепшая была. Прасьцей была. Далібог, прасьцей. Раней рэдка хто возьме мужычку замуж. Старaліся шляхта са шляхтай. І хараніліся асобна. Мужычкі асобна, а шляхта асобна. Пасьля перамянілася. Ну што казаць? У мяне ўсе нявесткі з мужыкоў. Яны ж някепскія. Ну, бывала, у дзяцінстве ідуць сабалёўцы. Мы крычым: «Сабалёўцы таўкачы, несьлі сучку на плячы». Дык яны нас білі каменьнем. Дур была. Дзяцінства. Яны бедна жылі. У калодках хадзілі такіх. Стук-стук-стук. Ой, беднасьць была.

Такі жорсткі водападзел паміж людзьмі ня мог не праявіцца падчас калектывізацыі.

— У Сабалёўцы нікога не раскулачылі, у Прудку таксама нікога. А ў нас — так. Сьцяпана засудзілі. Пасеяў авёс. А тут дождж заліў на тыдзень. І не пасьпеў сабраць. Дзесяць гадоў далі. Ваньку Барысіка. У яго алейня была. Гэта страшны буржуй.

Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі прайшло амаль сто гадоў. А тут, на краі беларускага сьвету, вёскі да гэтае пары дзеляцца на шляхоц-

кія і мужыцкія. Як ні старалася новая ўлада сьцерці гістарычную памяць, а насельнікі былога Мсьціслаўскага ваяводзтва ўсё адно захоўваюць памяць пра сваё паходжаньне.

Напрыклад, суседняя вёска Сідараўка — шляхоцкая. І два яе старажылы, Мікалай Букініч і ягоная жонка Ніна, адразу гасьцінна ўсьміхаюцца, варта толькі прамовіць слова «шляхта».



— Шляхта больш зажытачная была. А мужычкі бяднейшыя. Тут і прозьвішчы шляхоцкія. Судзілоўскія, Галкоўскія, Людагоўскія. А там зусім іншыя… Дзеда майго раскулачылі. Хату аднялі, у Сыбір саслалі. Але ён выжыў. Хату яго забралі пад школу. Ягонай дачкі хату

сабе ўчастковы забраў. Вытурылі іх. Хто працаваў, той свалачуга, ідзі ў Сыбір.

Дамы іх прадзедаў, забраныя пад школы і канторы, дзе-нідзе да гэтае пары захаваліся. Ня кажучы ўжо пра зямельныя надзелы. Але былая шляхта нават ня марыць пра вяртаньне законнай маёмасьці.

— Часам думаеш — да чаго ж давялі. А зараз што? Дзяржава сапсавала людзей. Працаваць развучыла, красьці навучыла. Хто тады не працаваў, той і цяпер не працуе.

У былога настаўніка фізкультуры і патомнага мужыка Гапеева — незвычайнае імя. Віліч! Бо ягоны бацька быў сапраўдным бальшавіком. Падцягнуты і бадзёры стары сваё невысакароднае паходжаньне, як і шляхоцкі гонар суседзяў, успрымае з гумарам.

— Бацька мой, калі рэвалюцыя адбылася… О, гэта быў ленінец, божа мой! Майго брата ён назваў Радзівонам у гонар Радзішчава, другога Юліем, як Цэзара. А мяне — Віліч! Ад ініцыялаў Уладзіміра Ільліча Леніна. Віліч Сямёнавіч я па пашпарце. Мужычок. Бо Гапееў. Шляхта сканчаецца на «-скі». Шляхтай лічылася прывілейнае сялянства. Хто гаспадарку трымаў добра, таму прысвойвалі шляхоцтва. Сталі людзі аддзяляцца. Гэ-



таму прывілейнаму чалавеку большая пашана была, павага ў вёсцы. А мужык — гэта разгільдзяй, гаспадарку вёў абы-як. Шляхоцкія вёскі — яны грэбавалі намі. А цяпер усё перамяшалася. Толькі прапануй руку і сэрца — і гатова.

Аказваецца, у мужыцкіх сем'ях разгараліся нежартоўныя палітычныя жарсьці. Дзед Віліча, імпэрыяліст Фёдар, ледзь ня выгнаў вернага ленінца-бацьку з хаты.

— Мой дзед гадоў дваццаць адслужыў у царскай арміі. І за цара-бацюхну, божа збаў, ён табе горла перагрызе. Майго бацьку, дарэчы, недалюбліваў. І зваў яго, як той у партыю Леніна палез, антыхрыстам. Многа тады шляхты вывезьлі на Сыбір. Раскулачылі. А мужыкоў мала. Але раскулачвалі таксама.

«Вы думаеце, у мяне самае рэдкае ў Беларусі імя? — спытаўся Віліч Сямёнавіч. — Вось у суседа майго, у шляхціча, вось то імя!» «І як жа клічуць вашага яснавяльможнага суседа?» Віліч вытрымаў паўзу і, узьняўшы ганарліва галаву, павольна прамовіў — «Геральд!»

Гэтым разам я быў у падарожжы разам са сваімі дзецьмі, якія бегалі на Вілічавым панадворку.

«Бачыце таго маленькага хлопчыка? — падхапіў я ягоную ўзрушанасьць і паказаў на сына. — Ведаеце, як яго завуць? Думаю, што канцэнтрацыя Геральдаў на квадратны кілямэтар тут і цяпер самая высокая на зямлі».

Дзіва, што шляхта з памежжа Вялікага Княства Літоўскага не сышла ў нябыт цалкам. І сёньня, пасьля ўсіх закалотаў XX стагодзьдзя, ужо ня сыдзе.

Сын Аляксандра Галкоўскага Алесь, студэнт менскага Ўнівэрсытэту культуры і мастацтваў, які прыехаў дапамагчы бацькам сабраць буракі. Вядома, ён беларускамоўны. Канечне, знаўца гісторыі свайго краю. Безумоўна, чалавек, які бачыць сваю будучыню толькі ў сваёй краіне. Ягоныя разважаньні падаліся мне цікавымі. Гэта думкі 22-гадовага чалавека, які жыве ў беларускамоўным асяродзьдзі, што налічвае не дзясяткі, як у 1980-я, і ня сотні, як у 1990-я, а тысячы маладых людзей.




— Уратаваць Беларусь... Позна піць баржомі. Усё лепшае вынішчылі ў народзе. Мы зараз нацыя прыстасаванцаў. Шчыра кажучы, калі б мне прапанавалі пайсьці ў рэзэрвацыю, як індзейцу, я б бяз роздумаў пайшоў. Кінуў усё на волю лёсу і пайшоў. Я ведаў бы, што я буду зь людзьмі, роднымі па духу, зь якімі я сябе пачуваю родным. На фольк-фэст «Камяніца» некалькі тысяч зьбіраюцца, але гэта вартыя людзі. Я не баюся пакінуць сярод поля свае рэчы, заплечнік, мабільнік, фотаапарат. Я не баюся. Бо ведаю, што

знаходжуся сярод аднадумцаў. І таму я б бяз роздумаў сышоў у рэзэрвацыю.

Мой уласны досьвед — так званае «гета» пашыраецца. Але ці дасьць яно плён, вядома аднаму Ўсявышняму. «Справа беларушчыны не павінна распаўсюджвацца толькі на ўнутрана замкнёны мікрасоцыюм». Два гады таму я сфармуляваў гэты выраз у сваёй галаве. А зараз лаўлю сябе на думцы — а можа, так і трэба? Можа, лепш, калі ёсьць «беларусы рускамоўныя» і «беларусы сапраўдныя»? Тыя, што шануюць свае карані, ведаюць сваю гісторыю, культуру. Хай лепш будзе так. Яны так жывуць, мы так жывем. Хай гэта будзе сьвядомая самаізаляцыя. У нас свае погляды на жыцьцё. У нас не нараджаюцца, а становяцца беларусамі. Калі ты размаўляеш па-беларуску, гэта падсьвядома вымагае ад цябе іншых паводзінаў. Возьмем маё кола беларускамоўных сяброў. Абсалютная большасьць — гэта людзі вартыя, у якіх духоўныя ідэалы стаяць на высокім месцы, якім ня трэба ў першую чаргу напхаць страўнік.

*2012, кастрычнік*

# Жанчына – жбаха, а мужык – куж

*Як беларускія шапавалы хаваліся за сваёй мовай*

Пакуцьце, Дрыбінскі раён

Любжаць ярухі шымскія шкорні
Сьняк і кумухі саладзімны буклей,
Сьняк драпелухі, шыхты і жбахі
Любжаць тартасы і купрэсны манцей.

Гэты верш на дзіўнай незразумелай мове я пачуў ад аўтара — краязнаўца Ўладзімера Кажамякі. Па вайне на самым усходзе Беларусі дрыбінскія шапавалы былі знакамітымі людзьмі. Не было вёскі, якую б яны абмінулі з прапановай зваляць валёнкі на ўсю сям’ю. Дзякуючы іх умельству жыхары Дрыбіншчыны і Мсьціслаўшчыны ня мерзьлі лютай зімою. А яшчэ дрыбінскія шапавалы паміж сабой гаварылі на сваёй цэхавай сакрэтнай мове, якая завецца «катрушніцкі лемязень».

Едучы ў вёску Пакуцьце, былы цэнтар шапавальства, дзе некалі кожная хата была майстэрняю, я спадзяваўся сустрэць хоць аднаго носьбіта «катрушніцкага лемязьня». Але, як заўважыў карэнны пакуцевец Аляксандар, салідны, бы народны пісьменьнік, які нясьпешна шпацыраваў па бязьлюднай вуліцы, дзе



большасьць хатаў ужо нежылыя, я спазьніўся гадоў на пяцьдзясят. Ад некалі жывой гаворкі засталіся толькі асобныя словы ў памяці тутэйшых людзей.

— «Кора бальва шкумаеш»? Што ты разумееш? Вёска — гэта «хор'е». Жанчына будзе «жбаха», а мужык — «куж». Дзяўчына — «шыхта». Я тут нарадзіўся ў 1937-м. Бацька валёнкі валіў. І тады людзі гаварылі на гэтай мове. І ў Пакуцьці, і ў Дрыбіне. Яна стваралася, каб паміж сабой на кірмашы гаварыць і каб ніхто не разумеў. Прадаць жа трэба. «Шкорні схаліл, а прапурыць наскрабень». Валёнкі сапсаваў, а прадаць трэба. Бавоўна — «паруха».

Да размовы далучылася жонка Аляксандра Галіна. Яна родам з суседняй вёскі Цёмны Лес. І да моўнай сытуацыі ў Пакуцьці ёй давялося прызвычайвацца доўга. Бо выйшла замуж за пяць кілямэтраў — нібы за мяжу.

— Я пераехала зь Цёмнага Лесу, дык усё зьдзіўлялася. Ня ведаю, як сказаць. Пастаю, паслухаю і як дурніца пайду ў хату. Вакол сьмяюцца. Ня буду хадзіць на вуліцу. Тут усе гаварылі на гэтай мове. А на кірмаш пойдзеш, дык цябе абдураць толькі так. Памятаю, што карова — «яўлыда», малако — «гальмо», бульба — «кульдупа».



Валянцін Зюлікаў — адзін зь нешматлікіх людзей, якія ня зьехалі з радзімы. Ён да гэтае пары займаецца вырабам валёнак. Прычым геаграфія замоваў Беларусьсю не абмяжоўваецца. У дзяцінстве Валянцін дасканала ведаў сакрэтную мову. Але ўжо амаль няма з кім на ёй пагаварыць.

— Мы катрушніцкую мову ведалі лепш за родную. Проста так атрымалася, што зь вёскі ўсе паразьехаліся. Цяпер жывуць па гарадах. Перазвоньваемся. «Кора максаеш?» Ну, і ўсё. Па тэлефоне што можна пагаварыць? Як справы, і ўсё. А ў дзяцінстве мы толькі і гаварылі. Каб нас не разумелі. І ні настаўнікі, ні дзеці з суседніх вёсак, ніхто нас не разумеў. Нас і клікалі «сіпакамі». «Сіпак» — гэта вока.

Часам здараліся анэкдатычныя выпадкі, калі пакуцеўскіх хлопцаў прымалі за замежнікаў.

— Паехалі мы зь сябрам у Пецярбург. Нам па 17 гадоў было. Там хадзілі, гулялі, у краму зайшлі. А там чэргі вялікія. Мы давай па-шапавальску размаўляць. Дык нас за іншаземцаў прынялі і далі магчымасьць купіць без чаргі. А пасьля ў аўтобусе ехалі. Пагаварылі — і давай сьмяяцца. А мужчыну аднаму не спадабалася гэта. Прыняў нас за фінаў. «Ах, вы такія-гэткія фіны, панаехалі сюды!» Давай на нас сварыцца.

А нам стала яшчэ сьмяшней. Што нас за фінаў прынялі.

Патрэба быць незразумелымі ў дрыбінскіх шапавалаў узьнікла, са словаў Валянціна, не ад добрага жыцьця.

— Карысталіся гэтай мовай, бо хадзілі ў зарабаткі. Два чалавекі зьбяруцца — і пайшлі па вёсках. Навокал усе незнаёмыя. Днём папрацавалі, грошай зарабілі. А людзі ж ведалі, што катрушнікі з грашыма. Было, і рабавалі. Усякае бывала. Добра, калі ты можаш гаварыць на мове, якую ніхто не разумее. Для такіх мэтаў і было.

Захаваць «катрушніцкі лемязень» спрабуюць у Дрыбінскім этнаграфічным музэі. У тым ліку і стараньнямі яго супрацоўніка, некарэннага жыхара Пакуцьця, шапавала Ўладзімера Асіпоўскага.



— Я разумею працэнтаў на 70, а размаўляць не магу. Асноўны касьцяк, хто выкарыстоўваў лемязень, сышоў. Але дзеці ўжываюць гэтыя словы і дагэтуль. Напрыклад, «халбы». Гэта грошы. «Керя» — піва. «Гардзея» — гарэлка. «Пойдзем пацюкаемся». Гэта значыць — паб'емся. Мы хочам адрадзіць гэтую мову для ўсіх.

Чаму ж ня выжыў «катрушніцкі лемязень»? Няўжо толькі з-за таго, што зьнік некалі шматлікі шапавальскі цэх? А разам зь ім зьнікла і патрэба быць незразумелымі для чужых людзей? Як я ні стараўся разгаварыць маіх суразмоўцаў, ніхто зь іх не прыпомніў, каб на гэтай мове сьпяваліся песьні ці складаліся вершы. «Катрушніцкі лемязень» застаўся, па сутнасьці, практычнай прыладай працы. І зьнік, пакінуўшы пасьля сябе некалькі дзясяткаў словаў, якія ў Дрыбіне надрукавалі брашуркаю. Так што — не бывае мовы бязь песьні. І менавіта таму ў мовы беларускай няма шанцаў паўтарыць лёс катрушніцкага лемязьня, адзіным паэтычным творам на якім застаецца вершык Уладзімера Кажамякі. А перакладаецца ён наступным чынам:

Любяць бабы добрыя валёнкі
Як і мухі салодкі квас.
Як нявесты, дзеўкі і жонкі
Любяць каўбасы і прэсны алей.

*2015, люты*

# «Фэрштэйн» — разьвітальны крык

*Як у немцах пазнавалі суседзяў*

Анзельмаўка (Роза Люксэмбург), Ельскі раён

Першае, што бачаць на беларускім баку людзі, якія пераяжджаюць ці пераходзяць дзяржаўную мяжу з Украінай у раёне Ельску, гэта ўказальнік «Роза Люксэмбург». Назва зусім невыпадковая.

Калі збочыць з трасы і праехацца па апусьцелых і зарослых розаўскіх вуліцах, вока зачэпіцца за старыя закінутыя хаты, крытыя дыхтоўнай гонтай. Сто гадоў таму тут жылі немцы. Як сьцьвярджае гомельскі гісторык Віктар Пічукоў, немцы з Валыні купілі землі ў памешчыка Анзельмава ў 1909 годзе. Так узьнікла паселішча Анзельмаўка. Жылі яны каленіямі па некалькі хутароў. Ад сярэдзіны 1920-х і да канца 1930-х гадоў на Мазыршчыне былі 2 нямецкія нацыянальныя сельсаветы. У Анзельмаўскім у 1920-я гады жыло больш за 600 немцаў.

Былая выкладчыца беларускай мовы Марыя Вярбіцкая — адна зь нешматлікіх жыхароў найстарэйшай люксэмбургаўскай вуліцы. Калісьці гэтая прыязная кабета вяла краязнаўчы гурток у мясцовай школе і памятае часы, калі тут гучала нямецкая мова.



— Люксэмбургам вёска стала ў 1929 годзе. Іх многа жыло, немцаў. Лопарты, Лопэ, Вэрманы, Ганарты. Тут лес быў, і яны сяліліся па ўчастках. Там участак Наймана, ён і называецца Найманаўка. Тут, дзе лясок, Рэнц жыў, Рэнцава сяло. Там Цылька, там Вэрманава. Так па ўчастках яны жылі. Раней тут можна было пачуць нямецкую мову. Была Гопэ Герда, яна працавала на фэрме, як і мая мама. Дык яны па-нямецку размаўлялі толькі так. І мама навучылася па-нямецку.

Васьмідзесяцігадовая ўкраінка, якая даўно асела ў Розе, Марыя Брыцун часта сумуе без сваіх нямецкіх сяброўак і суседак, што масава ад’ехалі на гістарычную радзіму падчас развалу Савецкага Саюзу. Яна ведае амаль усё пра колішні нямецкі побыт. Быць немцам за Сталіным было нялёгка. Асабліва ў галодныя 1930-я гады. Калі сваімі супляменьнікамі, на гора ім, вырашыла апекавацца гітлераўская Нямеччына. Са словаў Марыі, адтуль ішлі пасылкі з прадуктамі. І ўсіх, хто тую дапамогу атрымліваў, расстралялі як ворагаў народа.

Новыя выпрабаваньні чакалі немцаў з пачаткам Другой сусьветнай вайны. За адну ноч усіх дэпартавалі ў тыл. Многія загінулі ў дарозе.

Калі ў беларускіх вёсках старыя, успамінаючы вайну, гавораць слова «немцы», дык зразумела, што гаворка ідзе пра салдат акупацыйнай арміі, якія маглі цукерку даць, а маглі і застрэліць.

У Розе Люксэмбург пад гэтым словам разумеюць толькі сваіх гаротнікаў-аднавяскоўцаў. Якія, дарэчы, у вайну баранілі габрэяў — як ад паліцаяў, так і ад сваіх ваяўнічых супляменьнікаў.



— Побач сусед жыве мой. І да іх зьнекуль прыблыталася яўрэйка. А тут жа немцаў трохі пазаставалася. Пахаваліся. І адзін паліцай кажа, што гэта яўрэйка. Прыйшлі да той жанчыны. Яна кажа: «Гэта з Украіны мая сястра». Але ж немцы добра ведалі, што яна не сястра. Выйшлі і на таго паліцая кажуць: калі ты яшчэ рэкнеш дзе, што яна яўрэйка, то мы цябе першага расстраляем. Немцы былі вельмі добрыя людзі. А паліцай быў беларус.

Калі б не катаклізмы XX стагодзьдзя, як разнастайна і страката выглядала б сёньня Беларусь! Колькі б выдатных людзей засталося жыць! Колькі б ацалела помнікаў архітэктуры! А колькі б нацыяў было і моваў гучала! У тым ліку і беларуская.

Апошні зь мясцовых магікан стары немец Бэртольд Вэрман сядзеў на сваёй прызьбе і чытаў раёнку. Былы калгасны пастух, ссохлы, амаль бяззубы, ён прайшоў са сваім народам усе наканаваныя шляхі. Быў і ў Расеі, быў на цаліне. Вось толькі ў Нямеччыну не падаўся.

— У 1941 годзе нас выкінулі. Выслалі. У Расею. У Тамбоў. Дамы далі. Мы ў калгасе працавалі. Хоць ішла вайна, але абыходзіліся з намі выдатна. Кацапы. Сталін нас паразганяў, каб, барані бог, не папалі мы пад Германію. Фэрштэйн? Я па-нямецку забыўся, як гаварыць. Няма з кім. Я лепш рускую мову ведаю, чым беларускую. Бо я ў кацапах вырас. Вы фэрштэйн ці не фэрштэйн? Двух дзядзькоў маіх забралі ў 1930-я. Бо багатыры былі. У дзядзькі млын быў. Расстралялі ў Мазыры. Фэрштэйн? Я? Зэр гут фэрштэйн?



Стары немец крычаў сваё «фэрштэйн» скрыпучым прапітым голасам і зіркаў нядобрым позіракам з-за мутных шкельцаў сваіх старых акуляраў. І, гледзячы на ягоны брудны пінжак і на гэтыя некалі модныя «квадратныя» акуляры, на ягоныя нэрвовыя пастукваньні кулачком па калене, я адчуваў усё большы жаль да гэтага чалавека. Ягонае адчайнае «фэрштэйн» гучала нібы разьвітальны крык. На які даўно няма каму адгукнуцца…

*2010, верасень*

# Быў у пана верабейка гаварушчы…

*Як рабілася рэвалюцыя*

Дзямідаў, Нараўлянскі раён

Сялянка Ганна Дуда, распавядаючы пра палескага пана Горвата, успамінае вось такую фантастычную гісторыю.



— Добры быў чалавек. Ніколі нікога не пакрыўдзіць. Быў у яго верабейка такі, баба расказвала. Напэўна, папугайчык. Бо ён гаварыў. Яны ж колісь ня ведалі, што гэта. Дык казалі — верабейка гаварушчы. І ўсё пану расказваў. Ён паазірае, што тыя слугі робляць, ды ўсё пану і раскажа, як пан прыйдзе. Верабейка. Дык тыя слугі ўзялі і зашылі яму жопу. Прыйшоў пан. А той кажа: «Шыла-шыла дый зашыла». Так і прапаў той верабей. Здох. Зашылі яму жопу. А так вельмі добры быў пан.

Дзямідаў, да рэвалюцыі заможная вёска моцных гаспадароў, напоўніцу спазнаў сталінскія рэпрэсіі. Таму былых дзяцей «ворагаў народа» тут нямала. Адзін зь іх Мікола Жыгамонт кажа, што памяць пра паноў была цудоўная.



— Памяць пра іх чудзесная. Хто працаваў, тыя людзі жылі прыўкрасна. У майго дзеда было зямлі навалам. Рабілі, нікога не наймаў. А прыйшоў час, НКВД забрала. Які ён кулак? А жылі пры пану выдатна! Была здрада перад вайною. Самых лепшых мужыкоў забралі па лініі НКВД. І бацьку забралі. А праз два гады вайна. Астатняй сям'і, маткі і дзяцей, не craналі. Проста лічыліся ворагамі. Так і казалі матцы — «твой мужык вораг народа». Не лічылі за людзей нас, ды і ўсё.

Ці не ад той любові да пана сёньняшняя любоў да Лукашэнкі? Любоў недарослага чалавека да свайго суворага апекуна, справядлівага «кармільца», кіраўніка твайго жыцьця. І як стагодзьдзе раней людзі былі шчасьлівыя ад таго, што жывуць у поўнай уладзе пана, так цяпер знаходзяць гармонію ў поўнай уладзе прэзыдэнта. У хаце адной старой бабулі я налічыў ажно чатыры партрэты дзейнага кіраўніка. Ягоны партрэт красуецца сярод фатаздымкаў сыноў. І нават каля іконы на покуці — ягонае вясёлае газэтнае аблічча.

— Лукашэнку во павесіла. Ён жа мяне корміць! Ён жа мне грошы дае! А што б я рабіла сёньня без капейкі? Нас жа, старых, ня хочуць маладыя браць. Вось і начапіла карміцеля



свайго. Пачаплю разам з сынамі. Малюся Богу ды на яго пазіраю.

Некалі вялікая вёска, якая і цяпер не выглядае паміраючай, Дзямідаў прыцягвае ўвагу падарожніка сваёю моваю. Краязнаўца Юры Жыгамонт даў мне ўрок мясцовай гаворкі. Некаторыя словы гучаць зусім нечакана.



— Тут размаўляюць усе па-свойму. Тут вельмі мяккая мова. Тут вёскі, што ўкраінскія на Жытоміршчыне, што нашы тут, яны гавораць абсалютна на адной мове. Недзе ёсьць «му». У суседняй вёсцы кажуць «вуп'ем». У іх гавораць «вароўка», у нас «вяроўка». У іх гавораць не «грыбы», а «грыбу». Ня «мышы», а «мушы». Адлегласьць два кілямэтры. А на пляменьніка кажуць «нябож».

Аказваецца слова з Коласавай паэмы «Новая зямля» яшчэ жыве і паміраць не зьбіраецца.

«А там зямельны банк паможа,
Быка, карову прадамо...
Чаго палохацца? дармо!
Абы ахвоту меў, нябожа!»

Прычым у клясыка гэты «нябож», пазначаны ў слоўніках як абласное слова, сустракаецца даволі часта.

У суседняй вёсцы Галоўчыцы захаваўся парк і палац Горватаў. Некалі тут была школа, а цяпер бальніца. У парку ёсьць брацкая магіла, аформленая так, быццам тут пахаваныя салдаты Другой сусьветнай вайны. Але каля прозьвішчаў палеглых няма датаў сьмерці.

Таямніца магілы ў тым, што тут пахаваныя чырвонаармейцы 1920 году. Юры Жыгамонт сьцьвярджае, што тут ляжаць ахвяры Палескага паходу Булак-Балаховіча. Бальшавікоў, якіх пабілі ў Дзямідаве, перавезьлі сюды ў 1920-я гады. І тут пахавалі.

Дзямідаўка Марыя Пятроўна Мацьвеенка толькі нарадзілася падчас той вайны, таму ня можа помніць дэталяў бою.



— Як палякі наступалі, я нарадзілася. Бацька казаў — пастралялі, пастралялі ды пабеглі.

Беларускае войска Балаховіча тут называлі «палякамі»? Няўжо ўсе, хто не рабаваў сядзібы, хто не вітаў рэвалюцыю, хто паўставаў супраць бальшавіцкіх рабункаў, сталіся ў памяці «палякамі»? Ці ў 1930-я гады так растлумачылі на палітзанятках?

А, можа, уся справа ў польскай форме Балахоўскага войска?

У 1920-м тут было два наступленьні. Вясной ішлі войскі Юзафа Пілсудзкага. І прасунуліся тады далёка на Ўсход. А восеньню таго самага году быў Палескі паход Булак-Балаховіча, канцавым пунктам якога лічыцца Мазыр. Дзямідаў ляжыць кілямэтраў за дваццаць на поўдзень ад Мазыра. Ці маглі балахоўцы дайсьці да земляў Горватаў? Маглі. Яшчэ адзін аргумэнт на карысьць балахоўцаў — Марыя Мацьвеенка нарадзілася восеньню.

Паводле сьведчаньняў, што сабраў Юры, у Дзямідаве былі дзьве брацкія магілы. Адну перанесьлі ў панскі парк, а другая, дзе пахаваныя балахоўцы, знаходзіцца на ўскраіне вёскі пад старой грушай. Груша і цяпер стаіць, кажа Марыя Мацьвеенка.



— Там шапка вісела. Дзе іх закапалі, шапку павесілі. Я ўжо вялікая была. Хадзіла, гуляла. Дык яшчэ вісела шапка на карчу. Дык у нас такі быў дзед. Казаў: «Пабачыце, дзеткі, ён па шапку прыйдзе!» Вось немец і прыйшоў.

Павесілі «палякі», а прыйшлі «немцы»? Аднак ніякай кашы ў галаве ў бабулі няма. Бо любы чужынец, кожны чалавек з Захаду, усякі несавецкі стаўся ўрэшце немцам. Як у дзіцячай савецкай гульні. Альбо наш «рускі», альбо нянаш «немец».

— Цяпер паноў на кожным кроку. Ды яшчэ і шкодныя. Ды яшчэ кожны хоча цябе ўкусіць. А тады пан адзін быў, і ён быў для ўсіх людзей добры. Па 20 капеек пан даваў за дзень. Хустку можна было купіць баваўняную. А цяпер у Дзямідаве паноў дваццаць.

*2012, верасень*

# Адвярніся, страляць буду!

*Як забівалі добрага пана*

Парэчча, Пінскі раён

Раман Скірмунт — беларускі палітык пачатку XX стагодзьдзя. Шляхціч, буйны землеўладальнік, ён быў абраны дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расейскай імпэрыі ў 1911 годзе. У часы БНР узначаліў урад новай дзяржавы. У міжваенным часе жыў у сваім родным Парэччы, дзе пакінуў пра сябе славу добрага пана, які заўжды прыйдзе на дапамогу.

У кастрычніку 1939-га Скірмунта забілі суседзі-сяляне.

На ўскрайку вёскі разьлёгся вялікі парк. Калі ўвайсьці ў яго з заходняга боку, літаральна праз дзесяць крокаў сьцежка выведзе да маленькага пагосту, які складаецца з брацкай магілы польскіх легіянэраў і магілы Скірмунтавых сваякоў. Магіла самога прэм’ер-міністра — крыху воддаль. Высокі драўляны крыж вянчае бел-чырвона-белая стужка. Магілу не пакідаюць у спакоі. Раней да крыжа была прымацаваная шыльда зь біяграфіяй Рамана Скірмунта. Але цяпер засталіся толькі дзіркі ад цьвікоў.

Старых людзей, якія памятаюць самога Скірмунта, у Парэччы ўсяго двое. Гэта Ганна і Павал Пракопчыкі. Абаім пад восемдзесят. Сямейная

пара сядзела на прызьбе, цешачыся сонечным надвор’ем. Першая загаварыла Ганна.

Яе бацька быў у пана парабкам, а пан — залаты чалавек, усім дапамагаў, хто зьвяртаўся. Зерне даваў. Каровы дапамагаў купляць. А ўлетку рабіў пры школе бясплатны дзіцячы садок, у які Ганна хадзіла тры месяцы. І гаварыў пан «ні па-руску, ні па-польску».

Пра забойства пана Павал Пракопчык расказваў як пра нешта цалкам зразумелае. Маўляў, замардавалі свае ж мужыкі. Бо прыйшла ж савецкая ўласьць! Значыць, паноў далоў. «Мы яго заб’ем, зямлю забярэм ды будзем панамі». А пасьля, як прыйшлі немцы, тых забойцаў пастралялі. За пана. Прычым, пастралялі немцы. Беларусы і тут засталіся гледачамі.



Раман Гур'янчык, сямідзесяцігадовы высокі спадар, захоўвае пра Скірмунтаў успаміны свайго бацькі, які быў зь беларускім палітыкам у добрых дачыненьнях, мае здымкі таго Парэчча, з палацам і касьцёлам, якое зьнікла назаўжды. Пра Скірмунта спадар Гур'янчык гаворыць як пра добра знаёмага чалавека.

— Гультаёў не любіў. Бацька мой, нябожчык, рабіў у яго. І на полі рабіў, і на фабрыцы рабіў. У пана тут цукровы завод быў, сьпіртзавод, фабрыка сукна, млын вадзяны, касьцёл прыгожы. Тут гарадок быў красівы. Была школа. Бальніцу пабудаваў, — гэта ўсё пра пана. А далей — пра забойцаў: — Былі такія. Качук, Салавей. Лайдакі. Людзі хацелі выступіць, ня даць у крыўду пана. Але баяліся, як яго вялі. Калі яго стралялі, Салавей сказаў: «Адвярніся, страляць буду!» А пан у адказ: «Я ад людзей не адварочваюся».

Не было ў Беларусі месца, дзе б не разрабавалі панскую сядзібу. Прычым, цягнулі нажытае такія самыя людзі і, пэўна, з такімі самымі добрымі ўсьмешкамі на тварах, як і тыя іх нашчадкі, што распавядаюць мне пра рабункі. Ставячы сябе на іх месца, я разумею, як мала шанцаў не паддацца на гэты шал. «Пан наш быў, вядома, харошы. Але ж зьехаў. Не прападаць жа дабру! Бо калі я не вазьму нічога, усё роўна зьнясе які гад».

Знайсьці апраўданьне сваім паводзінам — справа нескладаная. Гэта першае мастацтва, якім мы авалодваем у дзяцінстве. Ці не таму

і рабаваньне панскіх сядзіб нагадвае дзіцячае сьвята непаслушэнства.

Але ў Парэччы ня проста рабавалі. Тут адны забілі свайго, беларускага пана, а іншыя, якіх большасьць, схаваліся па крайніх хатах, не адбілі, не пярэчылі, не паўсталі на абарону. Жорсткасьць і баязьлівасьць — таксама рысы вельмі дзіцячыя. Але ці не наўмысна нашы продкі дзяцініліся? Каб пазбавіцца хоць якой адказнасьці? І сёньня ўнукі расказваюць гісторыі пра добрых паноў, ужо не адчуваючы ніякай віны за безадказнасьць дзядоў.

Раман Гур'янчык распавёў мне легенду пра тое, як Скірмунт тушыў пажары. Маўляў, калі здараецца пажар, дык адразу клікалі пана. Прыяжджае. Кругом тры разы абыдзе, і пажар сьціхае. Маўляў, малітва Божая ў яго такая была.



— А гэты, які яго страляў, вельмі мучыўся. І ўся радня ягоная зьнішчылася. Нідзе нікога не засталося.

Ад усёй архітэктурнай і гаспадарчай спадчыны Скірмунтаў у Парэччы захаваўся толькі былы бровар, які даўно пераабсталяваны пад крухмальны завод. Збудаваны з чырвонай цэглы, ён глядзіцца сапраўдным замкам. Перад заводам расьце высачэзнае экзатычнае для нашых краёў тульпанавае дрэва, якое з-за сваёй прыгожай пазабытасьці падалося мне сымбалем несавецкай Беларусі. Ад самога ж Скірмунтавага палацу не засталося і знаку. На тым месцы даўно стаяць калгасныя хаты.

Прыязная нестарая жанчына, чый дом стаіць на Скірмунтавым месцы, запэўніла мяне, што імя колішняга гаспадара не забудзецца ніколі. Бо яно тут «на языку ў кожнага». І вельмі часта гучыць «а пры Скірмунту…» І нават дзеткі ведаюць, што тыя могілкі — Скірмунта, тут фабрыка Скірмунта, а тут, дзе мы жывем, быў калісьці палац.

*2008, жнівень*

# Беларускае войска лапцюжнае

*Як беларусы паўставалі супраць рэвалюцыі*

## Грозава, Капыльскі раён

Вёска Грозаў (аграгарадок Грозава) знаходзіцца на мяжы Слуцкага і Капыльскага раёнаў. Тут захавалася старая местачковая забудова з камяніцамі крамаў на колішнім рынкавым пляцы. На ўскраіне вёскі — руіна палацу Мержыеўскіх, дзе ў 1920 годзе быў паўстанцкі штаб. Каля былога касьцёла, будынак якога дзеляць паміж сабой клюб і калгасная кантора, ад пачатку 1990-х стаіць драўляны крыж з «Пагоняю» і шыльдай, на якой выбіты тэкст: «У Грозаве ў лістападзе 1920 году падчас Слуцкага збройнага чыну быў створаны 2-гі Грозаўскі полк абаронцаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Памяці палеглых герояў антыбальшавіцкага паўстаньня».

У суседніх Сярагах жыве сын слуцкага паўстанца, партызан Другой сусьветнай вайны, і з выгляду, і па мове — вясковы інтэлігент, былы настаўнік Аляксей Новік. Ён нарадзіўся ў сакавіку 1921-га. За паўгода да нараджэньня Аляксея ягоны бацька Андрэй Новік пайшоў пад бел-чырвона-белыя сьцягі Слуцкага чыну. Жылі яны ў вёсцы Іграева, што на поўдзень ад



Слуцку. Улетку 1920 году, калі бальшавікі наступалі на Варшаву, маладых іграеўцаў мабілізавалі ў Чырвоную армію і накіравалі ў Магілёў. Але калі фронт пакаціўся назад, на ўсход, 16 іграеўцаў кінулі службу ў бальшавіцкім войску і падаліся ў родныя мясьціны.

— Мой бацька маёй маці расказваў і махаў пальцам — нікому не гавары. А яна потым нам расказвала. Помню, як да яго прыходзіў яго таварыш, зь якім там былі разам, у гэтым паўстаньні. Яны паміж сабой размаўлялі. Я не прыдаваў гэтаму значэньня. Але потым я асэнсаваў гэта. Я, напрыклад, запомніў, як ён расказваў, што ўзялі яны ў палон камісара. З Чырвонай арміі. Гавораць, сыбірская дывізія іх падаўляла. Дык яны ўзялі ў палон аднаго нейкага камісара,

габрэя. Дык рашыў іхны трыбунал — расстраляць. Дык яны завялі яго ў лес расстрэльваць. А ён на каленцы і стаў прасіць літасьці. Дык яны ўзялі яго ды адпусьцілі. Але сказалі гэтаму начальству, што мы яго расстралялі… Што яшчэ помніцца з таго, што яны расказвалі? Звычайныя мужыкі сабраліся. У гэтым войску. А іх жа ніхто не забясьпечваў. Ні абуткам, ні харчаваньнем. Дык яны многія былі ў лапцях. Дык палякі ім дапамагалі трохі. Зброю давалі, патроны давалі. І харчаваньнем памагалі. Дык гаварылі — што гэта за беларускае войска лапцюжнае? Сьмяяліся з нас: лапцюжнае войска.

Параза Слуцкага паўстаньня была перадвызначаная няроўнымі сіламі бакоў і рознымі матывацыямі тых, хто ўзяўся за зброю. На тым баку ваявалі будаўнікі новага ладу. А на гэтым — сяляне, якія толькі й хацелі жыць са сваёй зямлі. Але песьні без душэўнай прычыны не сьпяваюцца. Значыць, Беларусь была для іх не пустым гукам.

— Помню адзін куплет. Вып’юць на вясельлі ці дзе. І сьпяваюць. «Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі. Сказалі, што трэба рабіць. Што трэба свабоды, зямлі чалавеку. Што трэба зладзеяў пабіць».

Нават сёньня абнесены плотам, з павыбіванымі шыбамі, з праваленым дахам і скасабочаным порцікам, грозаўскі палац Мержыеўскіх глядзіцца сапраўдным гаспадаром наваколля. І гаспадарчыя пабудовы мясцовага калгасу,

і тыпавы будынак школы толькі падкрэсьліваюць ягоную прыгажосьць і веліч. Да 1970-х тут была школа. Пасьля яна пераехала ў новы будынак. А палац быў аддадзены на волю даджджу і ветру.



Грозавец Валодзя ўзрадаваў мяне сваім веданьнем роднай гісторыі. Аказваецца, ёсьць людзі ў Грозаве, якія ведаюць, што ў палацы быў калісьці паўстанцкі штаб. Валодзя распавёў мне, што тут стаяў Грозаўскі полк, «які быў супраць бальшавікоў». Апошняе было вымаўлена зь непрыхаваным захапленьнем. Валодзевага дзеда, які меў дваццаць гектараў зямлі, ледзь не саслалі на Салаўкі. У гаспадара забралі ўсё, але ў калгас так і не загналі. Пайшоў працаваць на будоўлю. Ягоны ўнук працуе ў школе вартаўніком.

28 сьнежня 1920-га, зьнясіленыя баямі ўчорашнія сяляне, перайшлі новую польскую мяжу. Улады суседняй краіны абяззброілі іх і зьмясьцілі ў лягер. Быў сярод іх і Андрэй Майсеевіч Новік, бацька майго суразмоўцы Аляксея.

— Палякі гэтых паўстанцаў абяззброілі і памясьцілі ў лягер. Каля Беластоку. У тым лягеры іх дрэнна кармілі. З таго лягеру многія паехалі ў Амэрыку. У некаторых былі сваякі ў Амэрыцы.

Некаторыя ў Польшчы засталіся. Ну, а мой бацька і большасьць зь іх вырашылі зьявіцца дадому. Бо ў гэты час была абвешчаная амністыя. За подпісам Леніна і Троцкага. Амністыя ўсім, хто ваяваў ці ў белых, ці ва ўсялякіх фармаваньнях антысавецкіх. Хто разумнейшы, як яны казалі, тыя засталіся. А вяртанцы паверылі Леніну і Троцкаму. Ну, яны перайшлі граніцу. Але тут іх арыштавалі. Заперлі ў Бабруйскую крэпасьць. Там яшчэ трымалі некалькі месяцаў. Гэта ўжо ў дваццаць першым годзе. І там вялі сьледзтва. Яны там адзін пра аднаго расказвалі. Але пра нашага бацьку, як і пра многіх іншых, ніхто нічога не сказаў дрэннага. Іх адпусьцілі дадому. Я помню, успаміналі яны Чайку. Уцёк да бальшавікоў, сьпісы ўсе перадаў.

Камандзір 1-га Слуцкага палку капітан Павал Чайка сапраўды здаўся бальшавікам. Але гэта не ўратавала яго ад сьмерці. Ён быў расстраляны ў студзені 1921-га. А вось на адрас іншага паўстанца, Радаслава Астроўскага, які пры немцах у Другую сусьветную служыў прэзыдэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады, знайшлася пара добрых слоў у былога партызана Аляксея Новіка.

— Ён быў чалавек адукаваны. Па-першае. А па-другое, ён быў гуманны. Ён як стаў прэзыдэнтам, дабіўся таго, што ня сталі расстрэльваць партызан. Партызан вяртаўся дадому, і яго не чапалі. Да гэтага ой немцы лютавалі. І сем’і расстрэльвалі партызанскія, і гэтак далей.

Былога паўстанца Андрэя Новіка арыштавалі на пачатку калектывізацыі і саслалі ў Казахстан. Гэта яго ўратавала ад далейшых рэпрэсій, але не ад сьмерці. Ён загінуў у 1942-м пад Сталінградам. А што ж сталася з астатнімі іграеўцамі?

— Наступіў 1937 год. Тэрор, арышты, расстрэлы. Сьлёзы. За адну ноч усё Іграева ачысьцілі ад усіх, каторыя былі ў гэтым паўстаньні. Іх было чалавек дзесяць. Бацька мой быў у Сяміпалацінску. Яго мінула гэтая навала. А вось дзядзька мой, брат бацькі, Павал — яго арыштавалі. Архіў у Мінску ёсьць усебеларускі. Я напісаў ім ліст. І папрасіў знайсьці дадзеныя пра майго дзядзьку Паўла. І з Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь мне даслалі пра яго зьвесткі. Дата нараджэньня — 1897 год. Месца нараджэньня — вёска Іграева. Нацыянальнасьць — беларус. Зь сялян. Месца працы — калгас. Дата арышту — дзясятага кастрычніка трыццаць сёмага году. Код органа — тройка. Характар абвінавачаньня — антысавецкая агітацыя. Артыкул 72 УК БССР. Мера пакараньня — ВМП. Вышэйшая мера. Месца адбыцьця пакараньня — Слуцкая турма. Дата пакараньня — 18 кастрычніка 1937 году. Расстраляны быў менш чым праз месяц пасьля суду. Вось чалавек перажыў колькі. Дата рэабілітацыі — 1989 год. Вось усе яны, гэтыя дзесяць чалавек, якія былі арыштаваныя, усе яны там і загінулі. Але ім не прышывалі артыкул за тое, што яны ўдзельнічалі ў паўстаньні. Бо амністыя ж была. Дык ім

прыпісалі іншае. Агітацыю. Агітаваў... Ён малапісьменны чалавек быў. Я думаю, што гэта напрасьліна была… Ніякай яно ролі не сыграла гістарычнай, гэтае паўстаньне. Яно засталося, як успышка ў адным месцы. Пастралялі адзін аднаго. Ахвяры былі дарэмныя. Так думаю я.

Калі з малых гадоў чуеш пра непераможную сілу бальшавікоў, дык любы супраціў ёй мусіць успрымацца як бессэнсоўная, марная і мізэрная справа. Але ўсё ж ня мае рацыі стары Новік. Не былі і не маглі быць тыя ахвяры дарэмнымі. Слава Слуцкага паўстаньня разьнеслася па краіне толькі ў нашы дні. Нібы ўзмоцненае рэха. Пра яго пішуцца кнігі, здымаюцца фільмы, сьпяваюцца песьні. Яго даты штогод адзначаюць усё больш беларусаў. Тэма змаганьня беларускага і савецкага толькі пачынае быць прыцягальнай.

*2011, лістапад*

# Мальцаў дваццаць было ў «зялёнай»

*Як «не пускалі рускіх»*

Іказьнь, Браслаўскі раён

Слуцкае паўстаньне — хіба найбуйнейшы выступ беларусаў супраць бальшавікоў, таму гісторыя яго найлепей вядомая. Але былі і сотні, калі ня тысячы іншых паўстаньняў, якія даўно і трывала забытыя. Таму пачутая ў падарожжы згадка пра такую акцыю заўсёды гучыць як адкрыцьцё.

Вёска Іказьнь ляжыць на дарозе зь Мёраў у Браслаў. Касьцёл Божага Цела стаіць у нізіне, але храм настолькі высокі, настолькі магутна вырастае з лагчыны, што хочацца зьехаць да яго, каб адчуць ягоны маштаб.

Гмах збудаваны з часанага каменя і чырвонай цэглы ў нэагатычным стылі пасьля рэвалюцыі 1905 году. Тады паўсталі многія каталіцкія храмы ў Беларусі. Апошні расейскі імпэратар абвясьціў свабоду веравызнаньня, а багатая шляхта і буржуазія не шкадавалі грошай на новыя сьвятыні. Каля касьцёла ёсьць адно незвычайнае пахаваньне. На танным надмагільлі з мармуровай крошкі па-польску напісана, што тут пахаваныя ксёндз Міхал Буклярэвіч і ягоная сястра Аліцыя. Дата сьмерці ў іх аднолькавая — 27 чэрвеня 1919 году.



Насупраць касьцёла жыве Вальдэмар Рыдзіка. Пра падзеі 1919-га ён ведае ад бацькоў.

— «Зялёныя» былі нейкія. Рускіх не пускалі. Ксёндз сышоў з алтара, узялі зброю і не пускалі рускіх. І мальцаў там было, можа, чалавек дваццаць. У гэтай «зялёнай». Ксёндз быў уцёкшы пасьля, схаваўшыся ў Дзедзіне. Там яго рускія і застрэлілі. А сястра абараняла, не давала. Ну, і яе разам зь ім. Родная сястра. А пасьля іх перавезьлі сюды, каля касьцёла пахавалі. І быў помнік. А пасьля ў 39-м ізноў рускія зайшлі. Тады гэты помнік пабілі. Было напісана «замардаваныя чырвонымі ка́тамі». Пасьля прывезьлі камень і крыж. Другі ксёндз прыехаў, камень выкінуў і зрабіў помнік.

Улетку 1919 году, падчас польска-савецкай вайны, войскі Пілсудзкага наступалі на ўсход. Тутэйшы ксёндз, якому на той час было 35 гадоў, вырашыў, не чакаючы надыходу фронту, прагнаць бальшавікоў мясцовымі сіламі. І сілы аказаліся няроўнымі. Вальдэмар сказаў, што яны нават не пасьпелі даць сур'ёзнага бою.

Ключнік Эдуард ласкава адчыніў мне касьцельныя дзьверы, і я каторы ўжо раз падзівіўся на шэдэўры наіўнага мастацтва, скульптуры Ісуса і Марыі. І сын Божы, і яго маці, і апосталы

ў правінцыйных храмах выглядаюць як мясцовыя жыхары.

Гэтыя творы вярнуліся ў храм толькі ў 1990 годзе. І захаваліся дзякуючы такім людзям, як Станіслава Аляшкевіч.



— Касьцёл закрылі ў 1948 годзе. І нашы прыхаджане хто што мог бралі дамоў. Што пасьпелі, тое ўзялі. А як адкрылі, мы ўсё назад прынесьлі. Што захавалася, што сапсавалася за 40 гадоў. Але папрыносілі.

Калі забрацца на званіцу, дык з вышыні адкрываецца захапляльны від на азёрную Браслаўшчыну. І нават бачнае старое выразнае замчышча на бліжэйшай высьпе. Неверагодны краявід! Абавязкова прасіце ў ключніка дазволу ўзьняцца на вежу.

Каля касьцёла некалі быў Народны дом. Нешта накшталт клюбу. І тут дзейнічаў гурток віленскага Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры. Альдоне, якая адзначыла свае 90-я ўгодкі, у 1934-м было 10. І самыя яркія ўражаньні дзяцінства — гэта беларускія спэктаклі мясцовага тэатру.

— Было пры Польшчы, але ставілі па-беларуску. «Паўлінку» ставілі. На першай лаўцы сядзелі камэндант паліцыі з жонкай, яшчэ нейкія важныя асобы. А мы стаім. Многа людзей



насеўшы ў клюбе. Ай, сьмешна было. «Маргарыта, жонка, не рабі ты крыку. Бо мужык твой Саўка зьбіўся з панталыку»... І на гэтыя спэктаклі зьбіраўся поўны клюб. І старых, і дзяцей. Ня помню, ці плацілі за білеты. А пасьля танцы. Сцэна была зроблена. Ай, хораша было.

Жанчына ведае пэрсанажаў «Паўлінкі», але да гэтае пары ёй невядомае імя аўтара п'есы. Вось што значыць народная камэдыя. Затое Альдона памятае іншае імя.

— Былі беларускія часопісы. Быў такі Іміналі Бука. Усё ўдзельнічаў у прадстаўленьнях гэтых. Звычайны хлопец. Помню, ён быў Быкоўскім. Гэта ж насьмешка са шляхты. Але сьмешна было.

Іміналі Бука. Якое незвычайнае імя ў гэтага невядомага беларускага дзеяча з Іказьні. І добра, што яно ўжо ніколі ня зьнікне.

А зараз пра самае галоўнае маё адкрыцьцё ў Іказьні. На вуліцы я даў прыкурыць маладому чалавеку. Андрэю Нарэлю крыху больш за 20 гадоў. І вось што ён мне патлумачыў з гісторыі сваёй вёскі. На выдатнай літаратурнай мове.

— Іказьнь калісьці была цэнтрам паўстаньня «зялёных». І ксёндз быў ярым прапагандыстам беларускай культуры і мовы. Ён гэта нёс у масы.



Беларускай школы тут не было, але заўжды ёсьць той, хто ідзе наперад, ідзе да свайго. Я шмат займаўся краязнаўствам. Распытваў старэйшых, зьбіраў зьвесткі з архіваў. Усё скончылася ня вельмі добра. Міхала расстралялі. Яго сястры прапанавалі: «Калі ў цябе ёсьць жаданьне, адрачыся ад брата і ідзі сваёй дарогаю». Яна сказала: «Не, буду да канца зь ім».

Андрэй працуе ў калгасе і завочна вучыцца на гісторыка ў Полацкім унівэрсытэце.

— Іказьнь — вельмі цікавае месца. Тут шмат гісторыяў. Ня кожнае места можа пахваліцца дакладнай датай свайго заснаваньня. 13 красавіка 1499 году вялікая княгіня Алена выдае фундуш на заснаваньне мястэчка на беразе возера Іказьнь. Ад гэтага ўсё і пачынаецца.

Скажу шчыра, чым далей я слухаў Андрэя, тым больш у мяне адвісала сківіца. Бо я гутарыў з калгасным інжынэрам. Аказваецца, бываюць калгасныя інжынэры з кругаглядам міністра адукацыі і языком прафэсійнага журналіста. Сапраўды, загадкавае месца Іказьнь. І нездарма менавіта тут бальшавікам далі адпор, а палякам паказалі культурны патэнцыял народа.

*2014, сакавік*

# Бардэль называўся «Злоты пясэк»

*Як ішлі да Краснага дарогамі сьвятымі і грэшнымі*

Краснае, Маладачанскі раён

Яшчэ ня так даўно вёску Краснае можна было назваць каталіцкай сталіцай Беларусі. Шматлікія вернікі са сталіцы адміністрацыйнай ехалі сюды, бо толькі тут дзейнічаў адзіны рымска-каталіцкі касьцёл на ўсё наваколле, і ўсе паваенныя гады менскія каталікі спавядаліся ў Красным. Да 1980 году, пакуль у сталіцы не адкрылі касьцёл на Кальварыі.

Дом Вольгі Вайцяховіч увесь гэты час быў гасьцінна адкрыты для паломнікаў. Хоць сям’я Вольгі праваслаўная.

— Памятаю, як ехалі зь Менску каталікі. Не хапала цягнікоў. У нашай хаце начавалі. Прыяжджалі на ноч, а раніцай да касьцёла. Прычым незнаёмыя людзі. Мама прымала вернікаў. Многія месцачкоўцы прымалі, не цураліся. Людзі дружныя былі.

Зрусіфікаваная чырвонасьцяжная Беларусь выглядае самай савецкай краінай на абшарах колішняга Саюзу. Але, гутарачы са старымі людзьмі, якім ужо даўно няма чаго баяцца, я пастаянна чую абсалютна крамольныя для савецкага вуха словы. Гэта парадокс? Не. Гэта

магчымасьць нарэшце выказаць на мікрафон усё тое, што было насамрэч.

— Немец сядзеў у нас у хаце. У Сталінградзкай бітве брат яго загінуў. Плача, валасы рве і кажа: «Хай бы Гітлер і Сталін узялі ды паміж сабою пабіліся. Навошта зьнішчаць народы?» Шмат немцаў-франтавікоў дзяцей нашых падкормлівалі. Брата майго зьбіла нямецкая машына, дык немцы і ўрача прыслалі, і лячылі. Франтавікі ставіліся да людзей добра. А СС? Там хто былі? Эстонцы ды нашы гады. Нашы паліцаі былі горшыя за немцаў. Асавец — партызанская вёска была. Спалілі немцы. Дзяцей людзі схавалі ў яму, яловымі галінкамі прыкрылі. Першымі ішлі немцы, убачылі — не кранулі. Ззаду ішлі нашы паліцаі — расстралялі. Дык хто горшы, а хто лепшы?

Колішні інжынэр, а сёньня краязнаўца Алесь Харытон памятае часы, калі ў Краснае вялі ня толькі духоўныя шляхі. Краснае да вайны мела славу мястэчка чырвоных ліхтароў. Да тутэйшых куртызанак прыяжджалі нават зь Вільні. І гэтая сфэра давала прыбытак ня толькі жрыцам каханьня. Як цьвердзіць Харытон, у Красным да вайны было ажно шэсьць бардэляў.

— Там на гары за станцыяй, гара тады была не заселеная, быў бардэль, які называўся «Злоты пясэк». Звычайная хата, у якой былі гэтыя жанчыны. Дык хлопчыкі і некаторыя мужыкі падпрацоўвалі. Прыходзіць цягнік пасажырскі, і пытаецца які пасажыр у хлопчыка — дзе



«Злоты пясэк»? Ён яму пакажа, а той грошы дасьць. Ці фурман стаіць. На «Злоты пясэк»! І той яго возіць, возіць. А там 200 мэтраў ісьці. Калі адкрылі насупраць царквы першы клюб, «Дом людовы», там добрыя танцы былі. Але гэтых баб не пускалі. «Выйдзі вон».

Гэтае «выйдзі вон» у міжваеннай Польшчы чулі ня толькі прастытуткі. Харытон распавёў, як красьненскія мужыкі хадзілі пешкі ў павятовую Вялейку. Хадзілі прасіць польскія ўлады, каб дазволілі адкрыць беларускую школу. Не дазволілі. Якая можа быць адукацыя на мове быдла? Мне ня цяжка ўявіць на ганку таго клюбу бліскучага польскага афіцэра ў зіхоткіх ботах, які поўнымі пагарды вачыма пазірае на

сваіх няпольскіх суайчыньнікаў. Але загадка — адкуль у народа, які зазнаў нацыянальны ўціск з боку Расейскай імпэрыі, бярэцца такі імпэт душыць народ, землі якога дасталіся Польшчы ў выніку Рыскага пакту?

Ці была міжваенная Польшча для беларусаў сваёй дзяржавай? Лічаныя людзі за ўвесь час маіх падарожжаў згадваюць тую Рэч Паспалітую як сваю краіну. Узгадваюць сваю зямлю, сваю маёмасьць, урэшце, сваю маладосьць. Але толькі не сваё войска, ні ў якім разе не сваю школу і пагатоў не сваю паліцыю. Дзяржава, створаная бандыцкім Пактам, мусіла Пактам і скончыцца. І, напэўна, ваенная параза і развал дзяржавы — найлепшыя лекі ад імпэрскага вірусу. З акупантамі зразумела. А вось дзе лекі ад вірусу рабства?

Так бывае, што едзеш па адну тэму, а трапляеш зусім на іншую.

Вольга Вайцяховіч распавяла, што ў 1937 годзе адбывалася пачэснае, з вайсковым аркестрам і салютам, перапахаваньне нейкіх парэштак. Паставілі высокую стэлу на той магіле і прымацавалі шыльду з залатымі літарамі: «Польскім паўстанцам».

Я езьдзіў праз Краснае дзясяткі разоў. І ні разу не зьвярнуў увагі на тую частку цэнтральнай вуліцы, якая ляжыць насупраць касьцёла. А паглядзець ёсьць на што. Уздоўж вуліцы стаяць хаты, цягнецца драўляны плот. Але адзін падворак занадта шырокі. Хата адступіла

далёка ўглыб двара. Паміж ёю і плотам — парослая травою пустка. На ёй, калі спыніцца і зірнуць праз плот, можна ўбачыць падмурак колішняга манумэнта. Мяркуючы па памерах,



ён быў маштабны. Звалілі яго, паводле Аляксандра Харытона, у 1940 годзе.

— Ніхто мне ня мог сказаць, а я апытаў шмат людзей, што гэта за помнік. Наверсе быў срэбраны арол. Манумэнт быў абгароджаны. Былі слупы з ланцугамі. Увосень 1940 году камсамольцы прыехалі да гэтага помніка, прыгналі трактар, зачапілі і павалілі. Потым патроху гэта ўсё пачало расьцягвацца. Там нехта адламаў, там нехта забраў.

Кавалкі таго манумэнта можна ўбачыць і сёньня. За дзясятак кілямэтраў адсюль, у самым цэнтры Радашкавічаў стаіць бюст Мікалая Гастэлы. Стаіць на вялікіх гранітных кубах. На

адным зь іх нават захаваліся дзьве дзюркі ад старой шыльды.

Магілы, са словаў Аляксандра Харытона, знаходзяцца непасрэдна за разбураным красьненскім манумэнтам. Але чые целы ў іх ляжаць?

— Старыя расказвалі так. На гары за станцыяй у XIX стагодзьдзі, калі былі паўстаньні, стаялі мураўёўскія шыбеніцы. Там вешалі паўстанцаў. І там дасталі парэшткі, паклалі ў маленькія труны і ганарова, з пачэснай вартай прынесьлі да гэтага месца, дзе гэты помнік ужо стаяў. І гэтыя труны пахавалі не ў падмурак, а ў бок рэчкі. Яны там і ляжаць.

Яшчэ адзін краязнаўца, гісторык Сяргей Старыкевіч дасьледаваў тое месца за станцыяй Уша, адкуль палякі і пераносілі парэшткі.

— Гэта пахаваньні часоў Першай сусьветнай вайны. Памерлых у шпіталі. Я аднавіў імёны 15 чалавек. Што тычыцца шыбеніц, у мяне такіх зьвестак не было. Я ня ведаю на сто працэнтаў, ці там кара́лі паўстанцаў. А падчас Першай сусьветнай — я знайшоў — тут стаялі цягнікі санітарныя, і памерлых хавалі тут. Знайшоў імёны. Аднаго цывільнага і 14 вайскоўцаў. А там, я на вока палічыў, каля 50 магіл. Насупраць станцыі Ўша. Я павінен давесьці гэта да мэмарыялізацыі. Трэба зрабіць помнік, даглядаць тэрыторыю.

Калі супаставіць факты... Першая сусьветная. Санітарныя эшалёны ў Красным. Пахаваньне памерлых ад ран. І створаны на тэрыторы

Беларусі генэралам Юзафам Доўбар-Мусьніцкім у ліпені 1917-га Першы польскі корпус... Атрымліваецца, што гэта магілы былых расейскіх вайскоўцаў польскай нацыянальнасьці, якія той корпус і складалі. Але Аляксандар Харытон гэтую вэрсію адкідае. Краязнаўца ня можа пагадзіцца з тым, што ў той магіле ляжаць не паўстанцы.

— Некалі я гаварыў з адным са старшынь сельсавету і кажу: «Слухай, ну што каштуе гэты падмурак зьнесьці бульдозэрам? Хай бы тут нехта пабудаваў хату». Глядзіце, які адказ: «Нельга. Там пахаваныя паўстанцы». Адказ старшыні сельсавету. Вось тут, за помнікам, ляжаць косткі нейкіх паўстанцаў. Жыхары гэтых дамоў расказваюць, што нехта прыяжджае і ставіць сьвечкі. Цяпер я прашу, каб мяне клікалі. Я сам сюды прыходжу 25 сакавіка, на Дзень Волі. Ну што я магу зрабіць адзін? Стаю каля гэтага месца. Запальваю сьвечку.

На сайце польскага Нацыянальнага архіву я адшукаў здымкі эксгумацыі і перапахаваньня салдат 1-га польскага корпусу. Месца дзеі пазначана як Краснае. Але кропку ў гэтай гісторыі ставіць рана. Бо старыя адназначна кажуць, што на помніку быў надпіс «паўстанцам». Варта добрым словам узгадаць імя старшыні сельсавету, які не дазволіў нічога будаваць на касьцях — Міхал Калесьнікаў.

*2014, лістапад*

# Перайсьці граніцу ля ракі. . .

*Як жылося на польска-савецкай мяжы*

Сьверынава, Узьдзенскі раён

Вёска Сьверынава на высокім беразе Нёмна нагадвае жывое старажытнае гарадзішча. Хаты стаяць на пагорку, абкружаныя высокім драўляным плотам. За расквечаным поплавам імчыць хуткая плынь ракі.

За бліжэйшым лесам схавалася сядзіба Ласток, дзе жыў Якуб Колас. А ў самім Сьверынаве хаваюцца ўсімі забытыя гісторыі. Напрыклад, найстарэйшы сьверынавец Каятан Татур памятае вераломны напад бальшавікоў на Стоўпцы.

— У 1924 годзе на Стоўпцы быў напад з бальшавіцкага боку. Дзед Талаш і яшчэ чорт яго знае колькі там тых дзядоў было на Палесьсі, яны хацелі тутака на Заходняй Беларусі рэвалюцыю зрабіць. Саветы тады ўжо ўзялі сілу мілітарную, тачанкі з кулямётамі. Перайшлі граніцу і напалі на Стоўпцы.

Вынікам той авантуры стаў палон старасты Стоўпцаў і сем забітых паліцыянтаў.

— Старасту забралі, зацягнулі ў СССР — і ня ведаю, што зь ім. Паліцыянтаў было 7 чалавек. Іх пабілі ўсіх. Ім паставілі помнікі. Потым, у 1939-м, як прыйшлі саветы, разьбілі тыя помнікі.



Былі між сялян і такія, каму гэты «пераход граніцы ля ракі» спадабаўся. Кажа Татур:

— Людзі былі моцна агітаваныя савецкай прапагандай. Улёткі. У 1924 годзе, як бальшавікі зрабілі гэты сабантуй, дык тут выдзелілі з войска «Korpus Ochrony Pogranicza». То было строга. Мірнаму насельніцтву — толькі ў сваёй загарадзі можаш варушыцца. Калі выйшаў за загарадзь, дык цябе могуць застрэліць без папярэджаньня. Але гэта было год-два, ня болей. А потым свабода!

Сьверынава — рэдкая вёска, дзе цалкам захаваўся старасьвецкі брук. У параўнаньні з паўсюдным асфальтам ён не разбураецца, хоць паклалі яго ў 1920-я гады. 80-гадовы Ян Былінавіч памятае, як бацька зьбіраў на брук камяні.

— У кожнага свая зямля, поле было. І кожны стараўся аддаць у спадчыну ў лепшым стане. Каменьня многа было. Вялікія кучы, як копы сена, крушнямі называлі. Дык вазілі на калёсах гэтае каменьне. Інжынэр адзін паказаў, як рабіць тую брукаванку. Дык танкі ішлі — не зруйнавалі. Выйшла больш даўгавечна за асфальт. Людзі самі для сябе рабілі. Абавязак.

Па той бок Нёмна была савецкая тэрыторыя.

— Палякі мне нічога кепскага не зрабілі. Нічога не забралі. Ні дзядоў маіх не абрабавалі,

ні бацькоў. Дык чаму я павінен іх кепска ўспамінаць З нашага боку, як касілі, падыходзілі сьмела. А з таго боку баяліся. Таму што маглі саслаць. Цэлую ж вёску Лунін саслалі, калі будавалі «лінію Сталіна».

Жонка спадара Яна Марыя жыла да вайны якраз на супрацьлеглым беразе.



— Мы такія былі прыказаныя, што ні гуку з хаты ніхто не выносіў ніколі. Бо нельга было гаварыць ні аднаго слова. Мужчын пахапалі ў вёсцы ўсіх. Гэта трыццаць сёмы год. Прыедуць ноччу, схопяць і павезьлі. І так усіх мужчын. Можа, штукі тры-чатыры засталося. Мае дзядзькі засталіся. А так усіх. Бо пры граніцы ўсе былі «ворагі народа». І ніхто не вярнуўся, ніхто. А як працавалі на граніцы! Вось ідуць на сенакос. Загадаюць, каб прыгожа апрануліся і песьні каб сьпявалі. Тыя думаюць — якое жыцьцё тут залатое! Яны ж ня ведалі, што гэта пад загадам было. Працавалі, сена сушылі і сьпявалі песьні савецкія. Каб было хораша. Што ў Савецкім Саюзе вельмі хораша, добра жыць. «Шырака страна мая радная». А тыя, што на сваіх участках стаяць, кажуць: «Вось прыгажосьць, як добра жыць там! Бачыш? Сьпяваюць хораша як!» Мы робім на ўчастку, але яны ж ня ведалі,

што вы робіце для сябе, а мы робім абы-як. А адтуль ужо пытаюцца, бо радня ж. «Як там той і той жыве?» Дык нашы — ні гуку. Загадаюць, каб нават у той бок не глядзелі. А як ужо прыйшлі немцы, дык ужо ўся радня зьявілася. Адтуль усе сюды, адгэтуль усе туды. Ужо тады насьпяваліся і нагаварыліся. І ўсё было добра ўжо.

Аказваецца, немцы сюды ішлі ня толькі з агнём і мячом. Касіць стары Ян навучыўся пры акупантах. Прычым нямецкай касой.

— Акупантавай касой нямецкай. Яны гаспадарнікі былі. І для падлеткаў нешта везьлі. Плугі добрыя былі і косы. Дзеці глядзяць, як дарослыя працуюць, і ім хочацца. Вось і мне захацелася. Немцы везьлі косы для сялян, каб працавалі. Бо калі ў сялян будзе нешта, то і ім будзе. Падаткі ж таксама плацілі пры немцах.

А вось яшчэ адзін эпізод апошняй вайны. Аказваецца, славутая «лінія Сталіна» выкарыстоўвалася ў баях. У ваколіцах Сьверынава пра гэта памятаюць.

— Я бачыў, як будавалі «лінію Сталіна». Кароў пасьвіў пры Нёмне. І чуваць была тая будоўля. Ваду качалі зь Нёмна насосам. Усё замаскіравана было маладымі дрэўцамі. Тут толькі чуваць было. Там рабочыя камяні білі кувалдамі. Тую лінію немцы выкарысталі. Як адступалі. Загінуў узвод дзевачак армейскіх маладых. Савецкіх. Адступалі немцы. Камандзір нейкі неразумны быў, што камандаваў гэтым дзявочым узводам. Яны перасьледавалі нем-

цаў, якія адступалі невялікімі групамі. Немцы ўбачылі стары савецкі дот. І з таго доту пастралялі тых дзяўчатак. Камандзір каманду даў — «Узяць штурмам!» З чым? З аўтамацікам? Сам камандзір пасьля ўцёк, а яны, бедныя, загінулі.

З ініцыятывы Каятана Татура на пачатку 1990-х у Сьверынаве аднавілі каталіцкую капліцу, зруйнаваную за Хрушчовым. Хоць вернікаў — «на пальцах пералічыць, хто на могілках, хто ў Мінску. А моладзь уся загітаваная бальшавіцкай прапагандай. Усе былі ў камсамоле, усе былі ў піянэрах. Вось табе і моладзь».

*2011, ліпень*

# Лепшых зьнішчылі, засталася шавер нішчая

*Як вучыліся быць заможнымі, не рабуючы іншых*

Глыбокае

У горадзе Глыбокім штогод праходзіць вішнёвы фэст. Тутэйшая вуліца Садовая ніколі не перайменоўвалася, а вішнёвая традыцыя бярэ пачатак у садах пры кляштарах кармэлітаў і базыльянаў. У народзе глыбоцкія вішні называюць лапыровымі. Хоць афіцыйна такога гатунку няма.

Лапыровыя — ад Баляслава Лапыра, які да вайны за польскім часам 15 гадоў займаў тут пасаду павятовага агранома. Але ці ведалі б мы гэтага чалавека, калі б ня быў ён найперш беларускім адраджэнцам? Прычым яшчэ «нашаніўскага» прызыву. Ягоныя шматлікія артыкулы па аграноміі можна сустрэць на старонках міжваенных заходнебеларускіх выданьняў. Краязнаўца Ўладзімер Скрабатун адмыслова езьдзіў у Гданьск, каб пагаварыць пра Лапыра зь ягоным сынам Уладзіславам.

— Як казаў сын, ён быў пакліканы для абуджэньня ў беларускім народзе пачуцьця нацыянальнай годнасьці. І гэта пацьвярджаецца фак-



тамі ягонага жыцьця. Ён езьдзіў па вёсках і вучыў сялян земляробству. Перадавым мэтадам. Акрамя гэтага, ён арганізоўваў гурткі сьпеваў, танцаў, беларускага фальклёру. І ў Глыбокім яны ставілі спэктаклі, дзеці ўдзельнічалі. Але гэта не падабалася польскаму ўраду. Таму яго ў 44 гады адправілі на пэнсію.

Лапыр вучыў народ не рабаваць панскія сядзібы, не ўчыняць рэвалюцыю, а працаваць сабе на карысьць, бо калі ў цябе ёсьць нацыянальная годнасьць і справа ў руках, ты ня будзеш чапаць чужога. Такіх падзьвіжнікаў у Беларусі было нямала, але і мала як на ўвесь народ.

Сядзіба Лапыра была непадалёк ад Глыбокага, каля вёскі Шуневічы. Гэтае месца пазнаецца па высокім дубе і некалькіх лістоўніцах. Яно — насупраць новых гарадзкіх могілак.



Ганна Чарапкоўская Лапыра памятае выдатна.

— Шарабаі, такая ёсьць вёска. Дык у іх цыбуля не расла. Дык ён пайшоў да іх. Нічога не рабіў. Узяў на язык зямлі. І сказаў — вось

тут садзіце. І пасьля Шарабаі пастаянна прадавалі на кірмашы цыбулю. Во аграном! На язык узяў зямлі і сказаў. Гаварыў па-беларуску. Не паля́чыў. Пасьля вайны мы яго саджанцы выдзіралі і садзілі. Бо яго ж няма. Дом стаіць пусты. Але моцна і ня бралі. Баяліся. Ці мала што гаспадара няма. Тут жа саветы! Баяліся! Падобны ёй быў да настаўніка. Ён ня паніўся. Цяпер жа няма гэткіх аграномаў. А гэтыя бегуны — зь іх аграном, як і зь мяне. Я яшчэ больш за іх разумею, бо я працавала на гэтай зямлі.

Старая Ганна абураецца, што ў яе працоўным стажы не ўлічылі два гады працы падчас нямецкай акупацыі.

— Я і пры немцах нарабілася. У цагельні. Два гады адрабіла, і пэнсіі ж не дабавілі. А мне ўжо 91-ы год. Баяліся і бальшавікоў, і немцаў. Нам трэба баяцца. Лепшых зьнішчылі. Засталася шавер. Шавер нішчая. Нікчэмныя людзі. Во гэткія, як я. Нявучаныя недапекі.

Вось табе і нечаканая лінгвістычная знаходка. «Шавер». Нікчэмныя людзі. Але ж засталася не адна шавер. І ці ня дзякуючы дзейнасьці Лапыра па вайне ў Глыбокім паўстала моладзевая падпольная арганізацыя «Саюз беларускіх патрыётаў»? Пра яе мне нагадала глыбоцкая старажылка Яніна Хромава. Хударлявая ветлівая полька агранома Лапыра памятае кепска. Але колькасьць беларускіх актывістаў яе ня дзівіць.



— Тут актывістаў было поўна. У тым баку дома ў нас кватаранты жылі. Іх вывезьлі ў Сыбір. Студэнты. Вучыліся ў пэдвучылішчы. Я нават і ня ведала, што яны ў арганізацыі нейкай беларускай. Адзін выдаў іх, і арыштавалі іх. Вось так было. Беларусы! Нейкія нацыяналісты былі. А што яны рабілі? За сваю нацыянальнасьць змагаліся. Аднойчы прыходжу ў пэдвучылішча, а іх арыштавалі. Дзясяткі два. Здаецца, улёткі нейкія пісалі.

Пані Яніна жыве па дарозе ў гарадзкі раён Беразьвечча, дзе ў сьценах колішняга базыльянскага кляштара цяпер месьціцца папраўчая калёнія асобага рэжыму. А пры «першых саветах» была турма НКВД. І першае, што зрабілі немцы, калі прыйшлі ў Глыбокае — наладзілі «экскурсію» для цывільнага насельніцтва. Была на той «экскурсіі» і Яніна Хромава.

— Мы ня ведалі, што робіцца ў Беразьвеччы пры бальшавіках. Толькі чулі, што таго арыштавалі, таго арыштавалі. А там цэлыя ямы былі незакапаныя, з трупамі. Я помню, ляжаў малады хлопец у сьвітэры вязаным белым. Наверсе ляжаў, незасыпаны. Гэта быў жах! Людзі ішлі чаргой у Беразьвечча. Я з татам была. Хадзілі па турме. Пад касьцёлам там вазок ляжаў аднаго інваліда. Ён быў «стральцом», была та-

кая арганізацыя. Яго расстралялі, а вазок ляжаў пад касьцёлам. Ішлі людзі і шлі. У многіх былі арыштаваныя сваякі. І многія думалі, што, можа, знойдуць сваіх. І мы хадзілі па кляштары гэтым, па калідорах. Сьцены там былі ўсе ў крыві запырсканыя. Значыць, іх там білі. І дакумэнты там валяліся на падлозе. І цяпер яна там працягваецца, гэтая турма. А касьцёл разабралі па цагліне. І сьледу ягонага няма.

Баляслава Лапыра першая хваля рэпрэсій абмінула. І наш герой пасьпеў папрацаваць у акупацыйнай адміністрацыі. Тыя часы ўспамінае 85-гадовы Пётар Альбінавіч Вярцінскі. Былы сусед агранома.



— Ён такіх угнаеньняў дасьць, што ўдвайне ў яго вырастала. Пры немцах ён быў у райвыканкаме. У іхным выканкаме рабіў. Добры чалавек быў. Ён нават пісаў кнігі па-беларуску. Кніга ў яго была, «Беларуская ніва», здаецца. Беларускі алфавіт ня гэтакі быў. Была лацінка. Гэта цяпер кірыліца. І ён на беларускай лацінцы выдаваў кнігі па сельскай гаспадарцы. А вось дзе ён падзеўся? Ці яго забілі? Ці яго вывезьлі? І пры польскай уладзе быў, і пры нямецкай. Толькі з савецкай уладай не дружыў. Лапыр — гэта чалавек. Толькі па-беларуску. Ён нават тады ў касьцёле

хацеў, каб служба па-беларуску была. Дабіваўся. Дарэмна яго зьнішчылі. Ён не палітычны быў.

90-гадовая Алена Сініца, маленькая, усьмешлівая жанчына, таксама жыла непадалёку ад Лапыравай сядзібы. У размове яна выдае часам паэтычныя экспромты.



— Праляцелі годзікі, як маладыя птушкі. А цяпер старыя поўзаем, як лягушкі. Чалавек быў харошы. У нас бедната была. Дзесяцера дзяцей было. А ён нам дапамагаў, Лапыр. Як возьмуць да іх мяне, дык я наеўшыся смачна. Яны недалёка жылі. У мяне нават беларуская кніжачка была Лапыра па аграноміі. Памятаю, мы сьмяяліся: гэткі пан, а зямлю каштуець!

Алена таксама была ў чэрвені 1941-га ў Беразьвеччы. І ёй таксама ёсьць што ўзгадаць пра «подзьвігі» сталіністаў.

— Я сама хадзіла. Нас сабралася многа моладзі, і пайшлі. Немцы кажуць: «Ну хадзіце, паглядзіце, што нарабілі вашы таварышы». Во так казалі. «Вашы таварышы». Мы хадзілі па калідорах. Нас было чатыры дзяўчыны. Немцы сьмяюцца. «Вы, — кажуць, — адважныя, што ходзіце». Па калідорах — скрыні. Рукі паадразаныя, пальцы, вушы. У гэтых скрынях. Каб цяпер, я б ня вытрымала. А тады толькі

мароз пад скурай. А пасьля павялі на кухню. У гэтай кухні вялікі кацёл, і ў гэтым катле нага конская з капытом. «Во, — кажуць, — што вашы таварышы нарабілі». Ну, і каля касьцёла тры ямы былі. І ў гэтых ямах яны важнейшых людзей душылі. Ямы і шыбеніцы. І ў шыбеніцах трупы боўтаюцца. Людзей было наехаўшы! Якія сваіх сваякоў шукалі. Трупы чорныя былі. Без крыві, чорныя. А ў адным месцы замураваны быў мужчына. Рукі па швах апусьціўшы і замураваны. Труп стаіць у сьценцы. Жывога замуравалі. Каб не прыйшлі немцы, дык забілі б і нас. І нас бы не было. А так яшчэ бадзяемся.

Пра тое, «дзе падзеўся» Баляслаў Лапыр, мне распавёў Уладзімер Скрабатун.

— Яму не падабалася нямецкая палітыка зьнішчэньня беларускіх вёсак. І пасьля чарговай нямецкай акцыі ён пайшоў да свайго наўпроставага начальніка і выказаў усё, што думае. Немец сказаў яму: «Калі будзеш павучаць нямецкую расу, то беларусы будуць занесеныя ў лік народаў, якія варожа ставяцца да немцаў». Пасварыліся. Немец даў у твар. Той не прамаўчаў, таксама даў у твар. Гэтую валтузьню пачуў яшчэ большы начальнік. І сказаў Лапыру — твая дарога толькі ў канцлягер.

Немцы накіравалі яго працаваць па спэцыяльнасьці на востраў Руген, які ў 1945-м акупавала Чырвоная армія. Лапыр разам зь сям'ёй быў вывезены ў савецкую Беларусь, у Слонімскі лягер. І аднойчы не вярнуўся з допыту. Ён

не асуджаны, таму і не рэабілітаваны. Ён зьнік назаўжды ў калідорах НКВД. Але застаўся ў памяці тых, хто выжыў, у вобразе настаўніка, які дапамагаў зямлі радзіць, а людзям заставацца людзьмі. І самыя смачныя вішні на Глыбоччыне заўжды будуць лапыровымі.

*2013, красавік*

# Чэрапам ганялі ў хакей на возеры

*Як мяняўся сьвет з прыходам бальшавікоў*

Ідолта, Мёрскі раён

Калі ехаць зь Мёраў на Друю, дык касьцёл каля павароткі на Ідолту — першае, што пабачыць падарожнік. Храм паўстаў адносна нядаўна, у 1939 годзе.

Непадалёк ад касьцёла на суседнім хутары жыве чалавек, які гэты храм будаваў. Чаславе Баршчэўскай 92 гады. Але для яе гэта ня той узрост, які ўплывае на памяць.



— Я сама дапамагала на касьцёле. Насілі вядзерцамі цэмэнт. Былі майстры. Ксёндз наняў. Замучылі яго ў Глыбокім. У 1939-м, як забіралі, усе хаваліся. Дзядзька, мамін брат, Юзаф Гайлевіч, у Сыбіры быў 8 гадоў. Сасланы за тое, што не любіў бальшавікоў. Гаварыў па-беларуску. У Латвіі быў ксяндзом. Служыў па-беларуску. Беларусам лічыўся. У Друі ўсе ксяндзы былі беларусы. Там быў ксёндз Германовіч такі. Яго таксама вывезьлі далёка. Вершык быў злажыўшы.

Ой, бядую і шкадую,
Што пакінуў родну Друю.
Сам жыву тут, як на лёдзе,
На далёкім на Усходзе.

І мой тата, і мой дзядзя выпісвалі беларускую газэту. Прыходзіла зь Вільні. І там чыталі вершыкі. І я таксама вучылася, чытала. Так яны гэтай Беларусі і не дачакаліся. Так і памерлі. Але ж, выходзіць, мы дачакаліся хоць да нейкай Беларусі. Прыйшла ж во.

Сустрэць чалавека, які помніць ксяндза Германовіча і цытуе ягоныя вершы на памяць — ці ня цуд гэта? Вось што значыць нацыянальнае выхаваньне ў сям'і і ў касьцёле, праз малітвы і вершы на роднай мове. Беларушчына ня зьнікне і на дзясятым дзясятку.

А яшчэ цуд — сама Ідолта. Доўгі час гэтыя мясьціны належалі шляхцічам Мілашам.

Мой праваднік па Ідолце, былы настаўнік гісторыі, сівавусы, падцягнуты спадар Альфрэд Тычка нарадзіўся ў 1939-м. За год, як бальшавікі забралі ягонага бацьку Франца. Толькі за тое, што той працаваў у ксяндза.

— Ксяндза арыштавалі. Прыехалі, прывязалі да брычкі і пешкі павялі. І бацьку майго таксама. Завялі ў Беразьвечча. А потым, як немцы пачалі наступаць, зэкаў пагналі ў бок Полацку. А пад Полацкам усіх расстралялі. А з маім бацькам як выйшла? Ён стаяў каля дзьвярэй. Як турэмшчыкі заходзілі, дзьвярыма плясь — і за-



крылі яго. Усе з камэры пайшлі, а ён застаўся за дзьвярамі. Ніхто ня выдаў. Але каму выдаваць? Іх гналі, як скаціну. Такі лёс.

Галоўнае было — выжыць да вайны. Бо па вайне да ранейшых спраў НКВД не вяртаўся. У іх хапала новых клопатаў. А паваенны час запомніўся спадару Альфрэду ўцекачамі зь беларускага Ўсходу.

— Усё Задзьвіньне. Там жа савецкая Беларусь, а ў нас былая Польшча. Там калгасы, а ў нас уласныя гаспадаркі. У нас па вайне авёс быў, і мама пякла хлеб з аўса. Смачны. Назаўтра ўжо гаркаваты. Але ж гэта быў хлеб. У людзей і гэтага не было. А там зусім голыя былі. Там жа немцы папалілі ўсё. Партызанская зона. Асьвея, Дрыса. Мяне мама з братам выводзіла на ўзвышша. «Глядзіце, дзеткі. Вось там людчыкаў паляць». А там кожную ноч зарыва, зарыва. Усё вёскі палілі немцы. І мама казала — запомніце, там і маленькіх дзетак паляць, і старых. І тыя, хто застаўся там у жывых, есьці ж няма чаго, да нас пабірацца прыходзілі. Апошняе аддавалі, дзяліліся. Што ж зробіш...

Каб пацешыць вока вытанчанай эўрапейскай прыгажосьцю, ня трэба ехаць далёка на Захад. Дастаткова наведаць Ідолту. Паселішча стаіць у надзвычай прыгожым месцы на беразе

возера, праз якое вядзе доўгі мост. Пасярэдзіне — высокая паўвыспа з капліцай-пахавальняй Мілашаў. Аднак, ня ўсе тут любаваліся прыгажосьцю. Спадар Альфрэд згадвае, што рабілі з пахавальняй мясцовыя ёлупні. У паваенны ўжо час.

— Даставалі косьці. Чэрапам ганялі ў хакей на возеры. Але не праходзяць дарма зьдзекі. Адзін разьбіўся на матацыкле. Другі пайшоў на рыбу — утапіўся. Трэці атруціўся. Чацьвёртага рак зьеў. Пятага — саркома. Вось як хочаш, так і лічы. За гэта, не за гэта...

Іншы карэнны ідолтавец Адам Міцель за сваё доўгае мэханізатарскае жыцьцё назьбіраў ледзь ня сотню ганаровых грамат — ад раённага савету да Вярхоўнага. Вось толькі не замянілі гэтыя паперкі з Ільлічом таго, што было забрана ў сям'і па вайне.



— Усё бальшавікі растрэсьлі. Задаволеныя калектывізацыяй? Былі такія. Як і цяпер ёсьць. Гультаі былі, якія зямлі ня мелі.

Слухаю пра бальшавіцкія мэтады працы з насельніцтвам і кожнага разу чую нешта новенькае.

— У нас было гумно пад адным дахам з хлявом. Дзе каровы стаялі. Прыехалі. На дровы разабралі. І дзе карова стаяла, канец адкрыты

застаўся. Зіма. Бальшавікі разабралі. «Гэта калхознае». Разабралі і спалілі. Гэта 1950-я гады. 15 гектар пашы ў майго бацькі было. Забралі ўсё падчыстую. Нават сячкарню. Я яе знайшоў ужо пабітую. Ужо ў 1970-я гады ў балоце знайшоў. І цяпер яна ў мяне робіць. Бацькава. Сёньня ўжо ня трэба яна мне. Магу ў музэй здаць.

Стогадовая нямецкая сячкарня. Адзінае, што засталося ад колішняй гаспадаркі, выглядае цяпер помнікам эпохі. Той эпохі, дзе сталіцай для тутэйшых людзей была Вільня.

Газэта, якую выпісвалі зь Вільні тата і дзядзька Чаславы Баршчэўскай, называлася «Крыніца». «Пачытаюць і скураць». Сама ж яна газэт не выпісвае, толькі слухае радыё.

— Я цяпер слухаю кожны дзень а шостай гадзіне Радыё Свабода. Адно дажыць бы пару гадкоў, як будуць выбары. Дужа хачу паслухаць, як будзець. Як пойдуць у Менску. Так што я беларуска, і ўсё.

*2014, студзень*

# Калі не было гарэлкі, гулялі ў шахматы

*Як савецкаму супрацьстаўляюць сваё*

Лынтупы, Пастаўскі раён

У старой газэце «Наша Ніва» невядомы лынтупец пісаў пра сваё мястэчка:

«П'янства ў нашым мястэчку вялікае. П'юць усе. Нават заможныя людзі, што маглі б добра жыць, дапіваюцца да таго, што па колькі дзён сядзяць з сем'ямі саўсім бяз хлеба. Кепска тое, што саромяцца нашы людзі сваёй роднай мовы. Каталікі стараюцца гаварыць па-польску, а праваслаўныя па-расейскі. Толькі гэтыя мовы яны перакручываюць страшэньне. Так што і слухаць брыдка — ні па-беларуску, ні па-расейску, ні па-польску. Але ў нас сяляне вераць, што зробяцца панамі, перавярнуўшы мову».

Сумна мне стала не ад таго, што людзі п'юць ці пагарджаюць беларускай моваю. А ад таго, што за сто гадоў нічога не зьмянілася. Той нумар «Нашай Нівы» быў за 1909 год. Літаратар, зьбіральнік мясцовых легендаў Алесь Гарбуль — унук аднаго з тых карэспандэнтаў, расказаў, што на пачатку XX стагодзьдзя ў «Нашу Ніву» з Лынтуп пісала чалавек дзесяць. Што да беларускага п'янства, дык зьява гэтая

зусім не савецкая. У Лынтупах ва ўсе часы пілі аднолькава. Алесь кажа, што мясцовы бровар, які і сёньня не зьбіраецца спыняць працу, упамінаецца ў летапісах за 1591 год.

Лынтупскі нэкропаль з унікальнымі каменнымі крыжамі, перарobленымі, паводле спадара Гарбуля, з паганскіх стодаў, з багатымі мармуровымі шляхоцкімі надмагільлямі, з драўляным помнікам невядомаму жаўнеру арміі Жалігоўскага, аздобленым у беларускім нацыянальным духу, варты асобнага расповеду.

І ўсё ж ня мела рацыі даўнейшая «Наша Ніва». Калі б усе лынтупцы так татальна пагарджалі роднай моваю, дык як бы яна захавалася? У тым выглядзе, як я пачуў яе з вуснаў 80-гадовай лынтупчанкі Вікторыі. Што праўда, размова ў нас зайшла невясёлая. Я спытаў у спадарыні Вікторыі, што ў яе доўгім жыцьці згадваецца найперш? Улічваючы ўсе тыя рэжымы, войскі і цывілізацыі, што праходзілі за вокнамі яе дому?



— Што тут рабілася, ня дай Божа. Тады пры немцах зьбіралі гэтых жыдоў. А ў нас было тарфяное балота. І гэтых жыдкоў туды гоняць. Навязаныя павязкі — «юдэн». Гоняць і прымушаюць пяяць. Каб ішлі і пялі на балота гэта. А Божа ж мой, Божа. Енчацца гэтыя жыды не сваім голасам.

Якія ж там песьні! І тады пастралялі ўсіх. А прыходзілі ж гэтыя жыдкі, каб схавалі іх. Ну хто ж іх возьме? Прыхадзіў да нас, такі быў жыд Чарноцкі. А татка мой кажа: «Не, пан Чарноцкі, не вазьму». Ні за што. «І ім сьмерць, і мне сьмерць». Але многа хто пахаваліся. Але ж і пабілі. А тыя, што пахаваліся, выжылі.

У Лынтупах я спаткаў аднаго зь іх — габрэя, які пасьпеў уцячы. Сямёну Яфімавічу Кацковічу 90 гадоў.



— Да вайны Лынтупы невялікія былі. Крамаў шмат было. Былі эндэкі, палякі, моладзь. Калі я працаваў на базе Сьвірскага спажыўсаюзу, прыйшлі гэтыя эндэкі. «Давай гарэлку!» — «Ну як я вам дам гарэлку?» — «Ну, заўтра мы з табой разьбярэмся». Я давай дзёру. Гэта было ў 1941-м.

Улетку сорак першага году Сямён ня стаў чакаць наступнай раніцы. Ён сеў на ровар і паехаў на Ўсход. Уцякаючы ад фронту, пад бамбёжкамі і абстрэламі даехаў да Вязьмы. Каб сесьці на ўсходні цягнік. Каб пеpажыць вайну ў эвакуацыі. І вярнуцца ў Лынтупы.

— Там, дзе цяпер пошта, была вялікая цагляная сынагога. Разьбілі. Там фронт праходзіў, усе дамы разьбілі. Уся сям'я патрапіла ў гета. Расстралялі ў сорак другім годзе. Я гэтае месца

абгарадзіў. Жалезную абгародку зрабіў, помнік паставіў. Усё, што трэба, зрабіў. Напісаў: «Загінулым у сорак другім годзе». 92 чалавекі.

Недалёка ад Лынтуп у полі стаіць незвычайны помнік. Незвычайны тым, што пастаўлены сярод пашы. Мармуровы крыж. Фэрмэр Уладзімер Іванковіч — адзін з тых, хто яго аднаўляў.



— Стаяў калісьці помнік паўстанцам 1831 году. Потым, у 1950 годзе першы старшыня калгасу загадаў узараць гэтае поле, а пліту зацягнулі ў стайню. Нехта з трактарыстаў плугамі зачапіў чалавечыя косьці і адмовіўся далей араць. А ў 1972 годзе галоўны аграном загадаў ізноў разараць. Расьцягнулі гэтыя косьці зьверху да нізу на мэтраў 50—70. Касьцей было шмат. І потым самае неверагоднае пачалося. З гэтай сям'ёй. Яны з Лынтуп зьехалі. Усе тры сыны на сёньня мёртвыя. Маці іхная, ня вытрымаўшы гора, скінулася зь пятага паверху…

Уладзімер — высокі, дужы мужчына. Шматгатоў прыемна, што беларушчына, свая справа, памяць пра свой род, стаўленьне да сваёй зямлі і сваёй мовы, усе гэтыя абстрактныя паняцьці трымаюцца вось на такіх, як ён, канкрэтных людзях.

У Лынтупах проста фізычна адчуваеш, як супраціўляецца савецкасьці спаконвечнае сваё. Пабачыўшы перад сабой касьцёл сьвятога Андрэя апостала, а за сабою парк з палацам, разумееш, што ты не ў «пасёлку гарадзкога тыпу», а ў старажытным мястэчку, пра што сьведчаць суладная з прыродай архітэктура, вулічная пляніроўка і нават «размовы за сталом», пагаджаецца са мной Уладзімір Іванковіч.

— Адчуваньне не памылковае. У хаце адно гаварылі, у школе другое. Людзі на нейкай сваёй хвалі жылі. Ну, хадзілі ў калгас, кралі там. Але кралі з розумам, ня ўсё. Напрыклад, цягнулі тры кіляграмы мукі, а ня мех. Бо мех трэба аддаць было каровам, каб яны далі нейкі надой. Памятаю, як бацька мой сядзеў, выпіўшы добра зь сябрам. Яны абмяркоўвалі Сахарава. Што Сахараў сказаў. А калі не было гарэлкі, яны ў шахматы гулялі.

Супраціўляюцца савецкасьці і мясцовыя легенды. Палацава-паркавы ансамбаль мясцовага шляхціча Бішэўскага, з калёнамі і ставамі, сваім стварэньнем абавязаны каханьню. Пан Бішэўскі закахаўся ў францускую актрысу. І каб заваладаць яе сэрцам, вырашыў пабудаваць у Лынтупах Вэрсаль. Сэрца прыгажуні не заваяваў, але нашчадкам пакінуў цудоўныя дэкарацыі для наступнага турыстычнага міту. Памятаеце навэлу Праспэра Мэрымэ «Локіс» — пра літоўскага шляхціча-пярэваратня, які ледзь не разарваў сваю каханую? Усе ведаюць гэтую гі-

сторыю, але мала хто здагадваецца, што жарсьці адбываліся ў Лынтупах. У Алеся Гарбуля ёсьць неабвержныя доказы.

— Старыя бабулі з Раманішак і Цаболак расказвалі, што тутэйшы шляхціч Ксавэры Даўгяла быў знаёмы зь нейкім францускім пісьменьнікам. І якраз у «Локісе» была цётка галоўнай гераіні з прозьвішчам Даўгяла. Там шмат апісаньняў такіх, якія падыходзяць для нашых мясьцін. Я сам тут знайшоў і запісаў старажытную легенду пра гэтага Локіса. І шмат падабенства паміж навэлай Мэрымэ «Локіс» і мясцовай легендай «Брама Локіса», я так яе назваў. Чалавек, які пераварочваўся ў мядзьведзя. Яго і іншых пярэваратняў называлі «лакісамі». Гэта ж які можна раскруціць брэнд! Пагатоў



«Брама Локіса» захаваліся. І людзі да гэтага часу лічаць тое месца вельмі крывавым.

«Брама» — пагорак у густым лесе — ураждвае і без дэкарацыяў. А калі яго адпаведным чынам аздобіць? А калі ў адрэстаўраваным палацы зрабіць пакоі Локіса? А ў парку пракласьці сьцяжынку Локіса? Са «страшнымі» пасткамі?.. Турыстычных прывабаў можна прыдумаць столькі, што Лынтупы са сваім Локісам не саступяць Дракулавай Трансыльваніі. Трэба толькі казаць, што Локіс зь Беларусі нікуды не выяжджаў.

*2008, лістапад*

# Коні моцна ржалі — пачулі кроў!

## *Як партызаны расстралялі сям’ю солтыса*

Багданава, Валожынскі раён

Магчыма, некалі падобнымі «страшылкамі для турыстаў» стануць і эпізоды савецкага партызанскага руху, пра якія не расказваюць на школьных «уроках мужнасьці» і ў мэмуарах партызанскіх камандзіраў. Але сёньня такія эпізоды падпадаюць пад артыкул «ваеннае злачынства». Бяз тэрміну даўнасьці.

Гэтая гісторыя адбылася на хутары каля вёскі Багданава ў Валожынскім раёне 23 красавіка 1943 году. У тую ноч партызаны расстралялі сям’ю солтыса Станіслава Вайгяніцы. Забілі і дзяцей, і цяжарную жонку. Самога солтыса ў хаце не было.

За савецкім часам, калі яшчэ жылі сьведкі той трагедыі, пра такое не распавядалі. Бо тэма была занадта небясьпечная. Перасьцярога і сёньня адчуваецца ў голасе людзей. Але кожны ў Багданаве ведае, што адбылося ў тую ноч. Выпадковая спадарыня, якую я сустрэў на вуліцы, адразу сказала, што Вайгяніца быў солтысам, што зьнішчылі яго партызаны і што замардавалі ўсю сям’ю, чалавек дванаццаць.

Ганна Каралевіч, старажылка Багданава, у 1943-м была маленькай дзяўчынкай. Я запісаў



яе распавед у яе дома, за кухонным сталом.

— Зь сям'і адна толькі дзяўчынка засталася жывая. Яна ў Польшчу зьехала. І жонка ж была цяжарная. І яе застрэлілі. А ён быў у нямецкай паліцыі, бацька... Стралялі. Дзетак стралялі. Адной дзяўчынцы толькі лёс быў наканаваны жыць. Матка як уставала, коўдру кінула на яе. А прыйшоўшы была братавая дачка. Начавала ў іх. Яны па душах палічылі, што ўсе. А гэтая дзяўчынка, як спала, так і не прачнулася. Не пачула. Палічылі, колькі душ. А жонка была цяжарная, застрэлілі. Колькі было дзяцей, усіх пастралялі. А на раніцу прыйшоў мужык сусед, крыкнуў, і гэтая дзяўчына прачнулася. Калі б не было братавай, дык яны б шукалі яшчэ адну душу. А так яны палічылі, што ўсіх, і пайшлі. Вось такая была гісторыя. А пасьля бацьку самі немцы... Ён надта ўзьеўся на ўсіх. І тады пачаў надта на партызанаў хадзіць. А немцам гэта надакучыла. Яны яго і забілі. Бо ён усё ў лясы цягнуў, каб партызанаў біць. Злосьць за сям'ю зьнішчаную.

Эдуард і Крысьціна Радвіловічы — вельмі гасьцінная і гаваркая пара. Спадарыня Крыся часам спрабуе стрымаць свайго жвавага на язык Эдзіка.

— Проста служыў чалавек. Знаеце, як цяпер. Як старшыню калгаса паставілі. Трэба ж некаму рабіць. Ну, і ён пайшоў таксама. Прымушалі.

— Ніхто не прымушаў яго! Ён сам пайшоў. Не дуры галавы!

— Я помню, як Вайгяніца прыйшоў на пахаваньне… Расказвалі пасьля, што калі прыехалі забіваць, коні моцна ржалі — пачулі кроў! Партызаны баяліся. Немцаў жа кругом было. Сам Федзя Завадзкі, партызан, расказваў. Ён там быў і страляў.

На хвіліну баба Крыся пераймае гаворку на сябе.



— Ён выдаваў людзей немцам. Хто камуніст паказваў. Паказваў, хто ў партызанах. Брата майго расстралялі ў двары. Бо быў з партызанамі зьвязаны. Сказалі «партызан», і ўсё. Білі, кідалі ў рэчку. З мосту кідалі. Білі прыкладамі. І завялі ў сад каля сьвінарніка, і там расстралялі. Быў тут повар такі. Немец. Каталік. Ён сказаў нам: «Расстралялі вашага сына. Калі вы ноччу не ўцечыцё, то расстраляюць усю сям'ю. Бо хутка зьвязда ўзыдзе адтуль, а свастыка зойдзе на Захадзе». І сказаў, каб тэрмінова выяжджалі. «Бо вас расстраляюць, як і сына вашага расстралялі».



Чым далей я гутарыў з багданаўскімі людзьмі, тым болей уражваўся новым дэталям гэтай страшнай гісторыі. Вось што распавёў мне пра Вайгяніцу 80-гадовы Казімір Радвіловіч, старэйшы брат Эдуарда.

— Людзі іх шкадавалі. Такі час быў. Вайна! Ён пайшоў абараняць! Сакаўшчыну ён абараніў. Вёску расстралялі б. За тое, што ў лесе спаткалі так званыя «нашы» немцаў. Стралялі па немцах. Адзін застаўся афіцэр жывы. І хацелі ўсю вёску сагнаць і спаліць. А ён сказаў: «Ня трэба». Вайгяніца! Вайгяніца ўратаваў цэлую вёску! Немцы паверылі яму. Бо ён ім служыў. «Ня трэба з-за аднаго чалавека». Бачыце?

Невядома, ці былі ўзнагароджаныя выканаўцы таго расстрэлу сям'і, але па рэакцыі багданаўцаў зразумела, што гэтаму «подзьвігу» жыць у вяках. Казімір Радвіловіч аж кіпіць ад таго, што забойцам усё сышло з рук.

У ваколіцах Багданава ад канца 1942 году дзейнічала партызанская брыгада імя Чкалава. Хто аддаваў гэты загад і ці ведаў пра яго камандзір брыгады Міхаіл Іванавіч Грыбанаў, пра гэта мы, напэўна, не даведаемся ніколі.



Эдуард Радвіловіч быў добра знаёмы з адным з выканаўцаў гэтай акцыі партызанам Фёдарам Завадзкім. Завадзкі, са словаў Эдуарда, за чаркай выхваляўся тым «подзьвігам». І ня толькі тым.

— Расказваў, што быў у ягонай вёсцы хлопец, зь якім разам пасьвілі каровы. І што той хлопец дужы даў яму неяк па вуху. А тады, як ён пайшоў у партызаны, прыйшоў і застрэліў таго хлопца. За гэта. «Ён, — кажа, — прасіўся, а я ўсё роўна застрэліў».

Майму суразмоўцу Эдуарду ў 1943-м было 9 гадоў. Ягоны дзядзька рабіў на вадакачцы на чыгунцы. І хлопцу ня раз прыходзілася рызыкаваць жыцьцём, носячы ў адзеньні запіскі са зьвесткамі пра рух цягнікоў.

— Як ён з атрадам партызанаў зьвязаўшыся, я ня ведаю. Ён мне запісачку за каўнер закладзе, і ідзі. Толькі, кажа, не ідзі праз двор. Бо тут шмат немцаў стаяла. Ідзі на касьцёл. І я даходжу да касьцёла, а там прыехалі немцы. І адзін немец на мяне — «гер-гер». Падыходзіць другі. І гэты «гер-гер». І трэці кліча. А я ж ведаю, што я нешта нясу за каўняром. Зловяць — капут. Думаю, будуць клікаць — што рабіць? І выручыў мяне галоўны. Ён на іх — «ай, гер-гер». Махануў рукой. Я шырэй крок, ужо на іх не аглядаюся. І

толькі заходжу за дом, выходзіць ён, партызан. Выцягвае гэтую запісачку. Напэўна, расклад цягнікоў там быў. Вось так я гэтыя запіскі партызанам насіў.

Хоць за забойства дзяцей ніхто не панёс пакараньня, проста так яно з рук не сышло. Народ сам «узнагародзіў» партызана Фёдара Завадзкага. Пра гэта мне расказалі Крысьціна і Эдуард Радвіловічы.

— Ён пасьля вайны ня хутка памёр. Яму гадоў пад 70 было. Бязьдзетным.

— Хавалі яго ў Юрацішках. У яго залатыя зубы былі. Гаварылі, што валялася галава.

— Няпраўда.

— Павыбівалі. Праўда!

— Няпраўда. Гэта пусьцілі чутку.

— Ты знаеш!

— Што адкапалі, няпраўда.

— Валялася галава каля магілы разрытай. Разрылі зямлю і выбілі зубы залатыя.

Праўда ці няпраўда, але стаўленьне да «героя» з боку людзей надта выразнае. Бяззубая галава на разрытай магіле — чым ня помнік дзетазабойцу?

Багданаўцы ня памятаюць, колькі дакладна чалавек было расстраляна ў тую ноч. Крысьціна кажа, што было 7 душ. Нехта кажа, што болей. На багданаўскіх могілках стаяць два помнікі з надпісамі па-польску. На адным зь іх — імёны Марыі і Браніславы Вайгяніцаў, маці і стрыечнай сястры солтыса. На другім напісана, што




тут ляжыць «радзіна Вайгяніцаў», безь пераліку імёнаў. Успамінае Эдуард.

— Хавалі іх, людзей сабралася вельмі шмат. Плачу было. Я яшчэ падлеткам быў. Усе людзі сышліся. Але не было вайскоўцаў. Ні рускіх, ні партызан, ні немцаў. Хавалі проста людзі. Але плачу было! Плакалі страшна.

*2014, сакавік*

# Бач, кажа, лазяць, як клапы са шчылін

*Як партызан баяліся больш за немцаў*

Навасёлкі, Сакалоўка, Вялейскі раён

Паралельна з Даўгінаўскім трактам у раёне Ільлі праз закінутыя палеткі ідзе пустынная грунтовая дарога. Да вайны ўздоўж гэтай дарогі стаялі шматлюдныя вёскі. Цяпер на месцы тых вёсак — бэтонныя помнікі з імёнамі загінулых. У красавіку 1943 году немцы разам з паліцаямі наладзілі экспрапрыяцыю харчоў у насельніцтва. Сабралі цэлы абоз гавяды. Абоз быў адбіты партызанскім атрадам імя Фрунзэ. Пасьля чаго 5 траўня 1943-га чатыры вёскі разам з жыхарамі былі спаленыя. Боркі, Любча, Старынкі, Брыгідава.

Жыхарка Навасёлак Таццяна Сьпецыян таксама магла загінуць у тым нямецкім полымі. Але з большай крыўдаю яна ўспамінае партызан.

— Толькі партызаны выбілі дзевяць душ у нас у вёсцы. За што? А хто ведае, за што... Мужык з жонкай і брат быў нежанаты. Астатнія дзеці былі. Майго ўзросту і астатнія. Яе брат у Батурыне жыў. Дык быццам ён быў зьвязаны зь немцамі. Казалі так, а хто там ведае. Дык



пры чым сястра? Ты ідзі яго і бяры, калі ён вінаваты. Усю сям’ю забілі, дзевяць душ. Ой, як страшна было. Як тата казаў, поўная хата была крыві. Мая равесьніца Марыся дык пад ложкам падушкай закрывалася, ляжала. Усё роўна забілі. У калысцы яшчэ быў хлопчык. Забілі. Усіх паднялі на ногі мужчын. Каб за ноч убралі. Як дроў наклалі на воз. Яны ж тут і пахаваныя. Мардас фамілія іхная.

У Навасёлкі мяне паклікаў Аляксандар Раткевіч, мясцовы краязнаўца, які хоча, каб дэталі тых трагедыяў сьведкі не забралі з сабой у нявараць.



— Я хачу вярнуць гэтую памяць. Каб хоць часткова была тут не маскоўская праўда, а менавіта тое, што было на самой справе. Партызаны ваявалі. А хто іх карміў, хто іх абуваў, хто іх абаграваў — ні слова пра гэта гісторыя ня кажа. І дзе яна, сацыяльная справядлівасьць? Гэтыя ваявалі. Як ваявалі? Аўтаматы бралі і да сьценкі ўсіх ставілі. А хто іх падтрымліваў? Насельніцтва. Пра іх забылі. Партызанам ордэны, машыны, санаторыі розныя. Усе льготы. А гэтыя, хто цярпеў і мучыўся, яны нічога ня маюць. Ні пашаны, нічога.

Ванда Васілеўна Альшэўская дзяцінства правяла ў вёсцы Альховікі. У яе ёсьць свая гісторыя расправы партызан над нявіннымі людзьмі. Ня менш страшная.



— Сям'ю выбілі ў Каранёве. Сям'ю Альшука. Іхны дзядзька быў войтам. З-за дзядзькі — усю сямейку. Зь дзецьмі. Мужа, жонку, матку, сына. Чатыры труны выносілі. Дзьве дзяўчынкі ляжалі на ложку. Чатыры тыдні было хлопчыку, ляжаў у калысцы. Усю калыску сьсеклі кулямі, а да дзіцяці не дакранулася куля. А дзьве дзяўчынкі, якія на ложку спалі, дык адной праз рот зубы вырвала і руку адарвала. А другой куля ў баку захрасла. Але засталіся жывыя. Альшукі іх

прозьвішча было. Я зайздросьціла тым, хто ў Германіі. Яны гавораць, што пацярпелі. Але ёсьць за што. Атрымалі маркі, па сваім раёне праезд бясплатны. А мы гаравалі — ня дай Бог!

Вядома, на вайне як на вайне і здараюцца памылкі. Але пры чым тут дзеці? Дзеля чаго яны загінулі? Няўжо ў кіраўніцтве партызанскіх брыгад нічога пра гэта ня ведалі? Ці гэта разглядалася не як забойства, а як пакараньне «дзяцей здраднікаў»? Ці ўвогуле, як акт гуманізму? Маўляў, не пакідаць жа дзяцей без бацькоў на галодную сьмерць...

Мы з Аляксандрам Раткевічам едзем у вёску Чарвякі. За саветамі старая назва зьнікла з мапаў. Чарвякі перайменавалі ў Сакалоўку. Але чарвякоўцы да новай назвы так і не прызвычаіліся.

Паліна Ігнацеўна Валовік, маленькая жвавая бабулька. Яна ўратавала ад сьмерці і сябе, і ўсю сям'ю. Хацеў сказаць — ад партызан. Але язык не паварочваецца. Бо партызан, як кажа тлумачальны слоўнік, гэта ўдзельнік збройнай народнай барацьбы супраць іншаземных захопнікаў. Тыя, хто прыйшлі ў хату Валовікаў у 1943 годзе, пад гэтую фармулёўку ніяк не падпадаюць.

— Забілі партызаны маёй мамы родную сястру. Усю сям'ю выбілі. Яны прыйшлі, Сьцёпка быў лесьніком, прыйшлі Сьцёпку біць. Дык цётка папрасіла: «Дзеткі, забіце ўперад мяне, а тады ўжо сям'ю». Цётка зьлезла зь печы, перахрысьцілася. Як партызаны расказалі пасьля



людзям. Перахрысьцілася, рукі склала — забіце мяне. Забілі цётку. А ў Сьцёпку пяць куль усадзілі. Закаціўся пад ложак, не маглі забіць. Такі здаровы быў. А тады ўжо сям'ю білі. Білі нявестку, у нявесткі дзеткі былі невялічкія. Яна папрасіла на рукі ўзяць. Калі ўзяла, дзецям у вочы стралялі. А тады праз вуліцу жыла гэтай цётчынай нявесткі матка, пайшлі і гэных забілі. У іх быў сын у паліцыі. Можа, яны за гэта іх забілі. Ну добра, калі вы падазравалі, што Сьцёпка нешта ад партызан у Ільлю немцам пераносіў, вы б яго забралі з хаты і забілі. А нашто сям'ю паклалі? Цётка — раз, Сашка — два, двое дзяцей — чатыры, Каця — пяць, Надзя — шэсьць. І да нас прыйшлі — нехта ім навёў, што мама кляла партызан. Можа, яна і кляла. Сястру ж забілі і ўсю сямейку. Любая бы кляла. Прыйшлі ўдвух. Адзін высокі такі, а другі — нізкі, таўсты. Помню, што мы кругом іх ходзім, а яны стаяць. Адзін дастаў кінжал ці нож. І ён ужо будзе язык маме адразаць, што на іх брэша. А мы, дзеці, кругом іх хадзілі, на каленях поўзалі, у боты цалавалі, у рукі. Прасілі: «Дзядзечка, ня бі маму, ня бі». Тады кажа: «Ну, курва. Маеш шчасьце, што дзеці малыя і ўсе боты вылізалі». Ну, дык як сёньня сказаць, дзе людзі добрыя, а дзе благія?

Чаму беларускія сяляне больш наракаюць на партызан, чым на немцаў? Думаю, прычын тут некалькі. Бо адна справа — чужаземны захопнік, у вайсковым мундзіры, зь незразумелай мовай, які па вызначэньні не прыйшоў з дабром. Іншая справа — свой нібыта чалавек, які дэкляруе сябе тваім абаронцам. Але калі ад немцаў ведалі, чаго чакаць, то свае тварылі такое… Загінуць можна было самай жудаснай сьмерцю з-за аднаго неасьцярожнага слова. Кажа чарвяковец Уладзімер Барысевіч.



— Юшкевіча Петруся партызаны забілі. Ён сказаў нешта на іх. Нешта збрахнуў са злосьці, можа. І як яго забілі? Гэтыя ж нашы партызаны! Прыйшлі ноччу — пакажы дарогу нам на Боркі. Ён выйшаў паказваць. Загналі яго. І праз вушы шомпалам замучылі. Наскрозь. А потым кінулі ў студню. А Кастуся Іванца як забілі? Бач, кажа, лазяць, як клапы са шчылін. Яны пачулі. Завялі ў лес. І ў бруха. Стрэлам.

Да мяне нарэшце пачынае даходзіць беларускі сэнс фразы «абы не было вайны». Гэта не пра выбухі і атакі, не пра салдат чужой арміі. Гэта нават не пра партызанаў і паліцаяў, былых суседзяў, зь якімі гадаваўся на адной вуліцы і якія ва ўмовах вайны становяцца страшнейшымі

за чужакоў. Гэта пра штохвілiннае чаканьне сьмерцi. Пра вусьцiшную невядомасьць – адкуль яе чакаць. Пра час, у якiм i начны грукат у вакно, i шум аўтамабiля, i знаёмыя галасы – усё ператвараецца ў знакi бяды.

*2011, лiстапад*

P.S. У лiстападзе 2013 году ў вёсцы Сакалоўка Вялейскага раёну адноўленая магiла сям'i, забiтай у 1943 годзе савецкiмi партызанамi. Акт гiстарычнай справядлiвасьцi адбыўся дзякуючы iнiцыятыве Аляксандра Раткевiча. На месцы пахаваньня ўсталяванае надмагiльле з прозьвiшчамi загiблых i крыж. Каля крыжа — стэнд з iнфармацыяй пра тое, што адбылося на гэтым месцы.

# Чаму немцаў у хату пускалі?

## *Як забівалі цывільных у партызанскай зоне*

Бягомль, Докшыцкі раён

У Бягомлі, напэўна, самая вялікая канцэнтрацыя помнікаў вайне на квадратны кілямэтар. Помнік на месцы партызанскага аэрадрому, брацкая магіла партызан, стэла на партызанскую тэму. Бягомль ад канца 1942 году быў сталіцай велізарнай партызанскай зоны.

Адзін з эпізодаў вайны спрабуе аднавіць 80-гадовы бягомлец Канстанцін Гайдук. Ягоны бацька быў зьнішчаны «органамі» ў трыццатыя. Вёску спалілі немцы. Дзядзьку і стрыечнага брата расстралялі партызаны. Падлеткам Канстанцін дапамагаў у лясным партызанскім шпіталі, у партызанах быў яго родны брат.

— У мяне былі браты ў партызанах, родныя. Але вярхушка — гэта былі самыя зладзеі і прайдзісьветы. Як Манковіч Сьцяпан Сьцяпанавіч. Таму што ён будаваў такую палітыку. Яны ў сьнежні 1942-га выгналі немцаў. А ў сакавіку ўжо прыляцеў першы самалёт сюды. Ужо тут была партызанская зона.

Са словаў Гайдука, быў наладжаны масавы расстрэл цывільных людзей. Тых, хто меў хоць нейкія дачыненьні зь немцамі.

— «А чаму ты не пайшоў у партызаны?» «А чаму ты да немцаў пайшоў дворнікам?» «Чаму яны ў лес не сыходзілі?» «Чаму немцаў у хату пускалі?» Не шкадавалі нават дзяўчат. Калі немцы ладзілі якую гулянку, яны заяўлялі старасту — прывядзі дзяўчат, каб на кухні папрацавалі. У гэты дзень, тут пад Верасьнёўкай ельнік ёсьць, вазілі туды і зьнішчалі. Расстрэльвалі. І дзяўчатак. Прывозілі нават зь іншых вёсак. Забіта было каля 60-ці чалавек.

На ўскраіне Бягомля на пагорку стаіць паўразбураная мураўёўка. Каля яе, кажа Гайдук, стаяла хата, у якой мясьціўся партызанскі штаб. Менавіта там, каля царкоўных муроў 8 студзеня 1943 году і разыгралася крывавая драма. У забойстве свайго стрыечнага брата





Віктара Канстанцін Гайдук абвінавачвае партызанскага камісара Сьцяпана Манковіча.

— А дзядзьку майго расстраляў Пётар Батура. Я расьсьледаваў. Прыйшоў да аднаго ў Будзілаўку, стаў распытваць. «Паслухайце, Вы заслужаны чалавек, у партызанах былі. А можа, партызаны каго расстрэльвалі?» Ён аж перамяніўся. «А хто вы? Што вам трэба? Я быў у партызанах». Тонкасьцяў я не магу прывесьці. Але Батура Пеця дакладна расстрэльваў людзей. Але кроў людзкая губіць. У аварыю папаўся, гадоў дзесяць пажыў пасьля вайны. Жаніўся, дзьве дзяўчынкі ў яго. І пасьля патрапіў у аварыю, і яго забіла.

Фатаздымкі камісара партызанскай брыгады «Жалязьняк», героя Савецкага Саюзу Сьцяпана Манковіча можна знайсьці ў сеціве. На адным зь іх каржакаваты насуплены вайсковец абдымае сумную жанчыну.

На другім здымку на нас пазірае зух-маладзён у фуражцы крыху набакір і з зоркай героя на грудзях. Цяжка ўявіць, што гэты чалавек расстрэльваў людзей проста ў штабе сваёй брыгады.

Сьцяпан Манковіч па вайне жыў у Віцебску. Быў на партыйнай працы. Памёр у 1978 годзе ва ўзросьце 72-х гадоў, авеяны славай і пашанай.

*2011, травень*

# У маткі была звычка сукенку ў руцэ сьціскаць

*Як адрозьніць абірокаў ад партызан*

Двор Шэметава, Мядзельскі раён

Двор Шэметава — гэта ня вёска Шэметава, якая знаходзіцца за некалькі кілямэтраў. Каб трапіць у гэты маёнтак, трэба ехаць па дарозе з Занарачы ў бок Камарова. І адразу пасьля моста цераз рэчку Вялікі Перакоп збочыць управа. Вам адкрыецца шчымлівая карціна, быццам апынуліся ў іншай эпосе.

Дрэвы былога парку схаваюць усе прыкметы нашага часу. Вы ўбачыце руіны былога маёнтку. Зарослы будынак кузьні, велічны паўразбураны фасад колішняга бровару.

Сярод былога парку на высокім пагорку вы ўбачыце зграбны касьцёл, пабудаваны ў 1902 годзе шляхцічам, уладальнікам маёнтку Баляславам Скірмунтам. Калісьці на гэтым месцы была пахавальная капліца роду Скірмунтаў. Але маліцца сюды хадзілі сяляне з навакольных вёсак. І пан Баляслаў вымушаны быў разбудаваць храм.

Каля касьцёла, у старой плябані, можна знайсьці гасьціннага ксяндза Ўладыслава. Яму ёсьць што паказаць падарожніку. Храмы, якія

не былі закрытыя за саветамі, маюць непаўторную аўру. Абразы, пахі, выгляд старых арганаў, пацёртыя лавы, прахалода мураваных сьцен — усё захоўвае дух несавецкай Беларусі. Пад храмам — склеп, дзе ў сьценах спачываюць вечным сном колішнія гаспадары маёнтку. Дата сьмерці дзьвюх жанчын — Габрыэлі Скірмунт і Габрыэлі Карыбут-Дашкевіч супадае. 30 сьнежня 1942 году. Гэта ўдава і дачка гаспадара Баляслава. Што ж адбылося перад новым 1943-м годам?

Ксёндз Уладыслаў некалі гутарыў пра той дзень з унукам Баляслава Скірмунта, які заяжджаў у былы маёнтак.

— Што тут адбылося, ён сам ня ведае. Я сам, кажа, паехаў з хлопцамі ў Шэметава, у вёску, і там заначаваў. Каб я заначаваў тут, ён сказаў, мяне б таксама забілі. На раніцу пабудзілі і сказалі — спалілі маёнтак ваш. Матку спалілі, бабку і прыслугу. Пазнаць немагчыма было. Ён матку пазнаў па тым, што была звычка сукенку ў руцэ сьціскаць. Руку расьціснулі, і там была тканіна ў руцэ. Па гэтым ён пазнаў сваю маці.

Я шмат чуў пра зьверствы лясных бандытаў, якія называлі сябе партызанамі. Але каб такое. Спаліць жыўцом некалькі жанчын? За што? Навошта? Клясавая нянавісьць? Жаданьне замесьці сьляды? У ваколіцах дзейнічала партызанская брыгада героя Савецкага Саюзу Фёдара Маркава. Дастаткова набраць у інтэрнэце імя гэтага чалавека, каб дапусьціць усякае. Фактура ўражвае. Марадэрства, расстрэлы, правакацыі.

Зрэшты, вось што пісаў сам Панцеляймон Панамарэнка ў справаздачы аб разьвіцьці партызанскага руху, складзенай ў чэрвені 1943-га, пра «памылкі» ў адносінах да мірнага насельніцтва. «Марадэрства, неабгрунтаваныя расстрэлы і рэпрэсіі ў адносінах да насельніцтва, непрыстойныя адносіны да жанчын у вёсках, доўгія адседжваньні, імкненьне пазьбягаць сустрэчы з праціўнікам».

У суседняй вёсцы Старлыгі стаіць незвычайны дом. Вялікі, мураваны. Яго на пачатку XX стагодзьдзя пабудаваў каваль Канстанцін Раецкі. Захавалася і кузьня, і жылая палова. І нават сапраўдных гаспадароў гэты дом не зьмяніў.

Гэта дзіва, але цяпер тут дажываюць свой век чатыры дачкі таго каваля. Алена, Рэгіна, Марыя і Ядвіга. Усе чатыры бязьдзетныя. Старэйшай Алене — 90, малодшай Рэгіне — 75. Хударлявая, увішная Алена распавядае:

— Ён быў нічога чалавек. Скірмунт. Яго людзі надта паважалі. І добра ставіліся. Ён думаў, што нічога ня будзе. А ўсё роўна. «Памешчык, кулак». «Паны зьдзекаваліся зь людзей!» Хто такое прыдумаў? Яго цанілі. А што ён меў маёнтак? Гэты маёнтак, як прыйшлі саветы, адразу зруйнавалі. А як там было прыгожа! Карціны былі, каміны. А пасьля зруйнавалі ўсё, іх выгналі. І пайшлі яны жыць у афіцыну. Старая з дачкой.

Са словаў Алены, вайну і партызанку кабеты сустрэлі, жывучы ў службовым доме.



— І вось вайна, і пачаліся партызаны. І партызаны іх жыўцом спалілі. Бачым на Новы год — Шэметава гарыць. Там страляюць, ноч, цёмна. А назаўтра, як прыйшлі, толькі галавешкі. А гэты ўнук прыляцеў, плакаў, рукамі разграбаў і шукаў целы маткі і бабулі. Такі быў канец.

Мы сядзім у чыстай, прыбранай гасьцёўні. Звычайная печка, звычайная мэбля. Можа, сьцены крыху няроўна атынкаваныя. Але ад далейшага расповеду Алены я пачынаю глядзець на гэты дом па-іншаму.

— Прыляцелі да нас у хату. Крывавым мазалём тата будаваў яе. «Панская хата!» Нас выселілі, зрабілі школу. Вайной шпіталь зрабілі ў нашай хаце. Раненых глядзелі. Потым ім далей трэба ехаць. Абабралі ў нас, што было, і паехалі далей. У нас не чуваць было ні фронту, нічога.

Толькі бачылі, як жыдоў гналі. З жоўтымі зоркамі. Плакалі. Як жа гэта? Гэта ж людзі. Страшна было. А потым, у 1944-м пачалі зноў савецкую ўладу ладзіць. І ў нашай хаце зрабілі сельсавет. А тады бралі моладзь у армію. Гэтак не хацелі ад бацькоў ісьці. Не хацелі, хаваліся. Лавілі іх. І гэтак іх білі. Вось тут, у нас. Галавой аб сьцяну. Кроў на сьцяне была. Гэтак білі. А мы сядзелі цішком, плакалі і баяліся. Матка Боска! А тата казаў — глядзіце і ня лезьце, дзеці. І мы ня лезьлі. У гэтым пакоі нават быў штаб нямецкі. А потым сельсавет. Як нішчылі нашу хату! Як нішчылі! Вы паглядзіце, якія сьцены? Замазвалі. Гэта памятка пра гэтых няшчасных людзей. Што зь імі выраблялі. Не расказаць. І дзе ж мы будзем нармальнымі людзьмі? Дзе ж будуць нэрвы спакойныя? Гэткае перажыць!



Марыя правяла мне невялікую экскурсію па доме, дзе сям'ю ўвесь час цясьнілі няпрошаныя госьці, высяляючы з пакоя ў пакой.

— У 1939-м, калі школу зрабілі, мы жылі ў тым пакоі. Усе 8 чалавек. Я магла і хадзіць у школу. У суседні пакой. Але ж не хадзіла. Наш дом — гэта і партызанская бальніца, і нямецкі штаб. А за гэтымі дзьвярыма быў пэўны час сельсавет. Хата




вялікая, вось і лезьлі ўсе. Скончылася гэта ў 1949-м.

Абстрактны выраз «празь Беларусь прайшлі ўсе ўлады, войскі і акупацыі» ў выпадку гэтай сям'і набывае настолькі адчувальны сэнс, што пакажы такое на сцэне – не паверац. Тут «улады» прайшлі проста праз калідор на кухню. І, адпачыўшы ў тваёй спальні, надоўга затрымаліся ў гасьцёўні, ператворанай у катавальню. Нават у мяне, у госьця, узьнікае пачуцьцё, што ў гэтым доме не засталося ніводнага кутка, які б не нагадваў пра іхную прысутнасьць.

Аднак вернемся да Габрыэлі Скірмунт.

— Па лясах хадзілі вядома якія партызаны. Нашто было паліць? Скірмунтова гэтая старая рускага афіцэра даглядала. Апошнім, што мелі,

кармілі, глядзелі. І вось такі канец. Кавалкі мяса сабралі. І пахавалі ў склепе ў касьцёле.

Аднак, перажыўшы ўсе жахі і акупантаў усіх фарбаў, спадарыня Алена ведае сэнс слова «партызан». Бо бачыла ня толькі бандытаў.

— Прыходзілі і бралі ўсё, што хацелі. Усё падчыстую. Трэба ім, ня трэба, усё забіралі. А былі іншыя партызаны. Прыйшлі два мужчыны. «Каб нам боты якія і анучы». Тата аддаў ім хромавыя боты. «І калі ёсьць, дайце нам хлеба і сала кавалак». Мама прынесла хлеба. «Нам ня трэба столькі!» І тады сам адрэзаў. Вось гэта былі партызаны. А то былі абірокі. Партызанаў ня так баяліся, як гэтых абірокаў.

Вось толькі як іх адрозьніць цяпер, абірокаў ад партызан? Ці заслугоўвае камандзір Маркаў, каб ягоным імем называліся вуліцы? Ці быў ён у курсе таго, што чынілі ягоныя людзі?

На супрацьлеглым беразе рэчкі ў Двары Шэметава вы лёгка знойдзеце паляну ў старым парку. Сьпінаю да дарогі ідзеце ў зарасьці ў правы бок. За дрэвамі вам адкрыюцца рэшткі калёнаў старой афіцыны. Тут адбылося ваеннае злачынства. Параўнальнае з тым, што тварылі нацысты. Але тут няма мэмарыялу. І імёны карнікаў ужо ніхто не даведаецца ніколі.

*2013, чэрвень*

# Не шукайце, мяне ніхто ня знойдзе

*Як адбывалася вайна ўсіх супраць усіх*

## Касьцяневічы, Вялейскі раён

На ўскрайку могілак вёскі Касьцяневічы ёсьць парослы мохам надмагільны помнік з надпісам: *«Скурко Вера, жила 24 года. Сын Ярослав, жил 2 года. Умерли в 1943 г.»* Гэта магіла роднай сястры паэта Максіма Танка і яе маленькага сына.

«Наша Ніва» пісала пра тое, як яны «памерлі». Іх забілі бандыты, байцы партызанскага атраду. Забілі сякерамі, каб не чуваць было стрэлаў уначы. Забілі як непатрэбных сьведкаў рабаваньня. Глядзець на гэтую магілу спакойна ніяк не атрымліваецца. Калі ведаеш праўду, мірнае «умерли» гучыць вусьцішна. І таму, што няпраўда, і таму, што людзі, якія забілі маладую жанчыну і дзіця, ваявалі, нібыта, на баку дабра. На загад камандзіраў пускалі пад адхон нямецкія цягнікі. А ў вольны ад загадаў час тэрарызавалі сваіх суседзяў. Каб пасьля вайны жыць у пашане і вучыць іншых «родзіну любіць».

Па прыклад далёка хадзіць ня трэба. У цэнтры Касьцяневічаў, каля касьцёла, на маляўнічым лужку стаяць яшчэ два помнікі. На адным напісана *«Вечно останутся в памяти поколений имена тех, кто отдал жизнь за сво-*

*боду и независимость нашей родины».* Праўда, імёны тых, хто павінен застацца ў памяці, не напісаныя. А вось другі помнік больш канкрэтны.




Вялікі камень з шыльдай, на якой напісана:

*«30 декабря 1941 года здесь были зверски расстреляны фашистами наши земляки партизаны Азончик Н.С. Мельников Г.Л.»*

Жыхарка Касьцяневічаў пэнсіянэрка Лідзія Мельнікава кажа, што тут забілі яе дзеда, Рыгора Мельнікава. Другі забіты — родны брат партызанскага камандзіра Аляксандра Азончыка.

Ні адзін, ні другі партызанамі не былі, а загінулі ад рук нацыстаў пасьля даносу суседзяў. Тут жа яны былі пахаваныя.



— Нагаварылі немцам, што чыняць яны ім бяду. Іх выклікалі і расстралялі. На гэтым месцы расстралялі. Чамусьці Азончыку захацелася іх перапахаваць. Калі перахоўвалі, толькі костачкі адны былі. Сабралі тыя костачкі і пахавалі ў Княгініне.

Іх перазахавалі стараньнямі Героя Савецкага Саюзу Аляксандра Азончыка, пра якога спадарыня Мельнікава пераказала мне вось такую гісторыю.

— Гэта мама мне расказвала. Тут усе гаварылі. Азончык ня быў ніякім героем. Быў зьлюбіўся з жанчынай. А жонку зь дзіцём сваім... Нейкую гулянку наладзіў. І яе застрэлілі праз вакно. Пасадзіў яе насупраць вакна. Усе тады гаварылі, што ён забіў сваю жонку і дзіцятка.

Сапраўдным партызанам, са словаў пані Лідзіі, быў яе дзядзька, сын забітага дзеда Георгі Мельнікаў. Паміж ім і Аляксандрам Азончыкам была свая вайна.

— Дзядзька быў баявы. Яны рабілі падрывы чыгункі на Віцебскім напрамку. Шмат было спушчана эшалёнаў. І вось Азончык стаў прабівацца ў героі. Прыдумаў, што дзядзька любіцца зь сястрой паліцэйскага і перадае зьвесткі. Ён ніякія зьвесткі не перадаваў, ні зь

якой сястрой паліцэйскай не любіўся. Азончык загадаў дзядзьку арыштаваць і расстраляць. Мне пра гэта расказаў удзельнік тых падзей, ён ужо таксама памёр. У нас была сустрэча з партызанамі. Я падсела да яго і стала распытваць. І ён мне расказаў, што дзядзька не загінуў, што быў выдатны падрыўнік. Але захацелася ўсе ўзнагароды ўзяць Азончыку. І вось такое прыдумаў. Твайго дзядзьку, казаў той партызан, заперлі ў лазьню. Там парэзалі яму вены. Вырылі магілу. Тыя, хто зь ім разам ваяваў. І выпусьцілі. І сказалі — уцякай, куды хочаш, толькі тут не паказвайся. Адпусьцілі жывога. Так ён расказваў. Кажа, столькі крыві было каля вырытай магілы. Вядома ж, зь вены. Але скончылася вайна, і прыйшоў да бабці маёй нейкі пасыльны і прынес ліст! Ад дзядзькі майго, ад Жоржыка. Каб матка ня плакала па ім. «Не шукайце, мяне ніхто ня знойдзе». Яна пасьля езьдзіла па гадалках, цікавілася. Усе казалі ёй, што сын жывы. І сам Азончык у сваіх мэмуарах нідзе не прыгадвае, што дзядзька быў здраднікам. І ў тых успамінах надта хваліць яго. А бабці далі паперку, што «зьнік бязь вестак». А пасьля так мне на душы балела. Хацела зьезьдзіць да Азончыка і сказаць проста ў вочы: Які ты герой? Ён баяўся. Ён ні з кім не сустракаўся. Жыў за высокімі платамі, з сабакам. Ні з кім не сустракаўся.

Вось такая вайна ўсіх супраць усіх. І на чыім баку зло, і на чыім дабро, часта не залежала

ад колеру сьцяга. А бацькам Максіма Танка партызанскі камандзір Фёдар Маркаў прапаноўваў знайсьці і пакараць забойцаў іхняй дачкі і ўнука. Але тыя адмовіліся. Пані Лідзія іх разумее.

— Яны былі, пэўна, вернікамі. Тады людзі моцна верылі. І гэта правільна, што не ўзялі на сябе яшчэ адну кроў. Бо вернікі.

*2014, лістапад*

# Забляяў баран пад возам

*Як партызаны адзначылі Першамай*

Варонча, Карэліцкі раён

Могілкі вёскі Варонча — сапраўдны шляхоцкі нэкропаль з мармуровымі скульптурамі, высокімі стэламі, багата аздобленымі помнікамі. Верашчакі, Любанскія, Каменскія. Але адну сьціплую магілу адразу і не заўважыш. На чорнай пліце бронзавая шыльда. Надпіс папольску паведамляе, што тут пахаваныя «трагічна загінулыя 30-га красавіка 1943 году Ганна Ізабэля Любанская, Аляксандра, Юзаф, Лукаш і Ядвіга Чарноўскія». Гэта апошнія гаспадары вялікага маёнтку. Старэйшай гаспадыні на момант сьмерці было 67 гадоў. Яе старэйшай дачцэ Аляксандры — 49, сыну Юзафу — 25, сыну Лукашу — 28. І нявестцы Ядвізе — 19. Іх усіх забілі напярэдадні Першамая. І да гэтае пары невядома, як забілі. Ці застрэлілі, ці спалілі жыўцом разам з маёнткам. Пашкадавалі толькі аднаго з Чарноўскіх — малодшага сына пані Ганны Ізабэлі Антона. Бо той быў сьляпы. Ягоная магіла побач. Ён памёр адносна нядаўна, у 1989 годзе. Але пра гэта пазьней.

На тым месцы, дзе быў некалі вялікі сядзібны дом, цяпер гароды і паваенныя хаты. Давайце зазірнем у госьці да Ванды Прыёмкі, якая памя-



тае гаспадароў былой сядзібы.

— Пані гэтая была вельмі людзкая. Гэтак яна для ўсіх ужо старалася. І дзяцей сялянскіх лячыла. Сын Антон, ён ня бачыў, але вельмі быў музыка добры. Яго партызаны пашкадавалі, а ўсіх астатніх спалілі. Там жа яшчэ была нявестка Ядзя, яна цяжарная была. Запалілі гэты палац і жыўцом іх спалілі. Мне ў той час было 7 гадоў. Я з суседняй вёскі бачыла, як гарэў гэты палац. А вось гэты пляц, дзе мая хата, гэта ўсё належала Чарноўскім. Я па вайне рабіла ў клюбе, і мне ж трэба было самадзейнасьць арганізоўваць. А гэты Антон любую песьню падыграе. Усё на слых браў. І ён ня мог на гэты пляц ступіць. Я колькі разоў яго запрашала. «Адамавіч, хадземце, я хоць крышку вас пачастую за стараньне». — «Не, пані, не магу я на гэты пляц ступіць». Так балюча яму было. Я пайду ў гарод, сын успахвае, я знайду нейкія косткі — у мяне аж мароз па целе. Гэтак страшна. А палац быў, дзе ў мяне хлеў. Ня дай Божа…

Гэлена Хвалько таксама памятае як Ізабэлю Любанскую, так і партызан, якія ледзь не забілі яе бацьку.

— За што яе забілі? За тое, што рабіла ўсё для людзей. І школа была. Самі ведаеце. Я помню,




як да нас прыехалі партызаны. Спалі мы, дзеці, на тапчане з саломы. Радком клаліся. Але былі падушкі добрыя. Мне было шэсьць гадоў. Дык яны ў нас тыя падушкі павыцягвалі ды пазабіралі. Сьвіньні хавалі, авечкі хавалі. Бо партызаны прыедуць, усё забяруць. У нас барана забралі. І зьвязалі дрэнна. Ён саскочыў з воза і забраўся пад воз. Пайшлі да суседа, нешта ў яго забралі. Вяртаюцца, а барана няма. Тату паставілі да сьцяны. Наставілі стрэльбу. І дзякуй Богу, што ў гэты час забляяў баран пад возам. А так расстралялі б, і гаварыць няма чаго. Некаторыя да гэтае пары жывуць. Заслужаныя вэтэраны. Але лепш прамаўчаць.

Адпушчаны партызанамі музыка дажываў свой век сярод паспалітага люду. І пры гэтым не азлобіўся. Так кажа Ванда Прыёмка.

— Знайшлася такая бабка ў Раманах. Яна яго прытуліла. Вайна скончылася. Яму хто яйкі,

хто кавалак сала даваў. А ён пайграе. А гэтая бабка глядзела яго. А ён вучыў усіх, хто да музыкі цягнуўся.

Таіса Цярпіцкая, жыхарка вёскі Раманы, добра памятае пана Антона.



— Гэта вайна ўсё зьмітрэжыла. Ён быў вельмі добры музыка! Гармонь вялікая была. Паедзе дзе вечарыну граць. Назьбірае яму моладзь ежы. І многа ён вучняў трымаў. Па 10—12 хлопцаў усё вучыў граць. Хацеў жыць чалавек.

Сын Таісы Іван, высокі мужчына зь вясёлымі вачыма, які на хвіліну зайшоў у хату, пачуў, пра каго ідзе гаворка.

— Мы таксама наймалі яго. А восьмай прывозім яго ў хату, плацім грошы, пасьля завозім дадому. Ён любыя танцы, любыя песьні беларускія мог. Усё сваё. Любыя полькі. Яго нарасхват бралі. Быў адзін гарманіст на ўсю акругу. Па ўсіх вёсках.

У школьным музэі настаўнікі назвалі мне імя чалавека, адказнага за тое забойства. Камандзір Золатаў. Але гартаючы кнігу «Памяць», я заўважыў, што ў час тых падзеяў ніякага Золатава не было. Першы камандзір атраду лейтэнант Віктар Золатаў загінуў у чэрвені 1942-га. І наступныя камандзіры бралі ягонае прозьвішча ў

якасьці псэўданіму. Спачатку «Золатавым» стаў Мікалай Заруднеў. А пасьля ўжо ягонай сьмерці ў верасьні 1942-га «Золатавым» назваўся Іван Якаўлевіч Чумачэнка. Калі супастаўляць факты і сьведчаньні людзей, менавіта ён камандаваў атрадам падчас ліквідацыі сям'і Чарноўскіх.

Гаспадароў Варончы забілі напярэдадні Першамая. Адзначылі сьвята партызанскай акцыяй.

Пасьля такіх гісторый азначэньне «Рэспубліка-партызанка» гучыць асабліва, па-блюзьнерску хлусьліва. Бо мэта для засланых з Расеі кіраўніцтвам НКВД дывэрсантаў была адна – нанясеньне максымальнай шкоды праціўніку. Не зважаючы на ахвяры. І кім былі для дывэрсантаў беларусы, чужыя ім па мове, па веры, па звычаях, добра бачна з гэтай гісторыі. Гэта з кабінэту генэралісімуса, дзе на мапе чырвонымі сьцяжкамі пазначаныя спаленыя штабы і ўзарваныя станцыі, можна яшчэ паверыць у «рэспубліку-партызанку». Але гледзячы з разбуранага падмурку на папялішчы, разумееш, што Беларусь нават краінай-пераможцай не назавеш. Толькі ахвярай і пакутніцай. Дзе невядома калі загояцца старыя крыўды.

*2015, красавік*

# Рука дрыжала, каб хаця пацэліць

*Як разумець «абы не было вайны»*

Воўца, Карэліцкі раён

Гісторыі партызанскага бясчынства паўтараюцца і накладаюцца адна на адну. Як сюжэты пра злачынствы нямецкіх карнікаў у кнізе Адамовіча, Брыля і Калесьніка «Я з вогненнай вёскі». Усё рабілася паводле падобных схемаў. Але тады, калі ў 1975-м выйшла гэтая кніга, тэма карнікаў-партызан была пад глухім табу. Рэспубліка-партызанка жыла гераічным культам «народных мсьціўцаў». Я ня ведаю, ці адважыцца нехта калісьці адмяніць гэтае табу і ці адшукаюцца ў архівах дакумэнты партызанскіх акцый. Таму заўсёды фіксую гэтыя гісторыі, разумеючы, што мае запісы могуць застацца адзінай крыніцай зьвестак пра іх і адзінай данінай памяці іхных ахвяраў.

Пра трагедыю, якая адбылася ў 1943 годзе на хутары Скараў каля вёскі Воўца, я пачуў ад любчанкі Алены Новік, дзяцінства якой прайшло ў Воўцы падчас акупацыі. Спадарыня Алена ўспомніла, як партызаны спалілі хутар гаспадароў Блакіцкіх разам зь сям’ёй. Данесла на Блакіцкіх былая савецкая функцыянэрка Вольга, якую гаспадары ў 1941 годзе прытулілі. А падрабязнасьці той апэрацыі Алене расказ-

вала партызанка Нінка, якая часам завітвала ў вёску. Каханак Нінкі сваімі рукамі забіваў людзей.



— Партызанка гэтая ўсё прыйдзе, яна ж бяз справы, і кажа: «Я б тую Олю ўласнымі рукамі задушыла. Гэта ж яна зьвяла чацьвёра дзяцей і мужыка з жонкай. Шасьцёра чалавек. Мой Васька расстрэльваў». А Васька быў узводны. Загад атрымаў, і ўсё. Дык, казаў, стаяў хлопец, прасіўся. «Дзядзенькі, пусьціце, я жыць хачу. Я пайду жабраваць». Ён іх паставіў за стол. Калі страляў жонку, яна трымала на руках дзяўчынку трох гадоў. У іх было тры хлопцы і адна дзяўчынка, апошняя. Дык, казаў, рука дрыжала. Баяўся, каб хаця пацэліць. Уявіце — застрэліць шэсьць чалавек. Ды яшчэ невінаватых.

Імёнаў ахвяраў я ня змог знайсьці ў кнізе «Памяць». Гэтых людзей як быццам ніколі не было на сьвеце.

— Блакіцкі быў Уладзімер, яна была Блакіцкая Еўдакія. Ну, і чацьвёра дзяцей, тры хлопчыкі і адна дзяўчынка. Пасьля таго Ваську паставілі начальнікам штабу. Як застрэлілі камандзіра Кольку. Прозьвішча Ваські ня ведаю. Яны ж усе пад клічкамі былі. Быў яшчэ камісар. Алёшка.

Да камісара Алёшкі мы яшчэ вернемся. А зараз паслухаем жыхарку Воўцы Марыю Ждан, якая нарадзілася ў 1948 годзе ў сям'і млынара.

— Тут раней млын стаяў. І кожны вечар у хаце было многа завозьнікаў. І завозьнікі заўсёды спыняліся ў нас. Людзі прыяжджалі адусюль. І чарга была. Людзі па тыдні сядзелі. І кожны пра сваё расказваў. І хоць я была малы падшыванец, я чула ўсе гэтыя размовы. Як партызанілі. Што дарэмна нейкага чалавека забілі. Нехта помсту трымаў.

Пра той хутар Марыя Ждан таксама ведае. Аказваецца, аднымі хутаранамі не абмежаваліся.

— Хутар быў спалены ў Скораве. Мая нябожчыца мама ведала пра гэта. Усю сям'ю спалілі.



У нашай вёсцы сястра Блакіцкіх жыла. Нават і тую зьнішчылі.

Марыя Ждан магла не зьявіцца на сьвет у 1948 годзе. Бо ў 1943-м, як яна кажа, яе сям'ю таксама павінны былі вынішчыць разам зь дзецьмі.

— У час вайны майго дзеда Мікалая, мамінага бацьку, паставілі солтысам. Усе партызаны ў іх спыняліся. Абшывалі іх, абмывалі. І маскхалаты ім шылі, і бялізну мылі, і хлеб пяклі. Яны жылі на хутары ў лесе. Дзед як мог дапамагаў людзям. І вось знайшоўся такі чалавек. Прадаў яго. І ўжо прызначылі дзень, калі прыйдуць і выб'юць усю сям'ю. Вось як было. І дзед сабраўся і пайшоў сам. І пайшоў да камандзіра. Дзядзя Коля яго клікалі. Ён пайшоў да яго і кажа: «Калі я вінаваты, расстраляйце мяне. Праўда, я ня ведаю, у чым мая віна». І нікога не забілі і не расстралялі. Дзядзька адзін зьнік бязь вестак на фронце, другі памёр ад ранаў. А дзеда забралі па вайне на шахты. За тое, што быў солтысам. Нядоўга ён па вяртаньні пражыў. Партызаны гэтыя сябе адчувалі вольна пасьля вайны. Многія зь іх былі пры ўладзе. Так што ў любы час магло пачацца ганеньне. Зь любой нагоды.

Кіраваў атрадам дзядзя Коля, расстрэльваў Васька, а яшчэ там быў Алёшка камісар. Камісара Алёшку ў 1960-я гады ў бальніцы сустрэла Алена Новік. Былы камісар зрабіў выгляд, што не пазнаў яе. Затое Алена даведалася ягонае сапраўднае імя.

— Камароў Міхаіл Сьпірыдонавіч. Я падышла. Ну што, Міхаіл Сьпірыдонавіч, папаўся да нас? Ён глядзіць. Пазнаў? — Не. — Эх, Алёшка-камісар, і не пазнаў. Больш нічога не сказала.

Разгорнем кнігу «Памяць» і ўбачым, што Міхаіл Сьпірыдонавіч Камароў быў камісарам атраду імя Молатава з красавіка 1943-га па ліпень 1944-га. Камандзірам «Дзядзем Колем» быў Анатоль Паўлавіч Ярачкін, які загінуў у студзені 1944-га.

Алена Новік так і не пераадолела сваю даўнюю крыўду.

— Для партызан у 1944-м годзе скончылася вайна. І яны ўсе селі да руля. Усе. Вярнуўся калі нехта паранены, уладкавацца няможна. Тут партызаны вельмі шчыльна пабралі партфэлі. І адзін аднаго падтрымлівалі. Нашы заходнія беларусы ішлі другім гатункам. Я не магу за гэта дараваць.

*2015, травень*

# На цябе і кулі мала

*Як шкадавалі траціць патроны на дзяцей*

Сьвірыдаўка, Крупскі раён

Сомры — вёска зь мёртваю назвай. «Гэта значыць, разам памерлыя. Со — разам, мры — паміраць. Праўда, цікавая назва?» Міхась Баравуля, гісторык са Старой Слабады, былы дырэктар школы распавядае мне пра трагедыю, якая здарылася ў Сомрах падчас акупацыі. Але здарылася не з-за назвы.



— У 1942 годзе, пасьля блякады, партызаны вярнуліся на гэтае месца. А Сомры — гэта быў іх раён дзеяньня. Ну, і дазналіся пра гэта мяс-

цовыя паліцэйскія гарнізоны. Вырашылі акружыць партызан. Разьведка партызанская далажыла, што ідуць паліцэйскія з усіх бакоў. А яны якраз у Сомрах начавалі, у вёсцы. Рэзалі кароў. Мяса варылі. Ну, кінуліся і сказалі людзям, каб у лес не ішлі. Ня ўсе людзі партызан паслухаліся. Частка пабегла ў лес. Ратавацца ў зямлянках. А частка засталася. Зьявілася паліцыя, немцы, кулямёты. Сагналі ўсіх на сярэдзіну вёскі. Пытаюць, ці былі партызаны. Мужыкі маўчаць. Усе маўчаць. Адна баба выйшла — вы што, ня бачыце самі? У кожнай хаце чыгуны стаяць. Ня мы ж каровы рэзалі і елі. Былі. Яе ў бок, гэтую бабу. Астатнія... Былі партызаны? Маўчаць. З кулямёта ўсіх. Недзе 130 чалавек. Кроў, кажуць, да рэчачкі цякла ручаём. Па сьнезе. Я пасьля пытаўся, чаму ж людзі маўчалі. Мне адзін мужык сказаў: Ведаеш, прыйшлі б партызаны пасьля, сказалі б — здраднік. І забілі б гэтага чалавека. Вось чаму баяліся сказаць. А жанчына гэтая пасьля вайны жыла тут. На допыты яе цягалі. Пасьля адпусьцілі. Але ўсе лічылі яе «ворагам народа».

Што ж гэта за народныя мсьціўцы, страх перад якімі скоўваў прагу жыць? Што гэта былі за людзі, якіх баяліся ня менш за немцаў? Адказ я знайшоў у суседняй Сьвірыдаўцы, дзе жыве сымпатычнае сямейства Герасіма і Пелагеі Трусоў. Абаім за 80.

— У мяне расстралялі ўсю маю сям'ю. І маму, і сёстраў. Партызаны. Пасварыўся з суседам. А



сусед напаіў іх, партызан, і адправіў. Пасьля каяўся, нашто ж я сям'ю чапаў. Дык яму ногі адарвала ў партызанах. Сусед быў зьвязаны з партызанамі. Напаіў іх, і ўсё.

— Дзетачка, тады ж быў такі час. Што ручнікі, абрусы бралі халаты шыць. Пад сьнег. Зайшлі і за нейкі хамут пасварыліся, і вось усю сям'ю расстралялі. Гэты быў



на канюшні, другі брат быў у лесе, а сястра ў грыбах. Дык гэтыя трое засталіся, а тых пабілі. Матку яго, сястру большую, маленькую сястру і сярэднюю. Адна 1933-га году, другая большая, а маленькай было паўтара года. І яе забілі. Сядзела матка і яе трымала. Яны застрэлілі і яе, і яе. Сястра большая ўцякала, дык на парозе забілі. А тая, што ў маіх гадах, сядзела за сталом. Хата згарэла. Дык на тым месцы было чорна ад крыві.

Міхась Баравуля мяркуе, што забойства сям'і Трусаў было зроблена на загад.

— Справа ў тым, што Сьцяпан гэты ўцёк у гарнізон. І лічылі, што ён паліцай. Вось за гэта і сям'ю ягоную вырашылі пакараць. Тады была

такая барацьба, што самі не разумелі, што рабілі. Партызаны мне расказвалі, што забіваў Акім Айсаеў. Уйгур па нацыянальнасьці. Ён быў у палоне. З палону ўцёк і прыйшоў сюды. Мне расказвалі так. Зайшоў у хату. Крычыць: «Паліцэйскае атродзьдзе!» Маці крычыць: «Якое атродзьдзе!» Сястра кінулася да печы. Ён прама на парозе яе... Малая плакала, ён яе на стол паклаў. «На цябе і кулі мала».

Са словаў былых партызан Міхась Баравуля даведаўся, што ўраджэнец паўднёвага Казахстану, камандзір роты Акім Айсаеў не застрэліў малое дзіця, а перарэзаў дзяўчынцы горла. Ці праўда гэта, мы ўжо не даведаемся. Вядома толькі, што ён быў кавалерам ордэна Чырвонай Зоркі і страціў на вайне ногі.

— Тады прыйшоў, рукі пачасаў, забіў — і ўсё. Ніякага ні сьледзтва не было, нічога. Вайна — і ўсё.

*2014, травень*

# Кепска будзе жыць — будзе партызанка

*Як мяжа перашкаджала хадзіць на танцы*

Ківацічы, Кобрынскі раён

Гэта амаль вымерлая вёска, дзе жывуць літаральна чатыры чалавекі. Машыны яе пралятаюць, не спыняючыся. Прасёлкавая дарога, што ідзе на захад у бок лесу, калісьці была мяжой. Паміж нацысцкай Усходняй Прусіяй, у склад якой гітлераўцы ўключылі Беласточчыну з Гарадзеншчынай, і райхскамісарыятам «Украіна», куды патрапіла Заходняе Палесьсе.



Я стаю на гэтай былой мяжы ў кампаніі вэтэрана вайны, мясцовага жыхара 90-гадовага Міхала Мароза, зь якім мяне пазнаёміла кобрынская краязнаўка Ніна Марчук. Для майго суразмоўцы тая ваенная мяжа калісьці была сур'ёзнай перашкодай. Для паходаў на танцы.



— Тут стаяў шлягбаўм. Туды ішла Ўкраіна, сюды — Беларусь. Дакладней, Усходняя Прусія. Пагранічнікі, камэндатура. У нас, ва Ўсходняй Прусіі было лягчэй жыць за немцамі. Працуй на зямлі. Ніякіх падаткаў. У нас хадзілі маркі нямецкія. Што хочаш купляй. Перайшлі мяжу — і Дзявяткі. Вёска. Патанчым у Дзявятках, моладзь знаёмая ўся. Шмат моладзі зьбіралася. Мы заўжды танцы ладзілі. У нас, у Півацічах, быў свой гарманіст у вёсцы. 17 чалавек на вёсцы было немцаў: 16 памежнікаў і камэндант. Былі нават пашпарты. Толькі замест фатакарткі — адбітак пальца. Прапаганды ніякай не было. Сачылі толькі, каб спакойна ў сяле было. Каб не сварыліся, ня біліся. Сачылі, каб добра жылі, бо кепска будзе ў вёсцы жыць — будзе партызанка. За палякамі мы цяжка працавалі, а елі слаба. А гэтыя ж ня бралі ніякіх падаткаў. Зямлю абрабляй і жыві.

Калі я чую ад беларускіх сялян пра добрае жыцьцё пад немцамі, дык усякі раз узгадваю пра тых, хто загінуў у гета. І ніяк не магу спалучыць гэтую хвалу на адрас акупантаў зь лёсам суседзяў і сяброў тых, хто хваліць. Таму кожны раз нагадваю пра габрэяў.

— Тут жыў жыд. Такія дзяўчынкі ў яго, дзьве дачкі... Прыгожыя! Кудысьці ў гета адправілі. Жыды ўсе былі спэцыялісты. Кавалі, шаўцы, краўцы. У Тэўлях жыд жыў. І з маім бацькам вельмі сябраваў. Шэер зваўся. Бацька пытае: «Як жыцьцё?» «Ох, Андрэечку. Нашто я жыдам урадзіўся?» «А што табе так кепска?», — пытаецца бацька. «На нас хутка пагоня будзе! Мы часова жывем. На нас пагоня будзе і нас зьнішчаць». І гэта ён казаў пры Польшчы. Не пры немцах і не пры рускіх.

Непадалёк ад драўлянай званіцы — усяго, што засталося ад касьцёла, каля зруйнаванай савецкай фэрмы, да гэтае пары праглядаецца доўгі земляны насып. Гэта сьлед веснавога бою 1944-га.

— Тут абарона нямецкая была. Я сюды прыйшоў пасьля бою. Шэраг акопаў, і амаль у кожным акопе — забіты немец. Нашы зь лесу стралялі, а касьцёл ужо гарэў. Ну а пасьля зь сяла вызначылі людзей, і тыя пазакопвалі. Нашы моцна спрацавалі зь лесу. Тут такі чалавек быў, распранаў нямецкія трупы. Адзеньне здымаў. Мясцовы. Няма ўжо яго. Боты на іх добрыя былі. Боты тыя здымаў.

Для Міхала Мароза, як і для ўсіх мужчын, маладзейшых тады за 50 гадоў, цывільнае жыцьцё ў Прусіі скончылася пасьля таго бою. Усе пайшлі ваяваць супраць сваіх, так бы мовіць, былых суграмадзянаў.

— У нас тры сыны з хаты ішло. Я і мае браты. І ўсе тры вярнуліся. Тады нас забралі 35 чалавек зь сяла. Усе пайшлі на фронт. Мяне ў Чэхіі, пад Прагаю, раніла. Вызваляў чэскую сталіцу. «На здар! На здар!» крычалі нам. У нас быў наводчык з Сыбіры. «Я табе дам назад»! Не разумее. Я кажу: гэта нас вітаюць! Я з чэхам любым магу гаварыць.

Калі на прускім баку гэтай мяжы немцы спрабавалі наладзіць бачнасьць цывільнага заможнага жыцьця, дык на іншым баку акупанты сябе ні ў чым ня стрымлівалі. У той час, калі Міхал Мароз хадзіў на танцы і зарабляў райхсмаркі, за мяжой, у вёсцы Стрыгава, ягоны пагодак Рыгор Шугай разам зь іншымі вяскоўцамі быў накіраваны ў Брэсцкую крэпасьць. Там яны чакалі адпраўкі на працу ў Нямеччыну. Старыя пасябравалі па вайне. Ваявалі абодва. Міхал — у арміі, а Рыгор — у партызанах. У кожнага зь іх быў свой шлях да зброі. Рыгор жвавы, невысокі, па-хлапечаму імпэтны ў размове. Узрост выяўляецца толькі ў зморшчынах. У мініцы, рухах, усьмешцы ён так і застаўся тым стрыгаўскім хлопцам, які ўвесну 1942 году вырашыў рызыкнуць жыцьцём і ўцячы з Брэсцкай крэпасьці.



— Калі забіралі ў Нямеччыну, нас спачатку прывезьлі ў Брэст. Нас вазілі па крэпасьці. Мы ў гэтых падзямельлях выгружалі трупы. Там іх поўна было. У Брэсцкай крэпасьці, у падзямельлі. Нашы трупы. Яны ж іх там газам падушылі. І вось мы хадзілі. Там мы прабылі тры месяцы. Аралі, садзілі бульбу. Немец прымушаў. Каб самі сябе пракармілі. І вось я... Бог, напэўна, даў. Я знайшоў кусачкі добрыя. Бо лягер абгароджаны. Дротам у тры мэтры вышынёй. Праз 50 мэтраў вышкі стаяць. На вышках немцы з аўтаматамі. Як зьбегчы? А я чамусьці сьмелы быў. Хлопцы, кажу, як хочаце, а я пайду. І за мной яшчэ тры. Увечары ходзім. Гэта ж цёпла на двары. Ціхая ноч. Салаўі шчоўкаюць, пяюць. Ціхенька падышлі. Прарэзалі адзін дрот, каб пралезьці. Потым другі. За мною адзін прайшоў. А астатнія ці зачапіліся, ці што. Там на месцы яны і засталіся. Я два тыдні йшоў дахаты. З тым хлопцам. Яго ўжо няма. А я да гэтае пары жыву. І мне ўжо 92-гі год.

«Полетит самолет, застрочит пулемет,
Загрохочут могучие танки,
И линкоры пойдут, и пехота пойдет,
И помчатся лихие тачанки».

Так сьпявалася ў даваеннай песьні. Дык вось, ніякіх разьбітых танкаў у крэпасьці наш герой ня ўбачыў. У вочы кідаліся тачанкі.

— Там было разьбіта ўсё. Там, дзе зараз царква стаіць, там было трупаў поўна. Мы іх выносілі і закопвалі. І байцы, і афіцэры. Там тачанкі стаялі з кулямётамі. Бо тады на тачанках нашы... Машын ня надта было. На нязручнае пытаньне пра рабаваньне мірнага насельніцтва былы партызан даў вось такі адказ.

— Сапраўдныя партызаны былі пасьля. А спачатку былі рабаўнікі. У мяне нават таварыш быў. Кравец. І немец прынёс яму шыць кабуру. І даў яму пісталет. І ён гэты пісталет скраў і пайшоў. Пайшоў у партызаны. І вось такі партызан прыйшоў ноччу да мяне і мяне абрабаваў. Што трэба было яму, тое і ўзяў. Вось такія былі партызаны. Пакуль немец быў пад Масквой. А калі нашы яго пагналі, то камандзіраў закідалі ў лясы. Дык вось гэтых камандзіраў зьнішчалі. Каб не было іх. «Партызаны» гэтыя забівалі. Ім жа не падабалася, гэтым рабаўнікам. А пасьля ўжо, пэўна, за фронт данесьлі. І сталі людзей скідваць моцных такіх. І тады гэтых нягоднікаў падчыстую выкасілі...

Вайна і акупацыя ня зьнішчыліКівацічы. Амаль усе выжылі. Але, па ўсім бачна, хутка ад вёскі не застанецца і сьледу. А пра былую мяжу ўжо ніхто ня памятае.

*2013, лістапад*

# Сейце, рабіце, гарэлку ганіце

*Як жылі пад нямецкай акупацыяй*

## Наваградчына

Беларусь пад нямецкай акупацыяй была align рознай, падзеленай уздоўж і ўпоперак на Ўсходнюю Прусію, райхскамісарыят Украіна, генэральную акругу Літва. Увесь усход, з Гомелем, Магілёвам, Віцебскам, быў тылавым раёнам групы арміяў «Цэнтар». І рэжым, усталяваны пад Горадняй, — гэта далёка ня тое самае, што рэжым пад Гомелем.

Але і ў саміх гэтых частках лёсы людзей складваліся па-living рознаму. Скажам, у генэральнай акрузе Беларусь была Хатынь, а была і вёска Наносы. Тыя Наносы, што месьціліся «на носе», на канцы доўгага мысу на возеры Нарач. І дзякуючы такой геаграфіі, наносаўцы ня бачылі падчас акупацыі ні партызан, ні немцаў. Бо і тыя, і тыя баяліся лішні раз заходзіць на гэты «нос». І жылі Наносы, нібы ніякай вайны няма.

А ўжо якіх толькі ваяк не пабачылі беларусы! І немцаў, і французаў, і італьянцаў, і вугорцаў… Для цывільнага чалавека «нашы» ад «нянашых» адрозьніваліся ня колерам мундзіра, а наяўнасьцю чалавечнасьці ў той канкрэтны момант, калі гэтую чалавечнасьць трэба праявіць. У гэткай чужой вайне магчымыя самыя невера-

годныя сюжэты. Нямецкі лекар мог выратаваць ад сьмерці беларускую дзяўчынку, якую асіраціў і абрабаваў сусед зь вясковай вуліцы, які запісаўся ў партызаны. А таго партызанарабаўніка мог расстраляць перад строем камандзір, прысланы з «большой земли», якога падчас раненьня маглі выхадзіць у вёсцы, якую маглі спаліць паліцаі і якую ад паліцаяў пасьля адбілі байцы Беларускай краёвай абароны.

Мой суразмоўца Яўген Усюкевіч — з тых удзельнікаў вайны, каго не запрашаюць на школьныя «ўрокі мужнасьці». Бо для савецкай улады яны былі здраднікамі радзімы, калябарантамі і фашысцкімі паслугачамі. Але пакручасты лёс пакінуў спадара Ўсюкевіча ў жывых. Яму ёсьць што сказаць пра той час. Без такіх успамінаў карціна Другой сусьветнай у Беларусі будзе няпоўная.

Ці маглі навучэнцы Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі не апынуцца ў тым конным швадроне, які стварыў з дазволу акупацыйных уладаў іх настаўнік Барыс Рагуля? Як бы там ні было, але здраднікамі савецкай радзімы тыя хлопцы пэўна не былі. Бо яна не была ім радзімай. І бачылі яе зусім нядоўга. Але напалохаць яна пасьпела ўсіх. А вось ня быць беларусамі ў іх, пэўна, шанцаў не было.

— Пры паляках дастаткова быць праваслаўным, каб табе не давалі ходу. Напрыклад, афіцэр у арміі дойдзе да капітана, а каб стаць маёрам, трэба перайсьці ў каталіцызм. У гэтай справе



яны недалёкія былі. Па-польску гаварыла толькі чынавенства, настаўнікі і паліцыя. А ў вёсцы ніякай пальшчызны не было. Была ўласнасьць. А калі ўласнасьць, дык чалавек быў незалежны. Мой бацька быў солтысам. І таму толькі ў нас на вёсцы было радыё. Не было паняцьця, каб настроіцца на Варшаву, на Вільню ці на Баранавічы. Толькі Менск. Гэта наша, гэта роднае! Вядома, сустракалі саветы і з кветкамі, і зь пірагамі. Але вельмі хутка, і году не прайшло, як раскусілі. Немцаў ужо ня так сустракалі, як саветы. Але таксама з радасьцю, што яны бальшавікоў прагналі. Пры немцах сказалі — сейце, рабіце, гарэлку ганіце. І нават паборы былі меншыя, чым пры саветах. Школы ўсе рабілі ў нашай мясцовасьці толькі на беларускай мове.

Конны швадрон быў створаны ўвосені 1943 году. Ягоны касьцяк складаўся з навучэнцаў настаўніцкай сэмінарыі. Але мяне найбольш цікавіў матыў, з-за якога людзі туды ішлі.

— Паколькі насельніцтва стала цярпець ад усялякіх... Тут і літоўцы былі, і латышы, і казакі. Трэба ж было свой край бараніць. Ясна, што на хаду гістарычных падзей гэта не магло паўплываць. Але лякальна, тут, абараніць сваіх мясцовых жыхароў, каб людзі маглі свабодна

займацца гаспадаркай... Прытым такі быў лёзунг — ні адна партызанская сям'я не павінна ад нашай рукі пацярпець. Ні адна. Калі ты ведаеш, што твой сябра ў партызанах, не было помсты. Хлопцы ўсе былі пісьменныя, сямігодкі і дзесяцігодкі пасканчаўшы. Нават некаторыя былі зь Віленскай беларускай гімназіі. Амаль усе добраахвотнікі. Пагаварыў, і ўсё. А каму павесткі ўручалі. Па пошце. Як гэта назваць? «Дабравольна-прымусова»? Чорт яго ведае. У швадроне было больш за дзьвесьце чалавек. І разьмяшчаліся ў Наваградку на Першамайскай вуліцы. Гэты будынак і цяпер стаіць. Мы дэманстратыўна выяжджалі на тэрыторыю партызанскую. Прадэманстраваць, што мы ёсьць, што мы прысутнічаем. Вёску Загор'е Далятыцкае хацелі спаліць. Немцы з паліцыяй. Спаліць вёску мы не далі.

У вёсцы Далятычы, што за Любчай, адкуль у швадрон пайшло шэсьць чалавек, 80-гадовы Міхаіл Паўлюць добра памятае ўсіх байцоў таго швадрону.

— Рагулю я ведаю добра. Беларускую армію тут зарганізаваў. Эскадрон. Добрыя былі хлопцы. Маці мая панясе пасылку для дачкі, якая ў Германіі была. Яны возьмуць тую пасылку, самі здадуць і яшчэ заплацяць самі сваімі грашыма. Свае людзі. Сястра была забраная ў Германію. Маці пасылала два сухары, сала пакладзе паміж тых сухароў. І дапамагалі адпраўляць тыя пасылкі. Клімовіч Іван.



Яго пасьля пасадзілі, не прыйшоў ён дахаты. А Трубка вярнуўся. Людзі іх не кляймілі. Ніхто. Яны былі абаронцы сваіх. Вось паліцыя то была шкодная.

Жыхарка Любчы Алена Новік вучылася падчас акупацыі ў Наваградзкай сэмінарыі.

— І неяк я іду па базары, спыняе мяне адзін чалавек і кажа: «Вось, пра Рагулю кажуць, што ён вораг. А я яго лічу сапраўдным беларусам». Я кажу: «А чаму?» І расказаў. Калі немцы адступалі зь Любчы, людзі схаваліся ў царкву. Але ж усе не схаваюцца. Хто за Нёман, хто куды. І нас, кажа, каля царквы ўжо разьдзялялі казакі. Жонак і дзяцей асобна, мужчын асобна. І Рагуля ехаў зь цёткаю. А партызаны мястэчка ўжо падпалілі. Тут, калі немцы адступалі, партызанам ня трэба было нічога паліць. Бо беглі немцы імкліва. Ніякіх баёў не было. Але ж трэба было ім паказаць, што і яны ваююць. Вёску Купіск спалілі. І звалілі на немцаў. Але ж да гэтае пары сьведкі ёсьць, што спаліў Гарэлік, партызан. Яны адным днём жылі. А Рагуля ехаў на машыне зь цёткай. Як пад'ехаў пад царкву, бачыць, што нейкі рух. А там, як адступалі, усё на валаску трымалася. Ніхто ня ведаў, куды і што. Спыніў машыну, пайшоў у царкву. Прыйшоў, паглядзеў, нічога не сказаў.

Атамана вывеў, пагаварыў. Атаман прыходзіць. «Ідзіце па дамах, тушыце пажар».

Карціна вызваленьня Любчы ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, са словаў іншай любчанкі, Валянціны Буйвал, паўстае сапраўды апакаліптычная.

— Казакі зь сем'ямі былі. Сына аднаго казака партызаны, прабачце, у туалеце забілі. Можа, гадоў 12 ці 13 яму было. Калі ўваходзіце ў царкву, па левым баку, каля каменнага муру казакі былі пахаваныя. Крыжы стаялі. Адразу, як прыйшла савецкая ўлада, крыжы падаставалі. А казакоў тых не выкопвалі… Спачатку казакі выбілі партызан, партызанаў многа загінула. А пасьля партызаны вярнуліся, і многа казакоў павесілі. Віселі казакі на слупах. А пасьля прыйшла Чырвоная армія. І нейкі камандзір нарабіў скандалу. «Чаго яны вісяць? Ажно пачарнелі!» Хапіла тут… Акрамя гэтай вуліцы, усё было спалена.

Усіх байцоў рагулёўскага швадрону па вайне чакаў ГУЛАГ. Міхал Паўлюць, жыхар Далятычаў, успамінае іх са спачуваньнем.

— Бушма пасьля ваяваў на фронце. Але данесьлі на яго нейкія далятыцкія людзі. Нагаварылі, што быццам ён выяжджаў на засаду на партызан. Ён нікуды не выяжджаў. Бушма той кухарам быў у швадроне. Дзевяць гадоў яму далі. А Трубка адразу папаўся. У Вільні. Жонку паранілі, і ён здаўся. Дзевятнаццаць гадоў далі.



Не ратаваў былых швадронаўцаў ад лягеру і ўдзел у вайне на савецкім баку. Гаворыць Валянціна Буйвал.

— Майго стрыечнага брата забралі ў гэтыя «рагулі». А пасьля ён трапіў на фронт. Спачатку на германскі фронт, а пасьля яшчэ і на японскі. А тады яго за хіб — і пасадзілі. І далі дваццаць пяць гадоў... Адваяваў. Быў на двух франтах.

А рэшткі 30-й дывізіі СС, куды трапілі ўсе падразьдзяленьні колішняй Беларускай краёвай абароны, 30 красавіка 1945-га здаліся амэрыканцам. Беларусаў амэрыканцы перадалі савецкім уладам. У тым ліку і нашага героя — Яўгена Ўсюкевіча.

— 23 жніўня мяне затрымалі. А 25-га судзілі. Афіцэры-сьмершаўцы казалі: «Ды, таварышы, не беспакойцеся. Усё будзет харашо». Во, думаю, ты мне заліваеш. Я рыхтаваўся да сьмерці. Памятаю, са мной быў яшчэ Янка Орсіч. Казаў: «Жэня, калі будуць расстрэльваць — "Жыве Беларусь!" і ўсё. Хай страляюць». Мы іншага

не чакалі. Перад гэтым мяне дагала разьдзелі. У мяне быў аўсвайс настаўніка на нямецкай і беларускай мовах. Іконка, што мне дала матка. Усё гэта парвалі і ў агонь кінулі. Тут нас, думаю, і пакончаць. Далі арыштанцкае адзеньне. І назаўтра суд. І паехаў я пасьля суду на восем гадоў у горад Рыбінск.

Рыбінск — гэта прыгожае купецкае места на Волзе, дзе зэкі працавалі на ўмацаваньні дамбаў на вадасховішчы. Гэта ня Комі і не Калыма. Але пашчасьціла нашаму герою яшчэ ў адным. У Яўгена была ў руках спэцыяльнасьць.

— Я сталярную справу добра ведаў. Гэта мяне толькі і выратавала. Сталярную справу на марозе ня робіш. Толькі ў памяшканьні. А ў 1952 годзе нам падкінулі сорак савецкіх генэралаў. На наш участак. Ёсіф Вісарыёнавіч Сталін апрэдзяліў усю жукаўскую каманду. Генэрал-палкоўнік Цялегін, генэрал-палкоўнік Таржанскі, генэрал-палкоўнік Самохін, генэрал-палкоўнік юрыдычнай службы Чаплінскі, генэрал-лейтэнант танкавых войск Арлоў. Іх сорак было. І я — як брыгадзір. А яны што? Толькі чорную работу маглі рабіць, як падзёншчыкі.

Як вам такая карцінка? Сорак савецкіх баявых генэралаў пад кіраўніцтвам былога гаўптшарфюрэра. Зрэшты, трэба адзначыць, савецкія органы ня ведалі пра афіцэрскае званьне Ўсюкевіча, якое яму даў за два тыдні да здачы ў амэрыканскі палон шэф Беларускай краёвай абароны Францішак Кушаль.

— Я не паказаў на сьледзтве, што маю чын. А то маглі б судзіць, як Паўлюса! Ім патрэбная была рабочая сіла, моладзь. Мяне ніхто пальцам не крануў. Нават апошнім часам я ўжо не на нарах ляжаў, а на спружынным ложку, з матрацам. І таблічка: «Ударник коммунистического труда». Я і вызваліўся ўдарнікам камуністычнай працы.

Пасьля ўсяго перажытага Яўген Усюкевіч захаваў адкрыты ўсьмешлівы позірк.

— Вось жа ваяка! Ні ў каго ня стрэліў. Ні ў немца, ні ў партызана, ні ў амэрыканца. Вайну прайшоў і тэрмін атрымаў.

*2015, травень*

# Міні-грамадзянская вайна

*Як не прыжыўся міт пра «беларускага Матросава»*

Купіск, Наваградзкі раён

Купіск — вёска на самым беразе Нёмна. Даўжэзная вуліца цягнецца ўздоўж ракі кіляметры чатыры. Калісьці шматлюдная вёска ажывае цяпер толькі ўлетку, калі з гораду прыяжджаюць былыя вяскоўцы і дачнікі.

На беразе Нёмна сівы інтэлігентны спадар ловіць рыбу. Клічуць яго Віктар Карабач. Ён даўно жыве ў сталіцы. У родныя мясьціны перабіраецца толькі на лета. На выгляд яму гадоў пад 70. Але насамрэч ён ужо разьмяняў дзявяты дзясятак. І памятае яшчэ тыя часіны, калі Нёман у Купіску быў суднаходны.

— Раней па Нёмне сплаўлялі лес. І тут працавалі плытагоны. Тут, у Купіску, былі дзьве брыгады плытагонаў. Людзі хадзілі з баграмі. Вязалі бярвеньне ў плыты. Гэта цэлая прафэсія і тэхналёгія была. І мы падпрацоўвалі пацанамі. І бераг быў іншы. Вунь дзе бераг быў. Да лесу.



На беразе спусьцелыя будынкі колішняга Дому культуры і школы ўжо набылі «шарм» закінутых сядзіб. Насупраць школы — невысокі помнік у гонар камсамольца-партызана Міхаіла Белуша, які «паўтарыў подзьвіг Аляксандра Матросава ў баі зь нямецка-фашысцкімі акупантамі ў вёсцы Купіск».

Мастак Віктар Залацілін нарадзіўся пасьля вайны. Але гісторыю Купіску ведае як ніхто. І ніякіх, зь ягоных словаў, нямецкіх акупантаў тут не было. Вайна ішла выключна паміж сваімі.



— Вёска наша — трыста пяцьдзясят двароў. На чатыры кілямэтры цягнецца. У гэтай вёсцы два чалавекі было ў партызанах, 12 паліцаяў,

астатнія — у самаахове. Гэта значыць, абараняліся ад партызан. Такая міні-грамадзянская вайна. І перад прыходам немцаў партызаны вырашылі адпомсьціць. Зуб за зуб. Міхаіл Белуш, паводле савецкай міталёгіі, закрыў сабой амбразуру нямецкага дота. Гэты нямецкі дот застаўся ад Першай сусьветнай вайны. Тут тры гады, ад восені 1915-га, стаяў фронт. І ўвесь час палякі ўсе гэтыя абарончыя збудаваньні захоўвалі. Адчувалі, што з саветамі будзе вайна і гэта ўсё спатрэбіцца.

Вясковая крама ў Купіску падобная да тыповай сяльпоўскай пабудовы. Але будынку гэтаму больш за сотню гадоў. Тут, у колішніх складах, падчас нямецкай акупацыі была камэндатура. І менавіта перад ёй быў акоп і даўнейшы нямецкі дот, каля якога адбыўся драматычны бой. Вось толькі паміж кім і кім?

Віктар Карабач кажа, што тут быў гарнізон самааховы. Але Беларускі корпус самааховы быў распушчаны яшчэ вясной 1943-га. Значыць, у Купіску быў гарнізон паліцыі.

— Партызанскі атрад «Октябрь», камандзір Гарэлік, Першамайскай брыгады, базаваўся ў Ліпічанскай пушчы. І калі рыхтавалася апэрацыя «Багратыён», усіх партызан падцягнулі сюды. А тут гарнізон. Ну які тут гарнізон? Самаахова. Іх задача была — ахоўваць народ ад партызан. Калі пачыналася партызаншчына, тут была крама. Яшчэ з даваенных часоў. Партызаны прыехалі і спалілі яе. Нямецкія ўлады

адрамантавалі будынак і зрабілі ў ім камэндатуру. І ноччу на 16 ліпеня партызаны спачатку спрабавалі дамовіцца зь імі. Прысылалі дзядзьку роднага гэтага камэнданта. «Скажы, хай здаюцца». Яны адмовіліся здавацца. І тады пачаўся штурм. Самаму старэйшаму з гэтай самаахovы быў 21 год. Яны ня ўмелі ваяваць і не ваявалі нідзе. Ім далі зброю, і ўсё. Але камэндатура была абнесеная шасьцю радамі дроту. Партызаны зайшлі з адваротнага боку і ўзарвалі сьцяну. І далі па амбразурах. Я нават некаторых паліцаяў памятаю добра. Закідалі ўсіх гранатамі. Камэндант застрэліўся. Частку забілі, а частку забралі. Калючым дротам рукі пазакручвалі. Калолі іх і штыкамі, і нажамі. Некаторыя зь іх, калі дайшлі да павароту ракі, самі пакідаліся ў Нёман. А астатніх завялі ў лес і павесілі.

У тым баі забівалі адзін аднаго людзі аднае зямлі, зусім маладыя беларусы, учорашнія дзеці. Некаторых зь іх Віктар успамінае зь цеплынёй.

— Быў такі Жора, малады хлопец. Ён дзяцей любіў. Зьбярэ нас групу. Ідзем рыбу глушыць. Ідзем па беразе. Ён страляе, а мы ўжо падбіраем. Яго завялі туды ў лес. Жора Сацэвіч.

Мне было незразумела, чаму тыя беларусы ў нямецкай форме не здаліся беларусам бяз формы?

— Не было патрэбнай агітацыі з боку партызан. Тыя там, гэтыя тут. Да вайны разам хадзілі

на танцы. А якія былі прэтэнзіі? «Сволачы. Вы седзіцё, жыруеце. А мы вошай кормім». А гэтыя на тых: «Вы бандыты. Забіраеце ў людзей апошнюю карову». Яны ня ведалі ні Сталіна, ні Гітлера. Нянавісьць зьявілася паміж людзьмі. І ведалі, што калі трапіць альбо той сюды, альбо гэты туды — літасьці ня будзе.

Аказваецца, каля доту загінуў не адзін Міхаіл Белуш. Быў яшчэ адзін палеглы. Але героем было вырашана зрабіць толькі аднаго. Другі застаўся ляжаць у безыменнай магіле на купіскіх могілках. І вось што, са словаў Віктара Карабача, адбылося каля таго доту.

— Калі перастрэлка скончылася, два партызаны заскочылі ў акоп, які быў выкапаны праз дарогу. А ў тым акопе сядзеў паліцай. І ён іх з аўтамата паклаў... Пахавалі байцоў у розных месцах. Белуша — у асобнай магіле, як «Матросава». А яго таварыша — на могілках. Бо ўся ягоная радня зьехала ў Польшчу.

У Купіску няма ніводнай даваеннай хаты. Уся вёска была спаленая партызанамі яшчэ да прыходу рэгулярных частак Чырвонай арміі. Палілі некалькі дзён. Хату за хатай. Той пажар добра памятае старая Аляксандра Моніч.

— Хто яго ведае, якія тут партызаны палілі. Першых партызан я помню. Прыходзілі. У нас было мукі крыху. Бралі сабе і дзецям пакідалі на зацірку. Ваенныя былі партызаны. А як пачалі пасьля далучацца налібацкія п’яніцы. Як і цяпер бамжоў такіх хапае. Рабіць ня хочуць.



Усё толькі забіралі. Тут жыў татаў брат, глухі зусім. Дзядзька Зьміцер. Давай зь яго боты зьдзіраць ды біць. Прыкладамі біць гэтага Зьмітра. Я крычу. І мне дасталося. А пасьля салому бяруць, і папальвалі хаты. А ў тую ахову ніхто не хацеў ісьці. Сілаю бралі. А хто ж вінаваты? Як ня пойдзеш — дэзэрцір. Як і цяпер.

Два надмагільныя помнікі засталіся ад той бойні. Адзін гранітны з пазалочанымі літарамі — насупраць закінутай школы. Другі — безыменны — на старых могілках каля царквы. У будынку дарэвалюцыйнага складу, дзе да вайны была крама, а ў акупацыю камэндатура, цяпер ізноў крама. Маладая прадавачка распавяла мне, што сапраўдны герой ляжыць якраз на могілках. Імя яго — Мікалай Кадура. Гэта ён закрыў грудзьмі амбразуру. А Белуша прызначылі героем таму, што быў камсамольцам. Выглядае, што спроба савецкіх ідэолягаў стварыць міт не ўдалася. Народ адказаў сваім мітам. Пра незаслужана забытага героя. І гэтая народная вэрсія стала канчатковай.

*2015, ліпень*

# Пры немцах адчулі сябе беларусамі

*Як адбывалася адукацыя пад акупацыяй*

Кудавічы, Навагрудзкі раён

У вёсачцы Кудавічы непадалёк ад возера Сьвіцязь жывуць дзьве старыя жанчыны. Надзея Зьмітраўна Раманчык і Людміла Феафанаўна Лопух. Жывуць звычайным пэнсіянэрскім жыцьцём. Чакаюць гарадзкіх унукаў. Даглядаюць свае гароды. Толькі зьвяртацца да іх хочацца пані ці лэдзі ці фраў. Падцягнутыя, у акуратных сукенках. Іх лёгка можна ўявіць хоць на высокім прыёме, хоць на парыскім ходніку. Іх жытло ўпрыгожвае нацыянальная сымболіка. Надзея і Людміла — самыя ўдзячныя кліенткі мясцовага бібліёбуса. Яшчэ ў іх бездакорная беларуская мова. Надзеі Раманчык 85 гадоў. А Людміле Лопух — 90. Гэтая розьніца сёньня амаль не заўважаецца. Адчувальнай яна была ў 1943-м, калі Людміле было 18, а яе сяброўцы — толькі 13. А гэта ўжо розьніца лёсавызначальная. Людміла, навучэнка Навагрдзкай настаўніцкай сэмінарыі, брала ўдзел у працы Саюзу Беларускай Моладзі ў той час, як Надзея вучылася ў школе. Людміла Лопух паступіла ў сэмінарыю восеньню 1942-га.

— 14 кастрычніка спалілі нашу вёску. Праўда, нікога не забілі. Мы зь сяброўкаю ў той



год паехалі вучыцца. І празь некаторы час арганізаваўся СБМ. Клясны сказаў, што арганізуецца Саюз Беларускай Моладзі. Усе, хто вучыцца, павінны ўступіць у гэты саюз. Ясна, што нам адкрылі вочы і на бел-чырвона-белы сьцяг, і на гісторыю Беларусі.

У недалёкім Альбярціне была, кажучы сёньняшняй моваю, школа маладых лідэраў.

— У 1943 годзе некалькі хлопцаў і дзяўчат паслалі ў Альбярцін на курсы дружыновых. Маршавалі там, песьні сьпявалі. Памятаю, нашай наваградзкай групе давалі нейкую гістарычную тэму, і нехта павінен быў выступіць на гэтую тэму. Нацысцкай ідэалёгіі не было. Немцы да нас дачыненьня ня мелі. Настаўнікі былі тыя, што і ў гімназіі выкладалі.

Надзея Раманчык, школьніца ваенных гадоў, памятае, як спрабавалі нямецкія ўлады прышчапіць беларускім дзецям вірус расавай выключнасьці.

— Я пры немцах скончыла пяты, шосты і сёмы клас. Нават у пасьведчаньні адны адзінкі. Гэта значыць — выдатніца была. Бо лепшая адзнака была «1». Падручнікі былі ўсе нашыя. Гісторыя старажытнага сьвету з багамі голымі, мы ўсё, памятаю, сьмяяліся. Грамадазнаўства.



Там прывазносілі сваю расу. Трэба было ведаць, як малітву: «Мы арыйцы. У нашых блакітных жылах цячэ чыстая алая кроў». Думаеце, мы ўспрымалі тое іх вучэньне нямецкае? Сьмяяліся. Але адказвалі. Бо трэба было адзнакі мець. І вельмі было шмат урокаў нямецкай мовы. Кракаў быў такі настаўнік зь Вільні. Пасьля быў перакладчыкам у немцаў. Сядзеў. Прыйшоў зь лягеру вельмі хворы. Казаў, што Надзея Раманчык можа па-бытавому зь любым немцам паразумецца. Я любіла мовы. Мне даваліся лёгка. Потым немцы сябе паказалі. Але спачатку гаварылі, што «вы — гэта ня рускія». Казак такі настаўнік быў. Вельмі бальшавікоў не любіў. Ён і пры Польшчы нас вучыў, і пры саветах вучыў, той Казак. Нешта пра партызан… «Ідзе, брыдзе злачынец». Далі мне вывучыць верш гэты. А Казак сказаў: «Ня трэба». Яшчэ данясуць партызанам. Сям'я пацерпіць. «Ня трэба табе тога верша вучыць». А я ўжо думала з такім імпэтам прачытаць прыгожа. «Ідзе, брыдзе зладзюга». Нешта такое было.

Вясёлыя студэнцкія гады. Пяяньне беларускіх песень. Знаёмства зь беларускай паэзіяй. Як гэта ўсё не сумяшчаецца са спаленымі вёскамі і забітымі суседзямі.

— Нашых яўрэяў пастралялі глухой восеньню 1942-га. Ад нашага будынка школы праз вуліцу было гета. Мы амаль усіх ведалі. Са мной вучыўся Лейба Гершовіч, Іцка Шыльман. Мы ідзем у школу, а яны за дротам. І восеньню сказалі, што будуць «жыдоў страляць». І мы бачылі, як іх сагналі на плошчу, пастроілі. І пагналі пад Нёман. А там ужо была падрыхтаваная яма. Там іх пастралялі. Прыйшлі на заняткі. Селі і пачалі плакаць. Настаўнік Зінові Майсеевіч Бразоўскі нам нічога не сказаў.

У маіх руках стары фатаздымак. Група вясёлых маладых людзей пад старым дрэвам. Некаторыя дзяўчаты ў купальніках. Некаторыя юнакі аголеныя па пояс. Некаторыя ў паўвай-



сковай уніформе. Бачна, што маладым людзям на здымку радасна жыць. Гэты фотапартрэт можна прыняць за здымак даваенных скаўцкіх часоў. А можна падумаць, што гэта нейкі студэнцкі будатрад у бесклапотных 1960-х. Але гэта вясна 1943-га. Альбярцін. Школа дружыновых Саюзу Беларускай Моладзі. Высокая вясёлая прыгажуня ў вайсковай пілётцы, якая прыхінулася да дрэва, цяпер сядзіць перада мною. Гэта Людміла Феафанаўна Лопух.

— Гэта наша наваградзкая група. Але ня ўсе. Дзяўчат было болей. У нас быў нейкі настрой прыўзьняты ў сэмінарыі. Мы вывучалі творы Багушэвіча, Багдановіча. Літаратуру выкладалі Натальля Орса, Анішчык. Ён праводзіў конкурсы красамоўства. Мы ні пра што ня думалі. Нам расказвалі пра Беларусь, і нейкае было жыцьцё бурнае. Хоць і вёска была спаленая. Хоць мы і жылі вельмі цяжка.

Вось што пісаў пра СБМ у сваёй кнізе «Саўдзельнікі ў злачынствах», выдадзенай у 1964 годзе, публіцыст Васіль Раманоўскі:

*«Члены СБМ абавязаны былі ня толькі выяўляць савецкіх патрыётаў, падпольшчыкаў і паведамляць аб гэтым гітлераўскім карным органам, але і даносіць аб паводзінах і размовах сваіх таварышаў і радні».*

Насамрэч сябра СБМ Людміла Лопух, чый родны брат быў расстраляны немцамі за супрацоўніцтва з партызанамі, а стрыечны брат, будучы пісьменьнік Уладзімер Калесьнік, пар-

тызаніў, ня толькі не зьбіралася ні на кога даносіць, але і вучыцца ў настаўніцкай сэмінарыі працягнула таму, што параіў савецкі партызан.

— У 1944 годзе зімою пайшла пагалоска, што партызаны расклеілі ўлёткі, каб ня ехалі вучыцца ў сэмінарыю. Мы зь сястрою не паехалі пасьля зімовых канікул. Можа, зь месяц мы праседзелі дома. Нас ужо выкрасьлілі зь дзёньнікаў. Прыходзіць нейкі партызан Арцюх. Знаёмыя партызаны часам заходзілі да нас. Нас ведалі партызаны. І прыходзіць гэты партызан і кажа: «А чаго вы ня вучыцеся?» Мы кажам пра гэтыя ўлёткі. «Вы што! Хутка савецкая ўлада прыйдзе. Франты рухаюцца! Нам жа настаўнікі патрэбныя будуць! Хто ў школах будзе працаваць? Едзьце!» І нас бацька зь сястрою павёз назад у Наваградак. А каб я не паехала, можа, мяне б не арыштавалі. Уладкавалася ў вясковую школу, трэці клас мне далі. Прыехалі арыштоўваць, а я зь дзецьмі. Пасьміхаюся. Можа, якая праверка. «Вы былі ў СБМ?» — «Была». Што ж буду цямніць? Усе былі. Усе, хто вучыўся.

Напэўна, каб зразумець гэты час, трэба толькі перажыць яго самому. Час, у якім перапляліся такія несумяшчальныя рэчы, як сьмерць блізкіх, навучаньне ў сэмінарыі, спаленая вёска, адкрыцьцё беларускай гісторыі і культуры, сяброўства з партызанамі і паездка ў Аўстрыю. За свой удзел у СБМ людзі пасьля вайны плацілі гадамі турмаў і лягераў. Людміла адседзела два гады. У Беларусі.

— Часы СБМ успамінаю, як нешта сьветлае. Што адкрыла вочы на ўсё тое, чаго мы ня ведалі. Усе настаўнікі хацелі нам тую беларускасьць паказаць, прывіць. «Штандар наш бел-чырвона-белы, пакрый сабой народны рух». «Беларусь, Беларусь дарагая. За цябе, за цябе мы ідзём». «Сьпявалі “Беларусь дарагая?”» — пыталі ў нас сьледчыя. — «Сьпявалі». Вялікіх зьдзекаў не было. Казалі, што пары дзяўчат заехаў па твары сьледчы. Мяне нейкі Крукін і Шарапаў арыштавалі. Адразу завезьлі ў МГБ. І гэты Крукін дапытваў. «Была ў СБМ?» — «Была ў СБМ». — «Дружыновай?» — «Дружыновай». — «На курсы езьдзіла?» — «Езьдзіла». Я ж яшчэ на экскурсію ў Аўстрыю зьезьдзіла. Мяне паслалі. Нас дзьвёх ад наваградзкага СБМу. Нас завезьлі ў Менск, і там сабралася група з усёй Беларусі. Цягніком езьдзілі ў Грац, у Лінц. Праяжджалі празь Вену. Тры ці чатыры тыдні мы былі на гэтай экскурсіі. Напрыканцы чэрвеня 1944-га вярнуліся.

Надзея Раманчык успамінае сваіх настаўнікаў, што выкарысталі акупацыйны час для таго, каб працавала беларуская школа.

— Мову мы ведалі дзякуючы віленскім гімназістам. У нас была Ганна Парфенаўна Хацяновіч, яна скончыла на «выдатна» Віленскую гімназію. І нас вучыла. Мы цалкам «Новую зямлю» чыталі, вязалі, шылі. А якія пастаноўкі былі! Неслухоўскі, Багушэвіч, Багдановіч. Аляхновіч, а як жа! Якія ў яго п’есы сьмешныя былі! І ўсё

беларускае. Я нікога не пабаюся, скажу праўду. Мы ня ведалі, што мы беларусы. Мы пры немцах адчулі сябе беларусамі. Дзякуючы гэтым віленскім настаўнікам.

Слухаю гэтых мілых жанчын і ніяк не магу зразумець, як гэта ўсё сумясьціць: знаёмства зь беларускай гісторыяй і зьнішчанае гета; дэклямацыю вершаў і спаленыя вёскі; пастаноўкі спэктакляў і расстрэлы? Сумясьціць несумяшчальнае… Можа быць, першае давала магчымасьць не звар'яцець ад другога. Вечнае і новае дазваляла паспрабаваць ня бачыць сьвет толькі страшным і нялюдзкім. Бо як інакш жыць?

*2015, ліпень*

# «Лінія Сталіна»

*Як лінія абароны нікога не абараніла*

Шчарбіны, Гарошкі, Менскі раён

Дык ці быў тут бой? З гэтым пытаньнем я паехаў па вёсках, якія знаходзяцца побач зь «Лініяй Сталіна», цяперашнім гісторыка-культурным комплексам, створаным, нібыта, на месцы гістарычнай лініі абароны. Паехаў з надзеяй, што ў Гарошках і Шчарбінах яшчэ ёсьць жывыя сьведкі тых далёкіх падзеяў.

Ганна, гарадзкога выгляду кабета, жыве ў Менску. На радзіму, у Гарошкі, прыяжджае на выходныя. Вайну памятае.

— Стралялі. Аднаго немца забілі. Масток быў. Забілі аднаго. Але яны самі пахавалі ды пайшлі. Немцы як ішлі, так і пайшлі. Баёў моцных тут не было.

Разгаварыўшы спадарыню Ганну, я вывудзіў у яе гісторыю пра тое, як сяляне хавалі зьбітага нямецкага лётчыка.

— Калі пачыналася вайна, зьбілі самалёт тут нямецкі. І там лётчык адзін быў. І тут яго схавалі, у склепе, гэтага немца. Тут прыяжджаюць на матацыкле. «Дзе лётчык?» — «Пайшоў туды». Яны за ім. Яны яго не знайшлі. А пасьля прыяжджаюць немцы. Гэтага немца аддалі, і за гэта нас сталі паважаць. Нашы кабеты вырата-

валі яго ад савецкіх войскаў. Глебчыха ўмела па-нямецку гаварыць. Ляшок таксама мог па-нямецку. Яны яго схавалі ў пограбе. Што імі рухала? Чалавек жа. І немец чалавек. Глебка яе прозвішча. Гэта самы першы дзень вайны. Самалёт той не бамбаваў. Можа, фатаграфаваў, ці што. Мы ўсю вайну разьбіралі яго на часткі.

Дзякуючы ўчынку гэтай Глебчыхі вёска Гарошкі была ў акупантаў на асаблівым рахунку. Ні немцы, ні паліцаі яе лішні раз не турбавалі. Сюды наведваліся іншыя госьці.

— Амаль што ўвесь час немцы някепска ставіліся, калі шчыра казаць. Партызаны горш. Ім есьці трэба. За адну ноч яны ўганялі васямнаццаць кароў. Насупраць нас, у Ігналіхі, забралі карову, дык яна ўпала на лёдзе. Старая, можа, хітрая карова. І яны прыйшлі, узламалі дзьверы і нашу забралі. У нас чацьвёра дзяцей. Ім трэба васямнаццаць кароў. А што, сямнаццаці мала? Ім трэба было жэрці, гуляць і піць.

Сяргей Альхімовіч жыве ў самым пачатку вёскі Шчарбіны. У 1941-м яму было сем гадоў.

— Выходзім на дарогу, стаяць танкі. Я да мамы — што гэта такое? Яна кажа: «Сынок, немцы». Дзядзька мне кажа: «Сяргей, бяжы ў Путнікі. Там дот стаіць. Скажы салдатам, што немцы ў Шчарбінах. Я пабег. Дот, дротам абцягнуты. Сядзіць часавы каля дота. Сьпіць. Я яго штурхануў. «Што такое?» — «Чаго ты сьпіш? Немцы ў Шчарбінах». Ён у гэты дот забег. Чалавек шэсьць іх там было. Выходзяць з дота і,



як цыляты, адзін за другім папёрлі ўніз. А мне ж сем гадоў, ужо цяміў. Дай, думаю, зайду у дот, патронаў набяру. Заходжу ў дот — ні храна. Ні адзінага патрона. Ляжаць пальчаткі, ляжыць бінокль. Я ў кішэню і пайшоў. Дадому прыходжу. Дай, думаю, у Лашаны забягу. Пайшоў — і там ніводнага салдата. Я не разумею, як гэта было і як яны пабудавалі «Лінію Сталіна»? Што яна ахоўвала?

Вось табе і поле Кулікова... Калі б не маленькі Сярожа, дык зусім праспалі б немцаў. Іншая жыхарка Шчарбінаў, Таццяна Сідараўна, у пачатку вайны была дарослай дзяўчынай, якая ў Шчарбіны выйшла замуж. Дзевяностагадовая згорбленая старая сядзела на ганку і грэлася на сонейку.

— Не, дзіцятка. Там нічога не было. Кусты, лес і ўсё. Я, сынок, помню. Нічога там не было. Нічога. А немцы спалілі нас. У сорак трэцім. Праз партызанаў, сынок. Партызаны ў іншай вёсцы сабраліся ў адну хату. Выпівалі. А адна жанчына ішла. Яна зайшла і кажа: «Што вы, бадзягі,



п’яцё? А немцы Шчарбінаў грабяць». Яны, сынок, не рабавалі. Яны прывезьлі соль. На санях некалькі немцаў. Соль вазілі. Хто дасьць мяса, хто малака. Да мяне прыйшлі, я кудзелю прала. А тут партызаны заехалі. Іх многа было, дванаццаць падвод. І падняўся бой. Пяць партызанаў забілі і пяць немцаў. Хто куды ўцякалі. Ой, страшна было. Палавіну вёскі спалілі. Але партызаны болей бралі, чым немцы. Немцы толькі соль вазілі памяняць. А гэтыя, як прыйдуць, дык — «Што блядзюга старая, ня хочаш нічога даць?» Вось так было. Пазаймелі дзевак, каторыя халасьцякі. Паабкрадуць сукенкі, спадніцы. Сяброўкам дадуць. А тая ня ведае, адкуль гэта бралася. Пойдзе на танцы, а там гаспадыня пазнае сваю адзежу. «Ах, ты такая!» Зьдзіралі зь дзевак гэтыя сукенкі ды праз вокны ўцякалі. Во, якія былі партызаны. А немцы са станцыі ехалі. Калі б вы хацелі, заселі ў засаду і там бы пабілі ў лесе. А то ў вёсцы, у хатах.

Ад васьмідзесяцігадовага жыхара Шчарбінаў Віктара Калантая я, шчыра кажучы, хацеў пачуць хоць нешта ў абарону той лініі. Але пачуў тое, што пачуў.

— Я табе клянуся. Богам! Нічога не было. Ніякіх супраціўленьняў. Ну, навошта людзям муру вешаць на вушы? Зрабілі для моладзі. Хлусьня поўная. Гэтая лінія ні разу ня стрэліла. Гэта ўсё тухта, братка. Вялікая тухта. Ніхто не хацеў абараняць савецкую ўладу. Ніхто! Сволачы гэтыя ўшлі ўсе. А на трэція суткі мы



пачулі, што — за Мінскам і бог ведае дзе. Нічога тут, сынок. Богам клянуся. Ніхто тут не абараняў.

А проста за два крокі ад Шчарбінаў стаяць калёны машын. Едуць сем'і зь дзецьмі падзівіцца на акопы і танкі. Едуць экскурсіі юных піянэраў. Едуць салдаты тэрміновай службы, прыняць прысягу. Шкада, што ім не пачуць апошняга пытаньня спадара Калантая, адказу на якое яму не дадуць ні гісторыкі, ні пагатоў стваральнікі міту пра «Лінію Сталіна».

— Чаму так было? Дзе была гэтая дзяржава? Чаму так атрымалася, што ніхто нас не абараніў? І ніхто ня стрэліў?

*2007, травень*

# Тут панавала «наглая сьмерць»

*Як беларусаў забівалі за тое, што «рускія»*

Сынкаўцы, Беласточчына

Неяк у адной падляскай вёсцы я гаварыў зь немаладой кабетай на тэму паваеннага тэрору з боку польскай Арміі Краёвай супраць беларускіх сялян. Бабуля ахвотна ўспамінала ўсе свае крыўды. Мы стаялі на вуліцы, каля брамкі. Але варта было данесьціся найменшаму шуму з хаты, як мая суразмоўніца тут жа змоўкла. У чым справа? — ня ўцяміў я. «У мяне зяць з Варшавы прыехаў. Адпачывае ў хаце. Можа, прачнуўся ўжо». А ён тут пры чым? — я па-ранейшаму не разумеў яе. «Дык ён жа паляк!» — прашаптала кабета і паглядзела на мяне вачыма, у якіх перамяшалася раздражненьне на маю някемлівасьць і страх.

Відаць, ня страх зяця. А страх пакрыўдзіць паляка. Страх, які ў Беларусі застаўся толькі ў кніжках…

На ўезьдзе ў гэтую вёсачку стаяць два крыжы. Адзін высокі, драўляны, з укосінай пасярэдзіне, якая ў нашых краях стала прыкметай праваслаўя. Другі крыж — невысокі, з каменнай крошкі. Але вось надпіс на ім заінтрыгуе і азадачыць. Асабліва чалавека, які ня ведае польскай мовы. Цытую, як напісана: *«Од наглай и*

*неспадеванай сьмерти сохрани нас господи».* З надпісу можна разумець, што ў вёсцы жывуць людзі, для якіх кірылічнае пісьмо не чужое. Слова «неспадеванай» беспамылкова сьведчыць, што тут жывуць беларусы. А вось што азначае «наглая сьмерць»? Па-польску «nagle», значыць, нечакана, раптоўна. Але ў кірылічным напісаньні такая сьмерць набывае іншую афарбоўку.




Паэт Андрэй Хадановіч жартаваў, што на Падляшшы жывуць такія самыя беларусы, як і ў нас. Праўда, гавораць па-польску, а ва ўсім астатнім яны такія самыя. У гэтым жарце ёсьць доля жарту. «Па-гарадзкому» гавораць, як і ў нас, у мястэчках і гарадах. А вось сярод

старых вяскоўцаў прыродная мова нікуды не адступіла. І, зьвярнуўшыся да чалавека па-беларуску, чакайце адчыненых дзьвярэй і гасьцінна прапанаванай кавы. Як у хаце спадарыні Жэні, бадзёрай 80-гадовай жанчыны. Дзеці разьехаліся па розных гарадах і краінах. Унукі жывуць у Нью-Ёрку і Брусэлі. Але, як кажа старая, родную мову не забываюць.

Пакрысе наша размова выйшла на 1940-я гады мінулага стагодзьдзя. Калі тут панавала «наглая сьмерць». Што праўда, сям'ю Яўгеніі тая сьмерць абмінула. Але не абмінулі бандыцкія рабункі



— Хадзілі тут начныя. Адным грошы трэба былі, другім ня ведаю што. Памятаю, прыехалі ноччу. Тата пад ложак схаваўся. Мама пайшла адчыняць. «Ліхтар маеш? Запалі ліхтар, дай і не выходзь з хаты». А яны пайшлі ў хлеў, дзе сьвінчо было. Сьвінчо закалолі, паклалі на воз. Мама бачыла, але каго там ноччу пазнаеш. Самі трасьліся ад страху. Падалі ліхтар. «Нікому не гавары». Ні суседзям, нікому. І паехалі.

70-гадовая Галіна Марчык, хударлявая прыязная інтэлігентка, нарадзілася ў 1945 годзе. Таму пра рэаліі тых часоў ведае толькі з успамінаў сваіх сваякоў.



— Хадзілі тут такія бандзёры. І яны толькі праваслаўных людзей, не каталікоў, мардавалі. Многа тады людзей выехала зь вёскі. Цэлымі вёскамі ўцякалі. Уцякалі, бо іх забівалі. Хаты палілі і цэлыя вёскі нават палілі. У маіх бацькоў таксама хату спалілі. Гэта было ў 1946-м, у 1947-м годзе. На мае хрысьціны прыйшлі першы раз. Выбілі акно ў хаце. Даведаліся, што будуць хрысьціны. Бацьку пабілі. Дзеда пабілі. І пасьля, калі зноў прыходзілі, то мужчыны ўцякалі з хаты. У хаце не начавалі. Толькі бабка была і мама зь дзецьмі. А потым на астатак узялі і спалілі. У 1949 годзе. У чым спалі, у тым і выйшлі. Я гэта ўсё помню ўрыўкамі. Свае суседзі рабілі. Са сваёй вёскі, з суседніх вёсак. Яны хацелі зьнішчыць на гэтых тэрыторыях праваслаўе. Я інакш не магу гэтага зразумець. Бацька мусіў паўгода так уцякаць зь дзедам разам. А пасьля яшчэ спалілі. А мама з трыма малымі дзецьмі голыя засталіся на вуліцы. Гэта быў лістапад, холад. І ведаем, хто паліў. Але зь імі сустракаліся, руку падавалі. А зараз у тых людзей... Не дарма кажуць, што Бог карае. У аднаго з тых, што, будучы маладым хлопцам, вельмі шмат рабіў шкоды, то яму так выйшла — сын адзін памёр, другі сын іншага сына віламі забіў. Пасьля і таго сына скруціла

сьмерць. Бог карае. У гэтай вёсцы нават звон калісьці вісеў. Каб бандзёраў ганяць. І ў той звон званілі. Усёй вёскай зьбіраліся. Бо тут быў рэлігійны расізм.

А вось суседка Галіны Марыя Марчык, ціхая, памяркоўная, невысокая кабета тыя паваенныя жахі памятае сама. «Наглая сьмерць» забрала яе роднага дзеда Марціна Мазурчыка.



— Тата пайшоў на вайну. Быў на вайне, а пасьля трапіў у лягер. У Аўшвіцы быў. А пасьля немцы забралі яго да работы. Як пайшоў на вайну, дык шэсьць гадоў не было яго ў хаце. А мы зь дзедам і з мамаю гадаваліся. А потым згарэла вёска, і мы пабудавалі, у зямлі выкапалі зямлянку. І жылі там. Вярнуўся тата ад немцаў. І прыйшлі гэтыя начныя і забілі дзеда ў той зямлянцы. І невядома за што. Мая старэйшая сястра вісела мо з гадзіну ў дзеда на плячах. Яны ўсё чакалі, а пасьля сказалі: «Пусьць, яму ніц не бэньдзе». Як толькі яна адпусьціла, дык дзеду адразу кулю ў лоб. Казалі, што дзед выдаў некага. А потым, калі той вярнуўся з турмы, сказаў, што дзед нявінны. Дарма забілі. Выдаў ня дзед, а нехта іншы.

Вясна і лета 1945 году ў першую чаргу асацыюецца з канцом Другой сусьветнай вайны, з

радасьцю Перамогі, з пачаткам новага жыцьця. Але менавіта гэтая пара стала самай змрочнай для праваслаўных беларусаў Падляшша. У той час з Заходняй Беларусі пачаўся масавы сыход польскага насельніцтва і адступленьне атрадаў Арміі Краёвай у Польшчу. І праваслаўнае насельніцтва Падляшша стала ахвяраю для вымяшчэньня злобы. Маўляў, праваслаўны — значыць рускі. Людзей не ратавала нават тое, што іх сваякі былі ў польскім войску і ў нямецкім палоне. Як бацька маёй суразмоўніцы.

— І ў той зямляначчы дзеда забілі. А потым хадзілі абкрадалі. Пазабіралі ў мамы дзе што. Усё, што ткалі. Я пакуль спала, ня бачыла. Але сястра і да сёньня ня дасьць рады. Такія хваробы з сэрцам. Так перажывала, што яна вісела на дзедавай шыі і плакала. Але яны ўжо не жывуць, усе тыя. Адзін неяк прыйшоў да нашай хаты, мы ткалі сядзелі. Ён кажа: «Я яшчэ мушу аднаго рускага забіць».

Якімі б рэлігійнымі ці палітычнымі прычынамі ні прыкрываліся забойцы, сапраўдныя матывы ў бандытаў усіх часоў і народаў былі самыя простыя і жыцейскія. Адабраць маёмасьць. Бацьку Ўладзімера Галіцкага, Аляксандра, забілі ў ліпені 1945 году, каб забраць каня.

— Гэта былі бандыты. Яны падшываліся пад Армію Краёву, але гэта звычайныя бандыты. Хадзілі па вёсцы, рабавалі. У нашага бацькі быў малады конь. Прыйшлі — запрагай, падвязеш нас. Увечары. Запрог каня і павёз. І ўжо



не вярнуўся. Каня і воз забралі. А яго забілі. У яму кінулі. Забіў свой, са свае вёскі. А каня прадалі на рынку. Забіў Бакун Генрык. Ён яшчэ жыве. Стаў афіцэрам! Дзьве зоркі мае. Забілі бацьку 12 ліпеня 1945-га. Я меў год і тры месяцы.

Неяк у Крынках я спытаў каля царквы ў кампаніі кабет пра іх нацыянальную прыналежнасьць. Кім яны сябе лічаць. І ўсе тыя жанчыны азваліся полькамі. Праваслаўнымі, але полькамі. Галоўным аргумэнтам на карысьць іхнай польскасьці служыў пашпарт. Пра радасьць далучэньня да панскай нацыі яны мне нічога не сказалі.

*2015, студзень*

# Нёс хлопчык бабулі лучынку…

*Як зьнішчылі вёску войскі НКВД*

Лаўжы, Ашмянскі раён

На самай беларуска-літоўскай мяжы, на Ашмяншчыне, за маленечкай вёскай Юсялішкі добрая дарога ў бок Літвы сканчаецца. І ўпіраецца ў поле. За нейкіх паўкілямэтра бачная сьцяна лесу. Гэта яшчэ беларускі лес. Калі прайсьці грунтавой дарогай, разьезджанай памежнымі джыпамі, роўна на поўнач, праз хвілін дзесяць выйдзеш у парослае пустазельлем немалое поле. І пасярод гэтага поля, сярод гэтай памежнай цішы, вока выхапіць невялікі мэмарыял.



Невысокі каменны крыж, а побач капліца. На крыжы напісана па-беларуску: «Жыхарам вёскі Лаўжы, загінуўшым падчас баявых дзеяньняў 23 лютага 1945 году».

Што ж гэта за баявыя дзеяньні вяліся ў Беларусі, калі фронт даўно ўжо быў у Нямеччыне? Адказ дае польскі надпіс на другім помніку, на капліцы: «У гэтым месцы была вёска Лаўжы. У ноч на 23 лютага 1945 году была пацыфікаваная войскамі НКВД. Былі забітыя ўсе жыхары, а таксама аддзел самаабароны Арміі Краёвай».

Яніна Гаспаровіч жыве ў самым канцы Юсялішак, у хаце, якая найбліжэй да месца трагедыі. Жанчына з позіркам дабрадушным і адначасова дапытлівым. Чужыя людзі сюды не заходзяць. У 1945-м Яніне было 10 гадоў. І сёетое яна памятае.



— Што здарылася? Выбілі ўсіх. Была польская партызанка пасьля вайны. І НКВД рускае было. Мароз такі быў! Рускія заехалі грэцца. Зайшлі ў хату. Да бацькі: «Знаете, дедушка, кто мы есть?» Тата кажа: Зараз такі сьвет — нікога не пазнаеш. Тата хітры быў, бараду адгадаваўшы, каб ня злапалі ў войска. Пагрэліся крыху, а іх многа падводаў наехала. Ня ўсе былі зайшоўшы, толькі пара чалавек. Зорачкі рускія на шапках. Пагрэліся і паехалі. А наша карова якраз была на ацяленьні. Маці ноччу пайшла карову глядзець. І будзіць бацьку: Прачніся! Што на небе творыцца. Гарыць нешта, нейкі пажар. Нартуны, мусіць, гараць. Тата: Не. Гэта не Нартуны. Гэта Лаўжы гараць. Ну, так і выйшла. Лаўжы. Назаўтра ранкам вязуць каля нас параненых. Вязуць і вязуць. Тады чуем, што Лаўжы згарэлі, выбілі ўвесь народ. Толькі адзін хлопец быў нежанаты, ён у Вільню быў паехаўшы. Дык ён застаўся жывы.

Але і тут на месцы загінулі ня ўсе. Прозьвішча чалавека, які ўратаваў сваю сям’ю — Дзедулейчык.

— Трагедыя адбылася зь пятніцы на суботу. А ў нядзелю мама пайшла ў касьцёл. І пасьля касьцёла сабраліся людзі сюды глядзець. Нехта сваіх сваякоў стаў забіраць. Радня прыехала, каб якія костачкі забраць. Была адна забітая баба цяжарная, і дзіця ляжыць пры ёй. Абгарэлае. Там усе пагарэлі. А той Дзедулейчык пад бярвеньнямі зрабіў акоп. І ён шугнуў туды

з кажухом і з жонкай. І дзяўчынку пацягнуў. Пад бярвеньні гэтыя. Частка тых бярвеньняў абгарэла. Так засталіся жывыя. І пасьля яшчэ паставіў на агнявіску хату. А пасьля зьехаў у Салечнікі.

Але ў Лаўжах загінулі ня толькі акоўцы і няшчасныя жыхары. У ачэпленую войскамі вёску заганялі ўсіх, хто трапляўся на дарозе. Нават дзяцей. Гэтая апэрацыя больш падобная да карнай акцыі, чым да бою.

— Гэтыя энкавэдысты затрымлівалі ўсіх, хто ішоў ці да касьцёла, ці ў краму. Вось тут бабуля на канцы вёскі жыла. І затрымалі хлапца, які да яе ішоў. Загінуў. Ішоў, нёс бабулі лучынку. Бо не было ж ні кірасыны, нічога ў вайну. Затрымалі, як ішоў, удзень! І згарэў таксама. Стась Варанецкі яго імя. Яму было дванаццаць гадоў. Акружылі вёску кругом. Зь лесу ім бачна было, хто ўцякае. А жонкі Дзедулейчыка бацькі жылі ў суседняй вёсцы. Былі на дрэва ўзьлезшы. Бачылі, як хатка зяця гарыць. А бачыш, які шчасьлівы быў… У Лаўжах было сем хат. І дзьве на ўскрайку. І тыя спалілі. Дзянгілеўскія там такія жылі. Усяго дзевяць хат.

На першы погляд можа падацца, што беларускі помнік праўду хавае, а польскі расказвае. Але насамрэч усё ня так проста. Беларускі крыж зьявіўся першы. На пачатку 1990-х. І тэкст на ім «рэдагаваўся» раённымі ўладамі. Польская ж капліца была пабудаваная толькі праз дзясятак гадоў. У першага помніка была ініцыятарка.

Імя яе — Гэлена Альбертаўна Пашкель. Яе маці забілі проста на прыступках касьцёла ў вёсцы Анжадава. Кажа Яніна Гаспаровіч.

— У Анжадаве яна жыла. Яе матку нейкі дурань застрэліў. Ехаў, страляў. Яна з касьцёла выйшла, і куля ў яе. Дык гэная Гэля паставіла беларускі помнік. А пасьля паставілі каплічку па-польску. Як асьвячалі, прыехалі палякі з Польшчы, цэлы аўтобус прыйшоў.

Да гэтага помніка вельмі цяжка дабрацца. Бо ён ледзь не на самай мяжы. Але са страшнага летапісу вайны вёску Лаўжы ўжо ня выкрасьліць. У Лаўжах загінулі 25 мірных жыхароў, 50 байцоў Арміі Краёвай. Колькасьць ахвяраў з боку карнікаў невядомая.

*2015, верасень*

# Героі-бандыты

*Як «Саюз змаганьня» на ўсіх наводзіў жах*

Баяры, Квачы, Саская Ліпка. Нясьвіжскі раён

На могілках вёскі Квачы ёсьць незвычайная магіла. Абгароджаны лапік зямлі з двума пахаваньнямі. Першая пліта паведамляе, што гэта магіла Натальлі Дэмух. А вось другое надмагільле, стандартны бэтонны помнік, як быццам адвярнулася ад нас. Нібы чалавек, які ляжыць пад абэліскам, ня хоча, каб мы прачыталі ягонае імя. І каб даведацца, хто ж тут пахаваны, трэба абысьці гэты ўчастак з тылу, дзе з-за кратаў праглядаюцца расейскія



літары: «Демух Николай Констонтин. Жил 53 г Ум. 28-XI 1973 г». Па вайне гэтае імя наводзіла жах. Як на савецкіх службоўцаў, так і на сялян. Зразумела, што гэта ня помнік павярнулі, а агароджу паставілі пазьней. І жонка Дэмуха Натальля, памерлая ў 1992-м, была пахаваная ўжо ў новай сытуацыі. Але лепшы

помнік гэтаму чалавеку і прыдумаць цяжка. Імя за кратамі…

«Саюз змаганьня за незалежнасьць Беларусі», арганізаваны ў 1946 годзе на Нясьвіжчыне Іванам Раманчуком, вылучаецца сярод іншых тагачасных арганізацый з падобнымі назвамі. Бо ў большасьці маладых беларускіх падпольшчыкаў асноўнай формай барацьбы было слова.

Асоба Івана Раманчука з публікацыяў беларускіх гісторыкаў вымалёўваецца досыць гераічная. Паводле адукацыі — настаўнік. Падчас нямецкай акупацыі ён у Беларускай Народнай Самапомачы — арганізацыі, якая аказвала матэрыяльную дапамогу пацярпелым ад вайны. Па вайне працаваў настаўнікам у Нясьвіжы. Але ўдзел у БНС не застаўся па-за ўвагай органаў Міністэрства дзяржбясьпекі. І малады настаўнік сыходзіць у лес. Улетку 1946 году ў ваколіцах вёскі Саская Ліпка адбываецца ўстаноўчы сход «Саюзу змаганьня», мэтай якога была падрыхтоўка палітычных сілаў, якія ў выпадку новай вайны меліся выступіць за незалежнасьць краіны. На рахунку гэтай арганізацыі не адно забойства. Ад старшага опэрупаўнаважанага Нясьвіскага раённага аддзелу МГБ Ёсіфа Гейсіка да шараговых актывістаў.

Кім жа быў гэты чалавек з падпольнай мянушкай «Ястраб»? Змагаром ці бандытам? Каб наблізіцца да адказу, я паехаў у Баяры, родную вёску Івана Раманчука, — паслухаць тых, хто яго ведаў жывым.

Баяры — невялікая вёсачка з адной пакручастай вуліцы. На маё зьдзіўленьне, першая сустрэтая пажылая спадарыня, былая настаўніца, адразу ж адрэагавала на прозьвішча Раманчук.

— Ён быў граматны чалавек. Скончыў гімназію пры Польшчы. Пры немцах ён пайшоў у Самапомач. А як прыйшлі нашы, ён з Дэмухам... Я вучылася тады ў пэдвучылішчы. І мы іх баяліся. Бо машын не было. Мы пешкі бегалі. Мы вельмі баяліся Дэмуха і гэтага Раманчука. Бо яны спынялі, бывала, людзей. Яны ж у Саскай Ліпцы пяць чалавек застрэлілі. Прыйшлі актывісты савецкія зь Нясьвіжа свой сход праводзіць, а тыя ўскочылі і застрэлілі іх. Яны як бандыты былі.

Чамусьці ўсю кроў былая настаўніца прыпісвае іншаму ўдзельніку арганізацыі, ураджэнцу вёскі Квачы — Мікалаю Дэмуху. А Івана Раманчука характарызуе станоўча.

— Ён быў інтэлігентны, харошы чалавек. Забойствамі ён не займаўся. Высокага росту, хударлявы. Твар маладжавы. Ён быў харошы чалавек, ён ня быў бандытам. Ён быў кроўны беларус. Быў культурны. Сустрэнесься, пагаворыш. Культурны чалавек. Нікому зла не жадаў. А як насамрэч, ня ведаю.

Спадарыня Ніла Грушнік таксама памятае Раманчука.

— Гэта гэты, што хацеў Беларусьсю кіраваць? Начальнікам хацеў быць беларускім. Па-беларуску гаварыў і ўсіх арганізоўваў. Пры немцах.



Хацеў быць самым галоўным. Да вайны быў настаўнікам, а далей бандытам. Ён у Квачох з кулямётам пяць чалавек расстраляў. І лавіла яго ахова. А ён — уплаў у рэчку. У Саскай Ліпцы ў яго дзеўка была. Там хаваўся. А злавілі недзе ў Баранавічах у сабачай будцы. У спадніцы, у хустцы.

Паводле Вікіпэдыі, Івана Раманчука ўзялі з боем улетку 1949 году на адным з хутароў пад Нясьвіжам. З боку падпольшчыкаў было 7 чалавек. Чатыры зь якіх былі забітыя. Узяць удалося толькі трох параненых, у тым ліку і Раманчука. Ніякіх сабачых будак і жаночых сукенак. Цікава, адкуль гэтая апэрэтка?..

— А дакладала міліцыі суседка. Яе хата была пасярэдзіне сяла. Ёй грошы плацілі. Яна праз вакно дакладала, калі ён да бацькоў прыходзіць.

Дзіва, што яго не расстралялі ў 1949-м. Але ад траўня 1947 году да студзеня 1950-га дзейнічаў сталінскі ўказ аб адмене сьмяротнага пакараньня. І судзілі іх менавіта ў гэты прамежак часу. Пратрымайся яны яшчэ адзін год — і «вышкі» ім не пазьбегнуць. А вось каму сапраўды не пашанцавала, дык гэта суседзям і сваякам падпольшчыкаў. Толькі з Баяр у ГУЛАГ адправіліся 25 чалавек. Усім далі па 25 гадоў. Адседзелі па сем.

— З-за яго. Што ён наш. І начаваць яго пускалі. Пастукаецца ў акно. Пусьцяць. Бо свой. А ня пусьціш, дык застрэліць. Дзядзька Серафім яго падстрэленага насіў на плячах. А як не панясеш, то застрэлю. І таму дзядзьку Серафіму 25 год далі. І дзядзьку Івану далі 25. Бо ён яго пусьціў нешта друкаваць на машынцы друкавальнай… Раманчук — высокі, прыгожы, чарнявы быў. Яго злачынцам зрабілі, як сталі яго лавіць, шукаць. А зразу ён ніякіх злачынстваў не выробляў. А як сталі за яго брацца, дык і ён пачаў.

Разьвітаўшыся зь Нілай, я накіраваўся далей. На вуліцы мне сустрэўся вясёлы і задаволены жыцьцём вусаты мужчына. Мікалай Гарбуз ішоў на мэхдвор, дзе працуе вартаўніком. Вусач з радасьцю падзяліўся сваім меркаваньнем на-



конт Раманчука і Дэмуха. Сымпатыі вартаўніка былі адназначна на іхнім баку. Бо, па-першае, «харошы мужык быў Коля Дэмух». Па-другое, «афіцэрам быў і два ордэны меў». І, па-трэцяе, «ты ж павінен разумець, што такое НКВД. Берыя і Цанава, падла...» Ну і як ісьці супраць такога аргумэнту? Вясёлы антысталініст пайшоў на працу, а я скіраваўся ў Саскую Ліпку.

У гэтай вёсцы ёсьць вуліца Петрачкова. Больш такой вуліцы, названай у гонар гэтага чалавека, нідзе ў сьвеце няма. Пра гэта распавяла мне Леакадзія Корсак. Леакадзія Юр’еўна адсьвяткавала свой соты юбілей.



— Петрачкоў быў настаўнік, здаецца. Ён езьдзіў па хатах. У каго-небудзь што-небудзь выпытае. Падае пасьля, што ты кепскі, што ты такі. Даносчыкам быў. І забілі яго тут. Ён заходзіў у хату на адным хутары. Там яго падгледзелі і застрэлілі… Пра Раманчука я чула. Ня ведаю, як яго назваць... Бандыт.

Напрыканцы 1940-х гадоў тут забілі ня толькі даносчыка Петрачкова. Суседняя вёска Квачы недалічылася многіх сваіх жыхароў. Яны загінулі ад рукі земляка Мікалая Дэмуха. Што прывяло ў лес стваральніка падпольнай арганізацыі Івана Раманчука, былога інструктара

БНС, зразумець можна. А вось Мікалай Дэмух — былы франтавік, ардэнаносец. Гэтага чалавека добра памятае квачовец Іван Аляксандравіч Шлык.



— Ён страляў… Быў такі начальнік Гейсік. Івашка быў, старшыня калгасу. Тут у сельсавеце. Паштальёна разам зь імі забіў. Ён за тое страляў, што ў яго разбамбілі ўсю рыбу, самагонку. Ён ім помсьціў. У яго была свая рыба. І ўсё адабралі. А ён быў харошы. У яго і хата, і пчолы. Яго разарылі. З-за гэтага ён стаў бандытам. Пачаў помсьціць.

Бяда франтавіка Дэмуха ў тым, што ён не зразумеў сэнсу слова «калектывізацыя». Ён меў сваю сажалку, сваю пасеку і нават свой бровар. Тое, чаго мець ужо было нельга. Невысокая сялянка з сумнымі вачыма Соф'я Пазьняк — дачка аднаго з тых людзей, каго забіў Дэмух. Забіў з-за рыбы.



— Гэта ж майго бацьку застрэлілі. Быў такі бандыт у нас, Дэмух. Майго бацьку забіў, у Баярах некага, кругом ён страляў людзей. Хто яму не падабаўся, тых ён і страляў.

Быццам у яго, у Дэмуха, было возера. І нібыта мой бацька з братам лавілі рыбу. І за тую рыбу ён нашых пабіў. Многа ён тут пазабіваў людзей. Ён з-за плота. А бацька спаў пад вакном. Выглядзеў і выстраліў. І куля ў дзьвярах засела. Доўга была тая дзірка. Даставалі тую кулю. Увечары страляў. У нас некалі, як вечар, усе дзяругамі вокны закрывалі. Каб нідзе ніхто ня бачыў, што ў хаце робіцца. Малых у нас было чацьвёра, усе на печы. Пасьля мама памерла ад тубэркулёзу, нас баба гадавала. Вось такія справы.

А што з тымі, хто быў арыштаваны сьледам за Дэмухам? Якія мэтады ўжывалі супрацоўнікі МГБ не на далёкай Лубянцы, а ў правінцыйным Нясьвіжы? Пра гэта мне распавяла Клаўдзія Глобаш.



— Далі і Дэмуху 25 гадоў, і тым, у каго ён еў, у каго піў, хто яму зашываў. Гэтыя ўсе сядзелі за яго. Моцна каралі. Адна казала, Аксеня Філіпава, што саджалі на гэтакае крэсла, што чаго ня знаеш, а ўсё раскажаш. Бо трасе токам. На электрычнае крэсла. Казала, што есьці не давалі. А спаць? Гэтакія ямы і вады да халеры ў гэтых ямах. І стаіш. Як вочы сплюшчыў, патруль лазінаю па лбе. «Ня сьпі. А прызнавайся». А есьці? Што ў

нас, не раўнуючы, сабака еў, то і яны елі. Казалі: «Ізьменшчыкі родзіны».

Марыя Дзярнова з тых шматлікіх, хто быў у ГУЛАГу ў справе «Саюзу змаганьня». І з тых нешматлікіх, хто дажыў да нашых дзён.



— Нармальныя людзі былі. Гэты Дэмух маёй маме нейкі далёкі сваяк. Ён быў вельмі харошы чалавек. Гадаваў рыбу. Як я сядзела ў турме, яны пыталі: «Які ён вам сваяк?» А я ня ведаю. Я кажу: пытайцеся ў мамы. А пасьля забралі і тату, і брата, і маму. А тыя энкавэдэшнікі, што Дэмуха лавілі, яны ў нас начавалі. У хаце. А потым забралі нас. Тату першага забралі. Пасьля адпусьцілі. Сказалі, што невінаваты. А мяне забралі і завезьлі аж у Горкаўскую вобласьць. На лесапавале была. Быў лягерочак, і я там была брыгадзірам. Пасьля расканваіравалі былі, у грыбы хадзілі, касілі. Усяго было. І мне за гэта налічылі ў трайным памеры стаж. Бо лічылася, што мы невінаватыя. 10 год далі, я 6 адседзела. Ой, пацярпелі. Той работы няма, якой бы я ня ўмела. Усё перарабіла. І вось засталася адна. Мужык памёр. Унукам нецікава, дзе я была. Мой ты чалавек мілы. Хто ў нас, у сельскіх, пра жыцьцё пытае? Мае ўсе ў Мінску. А я адна засталася. Каратаю да сьмерці.

Унукі Марыі, якія жывуць у Менску, хутчэй за ўсё, носяць піянэрскія гальштукі. Хутчэй за ўсё, езьдзяць на «Лінію Сталіна». Хутчэй за ўсё, не разумеюць сэнсу слова «ГУЛАГ». Хутчэй за ўсё, не гавораць на мове сваёй бабулі. І пагатоў нічога ня ведаюць ні пра «Саюз змаганьня», ні пра допыты ў МГБ, ні пра тую вайну пасьля вайны. Марыя Дзярнова не расказала ў свой час унукам пра сваё жыцьцё.

*2013, кастрычнік*

# Ахвяра сваіх ахвяраў

*Як адбывалася вайна пасьля вайны*

Суднікі, Вялейскі раён

Тое, што вайна ў Беларусі працягвалася і пасьля вайны, не сакрэт. А вось маштабы антысавецкага супраціву невядомыя да гэтае пары. У лес сышлі тыя, хто хаваўся ад мабілізацыі ў РККА ў 1944-м. Туды ж падаліся былыя акупацыйныя паліцыянты. У лесе былі аддзелы Арміі Краёвай. Туды ж сышлі і сьвядомыя беларусы — змагары з савецкай уладай. Імёны Яўгена Жыхара, Мікалая Дэмуха ды Івана Раманчука да гэтае пары выклікаюць у каго жах, у каго захапленьне…

Недалёка ад мястэчка Ільля ёсьць масавае пахаваньне, якое ніяк не пазначанае. Хоць у той магіле ляжаць сотні людзей. Гэта ахвяры вайны, памяць пра якую складальнікі савецкай гісторыі імкнуліся выкрасьліць з розумаў і сэрцаў. Вайны, якая ішла ў Заходняй Беларусі ад 1944-га да пачатку 1950-х гадоў. Ільлянскі гісторык Уладзімер Кажамяка зьбірае сьведчаньні той забытай вайны.

— О! Тут якія банды былі! Банда Пётры Харытонава. А якая мэта была ўва ўсіх гэтых людзей? У іх была мэта — супрацьстаяць савецкай уладзе. У пачатку яны хадзілі свабодна,



нават па вёсцы. Пасьля вайны. «Мы зробім пераварот!» У гэтым была мэта іхная і задача. Ну, канечне, яны дзейнічалі спосабам якім? Засады, забойствы. Што значыць змагацца з уладай? Гэта змагацца з тымі, хто падтрымлівае гэтую ўладу, хто кіруе на месцах.

Суднікі — вёска, абкружаная з усіх бакоў пагоркамі, парослымі лесам. Яна пабудаваная так, нібы людзі тут хацелі схавацца ад чужых вачэй. У некалі паўналюдным паселішчы, дзе зь міжваеннае пары ляжыць дасканалы брук, сёньня жывуць адно менскія дачнікі. З карэнных жыхароў засталася толькі пара 80-гадовых бабуль. Падзеі саракавых гадоў яны запомнілі на ўсё жыцьцё.

Зінаіда Вяжэвіч, гаваркая гасьцінная бабуля, камандзіра антысавецкага фармаваньня Пятра Кліменка, сына Харытона, упершыню пабачыла ў 1943-м. Вось пры якіх абставінах.

— Як цалкам вайна разыгралася, пачалі вёскі паліць у Беларусі, ён прыехаў сюды. У яго на рукаве было напісана «СД». Нашу вёску абкружылі паліць. І ён выратаваў нашу вёску. Ён пагаварыў з эсэсаўцамі, яны ўсе паехалі. З-за гэтага мы засталіся жывыя ўсе. Пётра прыехаў і выратаваў вёску.




А вось што расказвае Зінаіда Вяжэвіч пра падзеі пасьляваенных часоў.

— Яны хацелі зрабіць пераварот. Вось гэты Харытонаў Пётра, Клімёнак Пётра. Стварылі банду. Там многа паліцаяў засталося. У Ільлі былі энкавэдысты, і ў Вязыні. Лавілі іх паўсюль. Вайна ішла натуральная. Страшней, чым была вайна. Яны крамы рабавалі, людзей забівалі. У 1948-м, 1949-м ужо арганізавалі калгасы. Хто запішацца ў калгас, значыць, яны таго ноччу прыйдуць і заб'юць. І хату спаляць. Вось такое ішло. Забівалі яны і міліцыю. Тады ж не было камсамолу. Былі актывісты. Гвалтам прымусілі тут дзяўчынку паступіць у актывісты. Закрывалі Вязынскую царкву. І прымусілі яе вынесьці іконы. Яна павінна была танцуючы вынесьці на двор гэтыя іконы. Яна гэта зрабіла. Ноччу прыйшлі. Ёй паадразалі вушы, грудзі, мучылі, зьдзекаваліся, задавілі. А бацьку і мачыху стрэлам забілі, і двое дзяцей пры мачысе спала. І хату падпалілі. Вось так было… Тут толькі ў школу іх прывезьлі 200 чалавек. Мёртвых, жывых, усякіх.

Пасьля такіх «геройстваў» харытонаўцаў зусім не зьдзіўляюць мэтады, якімі карысталіся супрацоўнікі МГБ. Вось як апісвае Зінаіда пра-

цэдуру апазнаньня трупа Харытонава ягонай маці.

— Пётра ня здаўся. Ён забіў сам сябе. Каля дрэў яго паклалі. Ён, як парсюк, здаровы быў. Мы, дзеці, лётаем. Хто гэта? Мы ж ведаем. Пётра Харытонаў. Паклікалі маці. Ваш сын? — Не. — Ну, калі ня ваш сын, прайдзі па ім. Станавіся на грудзі яму і прайдзі ад ног да галавы. Яна пасьля расказвала — Я ішла, але нічога ня бачыла. Яна не магла глядзець. Сын жа ж. Але назад ад галавы яна ўжо не магла прайсьці. Яе адпусьцілі.

Мікалай Апяцёнак, прадпрымальнік з Маладэчна — стрыечны пляменьнік Пятра Клімёнка. Ён аднавіў магілу антысавецкага дзядзькі вось у такім «закансьпіраваным выглядзе». Каб ведалі толькі свае.





Мы гутарым, шпацыруючы па суднікоўскіх могілках, намаганьнямі Мікалая прыведзеных у ідэальны выгляд.

— Пётра Харытонавіч быў вымушаны рабіць тое, што ён рабіў. А што ён рабіў? Ён, можна сказаць, абараняў сапраўдных гаспадароў, сапраўдных патрыётаў, якія тут хацелі жыць. Напрыклад, мой дзед вярнуўся з ЗША, зарабіў там грошы і меў сваю ўласную гаспадарку. У яго, у дзеда, забралі ток.

Мы даходзім да магілы Яўгена Клімёнка, якога забіў дзядзька Мікалая.

— Гэта магіла ахвяры. Але ж у яго таксама былі ахвяры, у гэтага Клімёнка Яўгена Венядыктавіча. Таму можна сказаць, што гэта ахвяра сваіх ахвяраў. За калектывізацыю, за рабаваньне ўласьнікаў. Відаць, надта многа насаліў людзям. Людзі былі вымушаныя зьвярнуцца да Пятра Харытонавіча. Каб ён яго паставіў на месца.

Уладзімір Кажамяка ня бачыць вялікай розьніцы паміж «героямі» савецкімі і антысавецкімі.

— Я задаюся пытаньнем. Калі Пётра бандыт і мэтады прымяняў бандыцкія да людзей — то чаму Кірыла Арлоўскі не бандыт? І атрымаў «героя»? Ён якраз тут дзейнічаў за палякамі.

Яны нападалі на пастарунак, на Ільлянскую паліцыю, зьнішчылі яе. І ёсьць такія зьвесткі ад мясцовага насельніцтва, што сам Кірыла Арлоўскі ўласнаручна застрэліў Вашнеўскага, пана. Ён быў небагаты пан, але тым ня менш. Жонку пана не чапалі, а таго — у ложку сам Арлоўскі. Дык вось такія яны бандыты былі. Мэты ў іх былі не рабаваць і забіваць. А мэта — барацьба з уладай.

На пытаньне, хто ў гэтай пасьляваеннай вайне бандыты, а хто героі, адназначнага адказу ня знойдзеш. Зьверствы супрацоўнікаў МГБ з танцамі на трупе нічым не саступаюць зьверствам «набожных» харытонаўцаў у адносінах да апаганьвальнікаў царквы.

*2008, кастрычнік*

# Цэлая скрыня была тых вершаў

*Як нараджаўся супраціў паваеннае моладзі*

Маркава, Маладачанскі раён

Менск 1951 году. Гледзячы на старыя здымкі, ягоным жыхарам можна нават пазайздросьціць. На іх вачах будуецца самы прыгожы горад на зямлі. Для будучага шчасьлівага жыцьця. Але нацешыцца жыцьцём хочацца ўжо сёньня. Колькі жанчын у мадэльных сукенках ад найлепшых менскіх мадыстак і ў неверагодных капялюшыках. Пройдзе яшчэ колькі гадоў, і гэтая, сапраўды дамская, мода сыдзе назаўжды. А спадарожнікам тых дам, бліскучым афіцэрам пераможнай арміі, яшчэ не надакучылі парадныя кіцелі, поўныя мэдалёў. І ёсьць куды пайсьці. Громам трыбун і яскравасьцю сьцягоў кліча новы стадыён «Дынама». Паркі поўняцца гукамі духавых аркестраў. А ў рэстаране «Беларусь» акрамя эскалопаў і рамштэксаў можна пакаштаваць ежы духоўнай, пасузіраць скульптурнае пано «Лявоніха» мастака Міхаіла Керзіна. Але як жа ня ўпісваецца ва ўсю гэтую пампэзную карціну маўклівая, панурая, пераважна жаночая чарга па вуліцы Ўрыцкага. Ва ўнутраную турму МГБ. Чарга, якую ня раз прыйшлося адстаяць і некаторым жанчынам зь вёскі Маркава.

Улетку 1951-га ў Вільні ды ў Менску былі арыштаваныя пяць студэнтаў. Вячаслаў Гамолка, Іван Ільліч Міцько, Іван Іванавіч Міцько, Іван Яблонскі, Аркадзь Слуцкі. Усіх пяцёх аб'ядноўвала месца нараджэньня. Вёска Маркава пад Маладэчнам. Усім пяцём прад'явілі абвінавачаньні ў стварэньні падпольнай антысавецкай арганізацыі. І ўсе пяцёра атрымалі па 25 гадоў лягераў. Дык што ж адбывалася насамрэч у Маркаве напрыканцы 1940-х гадоў?

Для ўсіх гурманаў паэтычнага слова і знаўцаў літаратурнай мапы, вёска Маркава — гэта Тацяна Сапач. Як Зэльва — Ларыса Геніюш. Але ж, аказваецца, былі ў Маркаве і іншыя вяршаскладальнікі. Так бывае, што адна мясьціна ў розныя часы нібы праменіць нацыянальным духам.

Дарога ў Маркава ляжыць праз Лебедзева. Там была сярэдняя школа, куды хадзілі нашы героі. Будынку той школы даўно няма. Насупраць пусткі жыве былая настаўніца Антаніна Раманоўская. Яна была аднаклясьніцай маладых людзей.



— Мы як толькі даведаліся пра гэта, для нас гэта быў шок. Яны нічым сябе не выдавалі. Нічым. Хоць бы словам выдалі сваю незадаво-

ленасьць — не. Былі нармальныя хлопцы. Як усе ў клясе. У нас у школе пра гэта ніхто нічога ня ведаў. Мы даведаліся пра гэта, як іх арыштавалі тады. Слуцкі і Яблонскі толькі слухалі, як Іван Міцько чытаў свае вершы. Гэта была паэма. Пра што? Як калектывізацыя адбывалася, як хадзілі па хатах. Як прымушалі. Усё гэта ён апісаў. А Гамолка рабіў мастацкае афармленьне. Як газэту з карыкатурамі. Гамолка як мастак быў там. Чым яны выдзяляліся? Нічым. Звычайныя. Але хтосьці іх прадаў. Страшна было тады. Усіх падазравалі. Слова нельга было сказаць.

Адкуль у паваеннай моладзі была сьмеласьць рабіць нешта насуперак рэжыму? Яны ж ведалі і разумелі, што такое сталінскі рэжым. Няўжо імі рухала толькі маладосьць і прага справядлівасьці? Ці было яшчэ нешта? Закладзенае ў школе?

— Маладыя гады былі цяжкія. Тры клясы польскай школы. Ад 1939-га да 1941-га — савецкая школа. Затым, у часе вайны, была чыста беларуская школа. Усё толькі на беларускай мове было. Гісторыя Беларусі, геаграфія Беларусі, пісьменьнікі беларускія.

Ганна Ільлінічна Міцько, сястра аднаго з герояў, ціхая, з крыху недаверлівым позіркам вясковая жанчына, разгаварылася на гэтую тэму не адразу.

— За тое, што зналі і не данесьлі — тым па 25 гадоў, і нашым па 25. Наш у Карагандзе быў, Слуцкі ў Іркуцку. Усё арыштавалі, усё забралі.

Гамолка закапаў дзьве скрыні за хатай, пад вакном. Пасьля катавалі. Ён ня вытрымаў, расказаў. Прыехалі. Там агульных сшыткаў было дзьве скрыні. І бацькам не паказвалі. Бацькі калгасьнікі, яны мала цікавіліся. Піша, піша. А што ён піша? Можа, школьную праграму піша. Ніхто ж ня ведаў.

Чаго маладым людзям не бракавала, дык гэта тэмаў для творчасьці. Іх новая ўлада падкідала кожны дзень. Пад радасныя песенькі з рэпрадуктараў учорашніх вольных сялян заганялі ў калгасы. І вось якім чынам.

— Старшыня сельсавету такі Скапец быў. Гэта ж ён усё тварыў. Людзі не заплацяць падатак. Стаіць дома мяшок мукі, яны нагадзяць у гэтую муку. Во якія былі ўлады. Каму ты што скажаш? Вось тут у чалавека конь быў. Рашылі каня забраць. Дачка не давала. Ёй граблямі па руках. Кроў цячэ. Так яны забіралі каня. Многа такіх выпадкаў. Адбіралі ўсё.

Сусед Ганны Мікалай Нагіх, пляменьнік Аркадзя Слуцкага сустрэў мяне без насьцярогі.

— Іх пасадзілі старшыня калгасу, старшыня сельсавету. Міцько напісаў верш, Гамолка намаляваў карыкатуру на Сталіна. І ім прыпісалі арганізацыю. А арганізацыі фактычна не было.



Дык з-за чаго пайшлі ў лягеры гэтыя, па сутнасьці, дзеці? Што за карыкатуры яны малявалі?

— Самалёт ляціць. Сталіна партрэт і манна сыплецца з самалёта. А сяляне стаяць на каленях, хлеба просяць.

Калі я слухаў, як арыштоўвалі Аркадзя Слуцкага, на той час ужо курсанта лётнай вучэльні, ня мог ня ўразіцца цынічнасьцю праведзенай апэрацыі. Быццам ня ўчорашняга школьніка затрымлівалі, а амэрыканскага агента. Самае цікавае, што Аркадзь Слуцкі вершаў не пісаў і карыкатураў не маляваў. І мог на допыце, як кажуць, «адмазацца». Але не дазволіла прырода.

— Арыштавалі ў цягніку «Харкаў — Калінінград». Выклікаў начальнік вучэльні. Сказаў, што маці хворая. Ён сеў у цягнік, яго там і арыштавалі. Пагоны зьнялі. Прывезьлі ў Менск судзіць. Аддалі пагоны і рэмень. У гэты час заходзіць у цывільным. «Слуцкі, калі б вы ведалі, нам бы далажылі?» Кажа: «У мяне ўсё заняло. Сказаць «так»— быў бы вольны». А ён сказаў «не». І тут жа пагоны сарвалі. Тут жа асудзілі. 25, і пайшоў.

Найперш віна ляжыць на стукачах. А ўжо затым на ўсіх астатніх. Менавіта стукачы кідаюць той першы каменьчык, які пазьней прымушае круціцца ўсю машыну.

Калі табе дрэнна ў жыцьці
І ў сэрцы пануе трывога,
Старайся прычыну знайсьці
І ўспомні пра Бога.

Калі цябе скручвае злосьць
І ў злосьці ня бачыш нікога,
Падумай, што кожны з нас госьць,
І ўспомні пра Бога.
Калі ты зусім занямог
На цяжкіх жыцьцёвых дарогах,
Павер, што на сьвеце ёсьць Бог.
Успомні пра Бога.

Гэта верш беларускага праваслаўнага сьвятара Івана Іванавіча Міцько. Ён служыў у Маладэчне. Вёў казаньні на роднай мове. І выказваўся ў рэлігійных вершах. Пасьля лягеру ў Комі да палітыкі Іван Міцько ўжо не вяртаўся. Яго сястра Любоў, інтэлігентная хударлявая спадарыня, назаўжды запомніла тойператрус 1951 году.

— Я помню адно. Як папрыяжджалі і ў хаце ўсё рылі, шукалі. Вершы тыя знайшлі. Цэлая скрыня была тых вершаў. У нас вельмі многа было кніг даўнейшых. Бабуля была вельмі рэлігійная. Там не было нічога. Дзеці толькі школу паканчалі. Што яны там маглі? Пісалі, як калгас арганізоўвалі, як Сталін зьдзекаваўся. А другі маляваў добра. Мех на плячах у Сталіна, а зь меху кроў цячэ. Як зьнішчаў людзей. А тата нават чытаў гэтыя вершы. А мама



казала: «Хай бы ты пакрычаў на дзяцей, што яны такое робяць».

Выдаў сяброў жыхар суседняй вёскі Громавічы Міхал Акушка. Са словаў пані Любові, ён ня мог не супрацоўнічаць з МГБ.

— Адзін з тых, хто іх здаў, у часе вайны супрацоўнічаў зь немцамі. І каб сябе загладзіць, ім здрадзіў.

Сястра іншага Івана, Ганна Ільлінічна Міцько, добра памятае гэтага чалавека.

— У яго мянушка «Белы» была. Жыў на хутары. Ён іх у лазьню зьбярэ. І пад парам, пад выпіўку языкі разьвяжуцца. А хлопцы ж маладыя, дзесяцікласьнікі. А таму дзядзьку ўжо гадоў пад сорак. Як вярнуліся тыя хлопцы зь лягеру, дык ён прыйшоў да нас: «Цётачка, а што мне рабіць? Хлопцы вярнуліся. А я ж іх закладваў кожны раз». У яго з жонкай дзяцей не было. Так бязьдзетным і памёр.

Сястра Аркадзя Слуцкага Соф'я, мажная адкрытая гаспадыня, распавяла гісторыю, больш падобную да шчымлівага рамансу. Але ад гэтага менш драматычнай гісторыя ня стала.

— У яго была дзяўчына Зоя. І яна хацела да яго ехаць. Прыйшла да нас і кажа: Я ўсё роўна да яго паеду. А маці — навошта табе ехаць у гэты Іркуцк? Там такі холад. А ці ўбачыш ты яго там? І яна яе адгаварыла. І тая не паехала. А Толя, які сьведчыў на Аркадзя, да яе таксама заляцаўся, зь ёй ажаніўся. А потым Зоя тая сустрэла Аркадзя. І казала, што гатова Толю кінуць і



перайсьці да яго. Брат сказаў, што для тваіх дзяцей я бацькам ня буду. Я ведаю дакладна, што Толя падпісаўся, каб Аркадзя пасадзілі. Каб Зойка яму засталася. Хіба можна было з-за дзяўчыны пайсьці на такое?

Яны выйшлі ў хрушчоўскую адлігу, у 1957-м. Іван Ільліч Міцько быў інжынэрам-будаўніком у Менску. Іван Яблонскі — інжынэрам у Маладэчне. Вячаслаў Гамолка працаваў мастакомафарміцелем. Аркадзь Слуцкі быў аграномам. А галоўны, Іван Іванавіч Міцько, стаў сьвятаром.

*2013, кастрычнік*

# Нітачка цягнецца…

*Як жывуць нашчадкі тых, хто не рабаваў*

Барадзенічы, Браслаўскі раён

Пачуцьцё першаадкрывальніка мяне ахоплівае заўжды, калі дзесьці ў паміраючай вёсцы нечакана знаёмлюся зь вялікім чалавекам. Вялікім і па напрацаваных руках, і па позірку разумных вачэй, і па глыбіні разважаньняў. Такога хочацца слухаць бясконца. Ягоныя ўспаміны пра мінулае, ягоныя думкі пра будучыню, ягоныя жарты і рыфмы. Несавецкі чалавек не заўжды герой, але заўсёды творца.

Пра мастака Яна Рыдзіку я даведаўся дзякуючы друйскаму ксяндзу Сяргею Сурыновічу. Айцец Сяргей выставіў у сеціве рэпрадукцыі ягоных карцін. І поўня над начным возерам, і дзяўчаты, што зьбіраюць кветкі на вечаровым лузе, і дзяўчына, якая ідзе зь вядром да ракі. Сюжэты Рыдзікі выразна перадаюць раскошную прыгажосьць беларускай поўначы.

Ян Рыдзіка — мастак-самавук. Паводле адукацыі — аграном і настаўнік. Жыве творца там, дзе і нарадзіўся ў 1937 годзе. І самавук ён ня ў сэнсе «прымітывіст», а таму, што ўвесь час працягвае вучыцца.

Хударлявы, шляхотны ў кожным жэсьце і фразе былы настаўнік разам з жонкай Соф’яй



жыве на ўскрайку вёскі, на вуліцы, дзе амаль не засталося жылых хат. І іхная камяніца, запоўненая кнігамі і карцінамі, выглядае як аплот чалавечага розуму сярод наступаючай дзікай прыроды. Малюе Ян зь дзяцінства. І бяз гэтага ня можа пражыць і дня.

— Апантанасьць нейкая. Яна не ад мяне залежыць наогул. Мне ніколі не бывае сумна. Людзі ідуць на пэнсію, гэта такі пералом, амаль што трагедыя. Але калі я пайшоў на пэнсію, калі я змог ня толькі маляваць, але і думаць пра маляваньне, я не заўважыў ніякага пераходу. Вядома, усё было б добра, калі б былі добрыя карціны. А так, слабенькі жывапіс...

Наконт слабенькага жывапісу я б паспрачаўся. Хоць самакрытычнасьць мастака заўсёды імпануе і нават крыху павялічвае вартасьць твораў. Рыдзіка малюе і сюжэты з гісторыі, і зь



мясцовых паданьняў, і партрэты. І ня толькі. Кажа спадарыня Соф'я.

— І рамы ж сам парабіў! І нават разьбу рабіў. Усё сам. Як у школе працаваў, як выходны, сядае на ровар і паехаў. Ён аб'ехаў увесь Браслаўскі раён, і Шаркоўшчынскі, і Мёрскі. Усе куточкі літаральна. І ўсё з натуры. І прыяжджае позна ўвечары толькі. І цяпер я дзіўлюся. Ён жа сядзіць там невылазна. Да тэлевізара не падыходзіць. Тэлевізар мой цалкам. А ён там ці рысуе, ці лекцыі тыя слухае. Уяўляеце? Днямі цэлымі. Без канца. Якое цярпеньне ў чалавека.

Справа ў тым, што да Барадзенічаў дайшоў хуткасны інтэрнэт. І пан Ян гадзінамі глядзіць майстар-клясы па тэхніцы жывапісу. Захопленаму чалавеку вучыцца ніколі ня позна.

Як становяцца беларусамі? Чаму ў іншым паселішчы ад беларушчыны і сьледу не засталося, а тут жыве беларускі творца? Справа ня толькі ў сямейным выхаваньні. Вельмі важная роля асьветнікаў. Аўтарытэт ксяндза ў міжваеннай Заходняй Беларусі быў велізарны. І калі ксёндз, акрамя духоўнай справы, займаецца яшчэ і культурнай, вынік будзе.

— На пераломе 1920-х і 30-х гадоў у гэтым касьцёле служыў такі ксёндз Віктар Шутовіч. І ён быў беларус. На беларускай мове право-



дзіў імшу. Польскія ўлады яго недалюблівалі. І акрамя таго, што ён вёў сваю ксяндзоўскую справу, ён арганізоўваў моладзь. Тут стаяў вялікі парафіяльны дом, спалены пасьля партызанамі. Каля касьцёла яшчэ фундамэнт захаваўся. І тут, у гэтым парафіяльным доме ставілі п'есы. А чаму я гэта так добра ведаю? Таму што мой тата быў удзельнікам. Ён ня граў ролі, але маляваў дэкарацыі. Быў памочнікам рэжысёра, калі ксяндза можна рэжысёрам назваць. Ставілі «Паўлінку», «Пінскую шляхту», «Моднага шляхцюка», вадэвіль. І таму падобныя рэчы. І там ня толькі зь вёскі, а з усёй парафіі зьбіраліся людзі. І тут быў асяродак беларушчыны вельмі моцны. І, можа, ад гэтага і я... Гэтая нітачка цягнецца, я адчуваю сябе часьцінкай гэтай нітачкі.



Ёсьць у Рыдзікі і карціны на сацыяльную тэму. Вось фарбаваная бляндынка выйшла з чорнага аўто каля пахіленай хаты памерлых бацькоў. А вось прыезд аўталаўкі. Расхрыстаныя алкашы і няшчасныя старыя зь няхітрымі набыткамі.

— Жыву як у эміграцыі. І нават не з палітычных прычын. А вось гэтая мацяршчына, бескультур'е, хамства — страх. Калі я малюю, калі сяджу сярод кніг — усё нармальна. Як быццам бы жыву. Выйдзеш на вуліцу — хамства, п'янства, мацяршчына. Як маладзейшы быў, гэта ня так рэзала вуха. А цяпер неяк зусім.

Асабліва цяжка былому настаўніку назіраць, як дэградуюць і сыходзяць з жыцьця ягоныя

былыя вучні. Многія зь якіх ужо даўно перасяліліся на мясцовыя могілкі.

— Школа — гэта толькі маленькі астравочак. А як сустракаюся з вучнямі, я іх не пазнаю. Колькі маіх вучняў у магіле ляжыць, гэта страшна падумаць. Маладыя людзі. То там п'яны недзе замерзьне, то разаб'ецца на матацыкле, то павесіцца. Жахлівыя проста рэчы.

Ян Рыдзіка — нашчадак тых, хто не рабаваў. Таму і на тэму вайны ён разважае спакойна, не баючыся сказаць лішняга.

— Я ня схільны ні гераізаваць партызанскі рух, ні дэманізаваць і ўтоптваць у бруд. Справа ў тым, што чалавек мае зброю без усякага закону. Што было бараніць беларусу? Польшча прыйшла і пайшла. Бальшавікі прыйшлі ў 1939-м і насьлядзілі даволі значна. Прыйшлі немцы. Што абараняць беларусу? Беларус стаў абараняць кожны сам сябе. Сябе і сваю сям'ю. Немцы кажуць — ідзі ў паліцыю, дадзім зарплату і зброю. Хтосьці пайшоў. Партызаны ставяць да сьценкі маладога чалавека. Ідзі з намі, а то расстраляем. Прыходзіцца ісьці. І таму, і другому даюць зброю. І вось тут пачынаецца самае галоўнае. Чалавек са зброяй заўсёды небясьпечны. А чалавек са зброяй без усякага закону небясьпячнейшы ў дзесяць разоў. У нас штаб быў партызанскі за 15 кіламэтраў. І вось яны прыходзяць ноччу, чалавек пяць. Ці яны па заданьні прыйшлі? Над імі нічога няма. Калі нехта паскардзіцца, яго назаўтра прыбяруць.

І былі розныя. Былі рабаўнікі, якія ішлі рабаваць. А былі вельмі прыстойныя людзі. Браты Кірлінскія. Прыйшлі раз ноччу. Папрасілі есьці. Мама нешта прыгатавала для іх. Пазнаёміліся. І пасьля часта прыходзілі. Разумееце, якая рэч. У ваенны час грукат у акно — гэта ўжо небясьпека. І каб мы не хваляваліся, возьме кішэнны ліхтарык і сябе асьветліць. Маўляў, ня бойцеся. Вось такая далікатнасьць. І нічога дрэннага пра іх сказаць не магу. А чалавек у экстрэмальных умовах — самая сутнасьць яго праяўляецца. Так, як і паліцаі. Былі добрыя, былі дрэнныя. Некаторыя дапамагалі партызанам, баранілі вяскоўцаў, а некаторыя рабавалі.

*2014, красавік*

# Камунізам — камуверхам

*Як беларусы жартуюць горка і балюча*

## Хрыстова, Пастаўскі раён

Майскі ранак. Птушак сьпеў.
Цёплы ветрык вее.
Хто загнуцца не пасьпеў,
Нешта рупна сее.
Ні каня, ні бараны,
Ні капейкі грошай,
Нават дошак для труны
Не знайсьці харошых.

Гэтыя два чатырохрадкоўі мне ўбіліся ў памяць у 2007 годзе і за прамінулыя гады ня тое што не забыліся, а неаднойчы ўсплывалі ў памяці ўсякі раз, як бачыў гібеючыя беларускія вёскі. Лепш і ня скажаш. Напісаў тыя поўныя горкай іроніі радкі чалавек з чатырма клясамі адукацыі, які ўсё жыцьцё прарабіў калгасным пастухом, але пры гэтым валодае ўнікальным дарам апісаць сёньняшнюю рэчаіснасьць з гумарам і болем адначасова. Люцыян Шчасны зь вёскі Хрыстова пад Глыбокім.

Іду па полі пустазельным,
І крыўдна мне за гэты край.
Душу пякуць агнём пякельным
Трывога, горыч і адчай.

Зямлі скалечанай мне шкода,
І я хацеў бы знаць адказ,
Чаму ў нядрэннага народа
Улада дрэнная ўвесь час.



— Я ня ведаю адказу на гэтае пытаньне. Я пытаюся ў народа. Народ уладу не выбірае. Гэта чорт ці бог яе даець. У іх і пытацца трэба. Там адказ. Мы беларусы. Мы нікога не чапаем. То нейкія войны. Вечны бой, спакой нам толькі сьніцца. Цяжкі крыж у беларускага народа. Але нічога.Ваздасца. Усім, хто зь яго зьдзекаваўся. Мама мая была правільная баба. Яна ненавідзела немцаў, ненавідзела бальшавікоў. Яна ўсіх іх ненавідзела. І, помню, ноччу прачнуся, стаіць на каленях. Чытае «Ойча наш», а пасьля «каб вас

расьпёрла, парвала». Усё забралі. Каня забралі. Якая ў мяне была мама цудоўная! Я ў нечым да яе падобны. Такі ж нізкарослы, такі ж шалёны.

Думка ў сэрцы б’ецца:
У якога гада
Хутка апынецца
У руках улада?
І якой паскудзе
Мой народ няшчасны
Зноў маліцца будзе
На зямлі калгаснай?

Леакадзія Іваноўская з суседняй вёскі Вараны бачыла многа ўладаў, але ніякай зь іх не малілася. А яе жарт на адрас слова «камунізм» — выдатная ілюстрацыя таго, як былыя гаспадары ставіліся да новых паноў.



— Каму нізам, каму верхам. Нацярпеліся ад калгасаў. Былі ж людзі, што не ішлі ў калгас. Дык суткамі сядзелі — пішыце заявы. Бацька толькі загадаваў коніка. Пасадзіў мяне. «Праедзь, дачушка, апошні раз. Ужо коніка ў нас ня будзе». Ня дай ты бог, як калгас мучыў. Мама хворая, бацька кінуў, я малая. Прыйшлі, соткі адабралі. Кукурузу засеялі. Божачка, чаго мы нацярпеліся! Рабіла, рабіла — пуд жыта далі.

А хто адбярэ жменьку гэтага жыта. А гэта ж булачка хлеба будзе. І касіла, і арала, усё рабіла сама. За мяшок мякіны бабку маю пасадзілі. Не было ж чым кароўку карміць, ноччу хадзілі красьці. Мякіна гэтая была ільняная і ячменная. Пайшла баба ноччу красьці, а там сядзелі. За мяшок мякіны год адседзела.

Часам я люблю задаваць сялянам пытаньне: дзеля чаго жыве чалавек? Адказ ад простага, як быццам, чалавека можа быць самы няпросты. Ад адказу Леакадзіі ў мяне сківаца адвісла.

— Як там пішацца... «С небесной книги список дан Тебе, пророк, не для строптивых. Спокойно возвещай Коран, Не понуждая нечестивых». Я толькі ўстаю і дзякую Богу. «Дзякуй Богу!» Дровы ёсьць. Ніколі ў жыцьці столькі дроваў не было. А яшчэ і брыкет прывезла. Калодзеж выкапала. Паехала ў анкалёгію лячыцца. Палячылі. Шчытавідку ўдалілі. А тут і гадоў многа. Ай, гарод быў аж да гэнага куста. Лётала ў свой час — дайце зямлі. А пасьля лётала — забярыце. Ня ў сілах яе абрабляць. Тэлевізар маю. Мабільнік маю. Газэту «Весьнік Глыбоччыны» выпісваю. А што яшчэ трэба?

Малгажата Бервячонак, суседка Леакадзіі, самым страшным годам называе 1939-ты.

— Мы ня зналі жыцьця савецкага. Крах быў. Тут на хутары старая жыла. Яе сын настаўнікам быў. Дык вось за гэта яе і вывезьлі. Толькі з-за сына. Ён не палітык ніякі, а настаўнік. Таму і немцаў радасна сустракалі. З-за таго, што



саветы вывозілі і вывозілі. Чарга была на вываз. Прыход немцаў быў, як вызваленьне. З кветкамі сустракалі. А пасьля хапіла і ад немцаў. У мяне брат служыў у арміі, у 1939-м забілі немцы на фронце. А другога рускія ў палон узялі. А пасьля паехаў туды, як Андэрс арганізаваў армію польскую за мяжой. Быў у Італіі, пад Монтэ-Касіна, пасьля пераехаў у Англію.

І прачнулася роднае поле,
Каб сустрэць і прывеціць вясну,
Ды ў Хрыстове ужо аніколі
Шмат каму не прачнуцца ад сну.
І зь вясной, маладою кабетай,
Не глынуць болей чарку жыцьця;
Раптам здасца, што холад сусьвету
Гэты ранак зьмярцьвела працяў.
Сьнег ляжыць на кустоўі, на глебе,
І мароз яшчэ ліпне да рук,
І, здаецца, замёрзьне у небе
Ад халоднага сонца жаўрук.

Люцыян Шчасны — вернік. Але вернік асаблівы.

— Шукайце Бога, будзьце зь ім. І ён вам пакажа дарогу. У правільным напрамку. Ён без падману. Як адчуць яго прысутнасьць? А ніяк. Зь ім гаварыць няможна. Я богаўгоднымі спра-

вамі займаюся, некалі пакрытыкую ўладу. Каб не наглела да немагчымасьці. І ён маўчыць. І не ў касьцёлах Бог. Выхадзі на двор і глядзі на дрэвы, на творчасьць яго. Глядзіце на яго творчасьць! Не глядзіце на прэзыдэнтаў нейкіх. Паглядзіце, колькі ён памылак зрабіў. А ў Бога ўсё правільна. У храме толькі сьвятар, бо выгналі сьвятары Бога адтуль. Каго вы бачыце, прыйшоўшы туды? Папа, ксяндза. А Бог дзе? А затое на поле выйшаў, паглядзеў кругом...

Люцыян, невысокі, хударлявы, з хлапечымі вачыма стары, любіць прыходзіць на тое месца, дзе некалі стаяў радавы хутар. Тут яму найлепш гаворыцца з Богам.

Ад ветру дрэвы гнуцца,
Лагчыны заліло...
Заснуць бы й не прачнуцца,
Во здорава было б!
Расстаўся б з гэтым сьветам,
Папаў бы ў нікуды,
А там — ні прэзыдэнтаў,
Ні шчэ якой брыды!

— Ня мной сказана: ніколі ня думай пра сваю сьмерць. А прыйдзе, думаць ня будзе ўжо чым. Да сёньняшняга дня амаль ня думаў. А цяпер балюча думаць. Паглядзіце, якая прыгажосьць. Вясна, а я гэтага ня ўбачу. Цяжка. Нікому ніколі не зайздросьціў. Можа, толькі, як пілі гарэлку, і вось у некага бутэлька, а мне хацелася пахмяліцца, а ў мяне выпіць не было. І я яму,

шчыра пакаюся, зайздросьціў. Не грашам, не прыгажосьці. Мне і так Бог нямала даў. І хоць я чалавек нестандартны, бесталковы, а ўменьне любіць гэтае поле, гэты лес ёсьць. Дык хай мне зайздросьцяць. Праўда, багацьця не нажыў. Ад якога крывёй патыхае і якое душу забівае. У мяне дарога чыстая. Я хоць сёньня магу адпраўляцца туды. Хаця яшчэ пабуду крыху. Ня ўсё яшчэ расказаў. І не напісаў.

Калі я разьвітваўся з гэтым няпростым чалавекам з Хрыстова, дык заўважыў тузін шпакоўняў на ягоным падворку. Кожную вясну стары Люцік чакае на птушыны сьпеў. А ў маёй памяці заселі дзьве новыя ягоныя страфы.

Ўжо сьнягі прапалі,
Рэчка шлях знайшла.
Мы вясну чакалі —
І яна прыйшла.
Хутка будзе траўка
Весела цьвісьці,
Мяне ж жонка-п’яўка
Прадаўжаць клясьці.

*2014, красавік*

# Боты ўратавалі, боты загубілі

*Як беларусы не гавораць пра свае права на спадчыну*

Быцень, Івацэвіцкі раён

Едучы па беларускіх дарогах і цешачы вока краявідамі палёў і пералескаў, часам не задумваесься, што ў кожнага поля і ў кожнага лапіка лесу калісьці былі канкрэтныя гаспадары. Якія некалі бралі банкаўскія крэдыты, араблялі грошы ў далёкіх Амэрыках. Іх усіх абрабавалі бальшавікі. А некаторых забілі. Шанцам на аднаўленьне справядлівасьці засталіся толькі цудам ацалелыя ў некаторых сем'ях дакумэнты на зямлю. Ці дачакаюцца яны свайго часу?

Са Слоніму ў Быцень я ехаў у кампаніі колішняга галоўнага агранома Слаўгарадзкага раёну Віктара Меляшкевіча. Сярод лесу дарога спусьцілася ў невялікую лагчыну. Мой спадарожнік, чалавек немалады, сівы, але па натуры жыцьцялюб, папрасіў у гэтай лагчыне прыпыніцца.

— Мы стаім на месцы, дзе ў сакавіку 1943 году партызаны забілі майго дзеда, Мікалая Меляшкевіча. Яшчэ быў сьнег. Ён ехаў на кані. Выйшлі партызаны і з аўтамата яго застрэлілі. Мясьціна для нас вельмі смутная. Конь прывёз яго дахаты. Забітага. Бяз ботаў. Зьнялі толькі боты. Не забралі ні каня, ні цугляў. Быў



прастрэлены кажушок. Ніхто ня ведае, за што. Ніхто нічога не казаў. Забілі, і ўсё. Забілі мясцовыя партызаны, аднавяскоўцы. Бацька, калі прыйшоў з фронту, спрабаваў даведацца: хто страляў, чаму стралялі. Нічога не дабіўся. Ніхто нічога не сказаў.

У нашай «Картатэцы Сталіна» пра Мікалая Меляшкевіча можна даведацца наступнае.

«МЕЛЯШКЕВІЧ Мікалай Аляксандравіч, нарадзіўся 1884 у вёсцы Міронім Кобрынскага р-ну Берасьцейскай вобл., беларус, зь сялян, пачатковая адукацыя, селянін, аднаасобная гаспадарка ў в. Міронім. Арыштаваны 40.10.19. Асуджаны 41.07.01 «асобай нарадай» за антысавецкую агітацыю паводле арт. 74 КК БССР на 8 гадоў ППЛ. 89.05.17 справу пераглядала Пракуратура Берасьцейскай вобл. УКДБ Берасьцейскай вобл».

Такім чынам, у 1941 годзе Мікалай Меляшкевіч павінен быў адправіцца ў лягер. Але ў ліпені, калі быў вынесены гэты прысуд, Заходняя Беларусь была ўжо пад немцамі. Няйначай энкавэдэшныя «асобыя нарады» свае прысуды выпісвалі наперад. Бо яшчэ ў чэрвені 1941-га калёну зэкаў канваявалі на Ўсход.

— Калі дзеда канваявалі, ён за свае боты ў канваіра адпрасіўся, каб адпусьціў дадому.

Калёну пагналі далей. А дзед жыцьцё выкупіў за боты. Але ненадоўга.

Іншы ўнук Мікалая Меляшкевіча, Валеры, да нядаўняга часу ўзначальваў мясцовае СВК. І пра сямейную трагедыю ён даведаўся не ад сваякоў.

— Ад нас хавалі гэта ўсё. Не даводзілі ўвогуле. Выпадкова ад аднавяскоўцаў мы даведаліся. І ад зайздросьнікаў. Што мы «кулацкае атрэб'е». Калі я хадзіў у школу, мяне абзывалі кулаком. І мне было вельмі непрыемна. Бо я быў патрыёт, камсамолец. Вельмі прыніжалі. Ніякай павагі не было.

Цікавая дэталь. Ні старшыня калгасу, ні галоўны аграном раёну, ні іншыя нашчадкі Мікалая Меляшкевіча, якія б пасады ні займалі, ніколі не ўступалі ў КПСС. І дзе была іх зямля, і што было на той зямлі, добра ведалі.

— Каровы былі, коні былі. У дзеда была малатарня, сячкарня. Калі раскулачвалі ў 1930-м, у яго ўсё забралі. І каровы, і хлявы, і адрыны.

У Валерыя Меляшкевіча захоўваюцца ўсе дакумэнты. Як на валоданьне зямлёй, з мапамі і банкаўскімі квітанцыямі, так і на канфіскацыю. Уражваюць фінансавыя паперы, дзе па гадах фіксуюцца выплаты крэдыту. І толькі насупраць лічбы 1939 стаіць пустата. А побач — паперкі бальшавіцкай улады, напісаныя каравым почыркам з загадам «сейчас же прибыть до комитета». З датай 27 кастрычніка 1939 году. І подпісам сакратара Сялёдкі.


posób należność na dzień 1 stycznia 1935 r., która
ez Pana uiszczona, wynosi kwotę zł 96.17
ota ta, stanowiąca obecnie dług Pana, została rozło
y bez oprocentowania i dodatku na administrację w
t w następujących terminach:
dniu 1 października 1935 r. w sumie zł 24.–
„ 1 „ 1936 r. „ „ 24.–
„ 1 „ 1937 r. „ „ 24.–
„ 1 „ 1938 r. „ „ 24.17
„ 1 „ 1939 r. „ „ —
dnocześnie Państwowy Bank Rolny podaje do wiadom
że wyznaczone raty winny być zapłacone w terminach


Тов. Мелешкевич
Сейчас же возьмите книжки конские
и свою Войсковую и Сейчас же
прибыть до Комитета
27/X 39 Секр Н. Семедко

— Дзед купіў зямлі 112 гектар зь лесам. У банк сплачваў грошы. Захаваліся і дамовы, і вэксалі. І акты канфіскацыі таксама ёсьць.

У кожнага беларуса свой знак бяды. Для Мікалая Меляшкевіча фатальную ролю адыгралі боты.

— Дзед езьдзіў і не баяўся. Бо шкоды нікому не рабіў. Немцы вярнулі зямлю, і трэба было яе апрацоўваць. Партызаны хадзілі ноччу. Трэба

было і партызанаў карміць. Бабка казала, што вельмі часта і сала шмат давала, і хлеб давала, і пякла ім па заданьні. Таму дзед і не баяўся. Але сьцягнулі толькі боты.

Старажылка Быценя Антаніна Башчук — сапраўдная пані настаўніца. У савецкім кіно так паказвалі арыстакратак. Пані Антаніна статная, з высокай прычоскай, у чорным строгім пінжаку і белым кашнэ. З добра пастаўленым голасам, дзе высакародна спалучаецца строгасьць і павага да суразмоўцы. У яе прысутнасьці хочацца паводзіць сябе як мага больш шляхотна.

— Адкуль пайшло слова Быцень? Па нашай Шчары ішоў шлях «з варааг у грэкі». І тут было некалькі прыстаняў. Былі караблі. І калі рэчка Шчара замярзала, яны спыняліся на зіму і ставілі такія невялічкія бытоўкі. Бытавалі. І ад слова «бытаваць» пайшла назва нашага мястэчка Быцень.

Сёньня галоўная архітэктурная дамінанта Быценя — пажарная каланча. А калісьці над Быценем панавала велічная барочная ўніяцкая царква сьвятога Язафата. Яе пашкодзілі ў Першую сусьветную вайну, а канчаткова зьнішчылі пасьля Другой. Сёньня на яе месцы ўнівэрмаг.

— Я яшчэ памятаю тое, што засталося ад Першай сусьветнай. Тут быў манастыр, духоўная акадэмія. Я сабрала матэрыял пра сьвятароў, якія тут служылі. І, між іншым, у 1922 годзе, калі нашы бацькі вярнуліся зь бежанства пасьля Першай сусьветнай, была пастанова

аднавіць наш манастыр. Тут хаваліся некалі паўстанцы Каліноўскага. А яшчэ я знайшла два крыжы на могілках, якія былі пастаўленыя ў 1805 годзе. Нехта іх выцягнуў на мэталалом. Разрэзалі і здалі.

Ад былога базыльянскага кляштара засталася толькі маленькая перабудаваная царква. Але хто там служыў? І каго асабіста ведала пані Антаніна?

— У нашым храме да вайны служыў бацька першага прэзыдэнта Акадэміі навук Беларусі Ігнатоўскага. І толькі нядаўна разбурылі той домік, дзе ён жыў. І нас ён вучыў у школе закону Божаму. Я пачала вучыцца ў польскай школе. За кожнае беларускае слова я атрымлівала дзесяць udaraў драўлянай лінейкай. Я не хацела гаварыць па-польску. Сказала беларускае слова — да сьлёз, рукі апухалі. Выцягваеш руку — і лінейкай. І мы з гэтай настаўніцай сустрэліся ўжо пасьля вайны. У Берасьці. Яны выяжджалі ў Польшчу. Цёпла зь ёй сустрэлася. Падзякавала, што вучыла мяне. Яна задае пытаньне — дзе я, кім працую. Я сказала, што настаўніцай беларускай мовы. Яна заплакала і прасіла прабачэньня.

Але самае цікавае пані Башчук мне распавяла напрыканцы. Аказваецца, неўзабаве нас чакаюць новыя сьведчаньні пра акупаваную Беларусь.

— Ёсьць цікавая кніга, якую напісаў нямецкі доктар Эрнст. Ён прыбыў у Быцень 7 ліпеня

1941 году. Але немец, які быў праваслаўным. Кніга называецца «Быцень, сьвятая зямля». Лекар, антыфашыст. 20 чалавек, якія ўступілі ў калгас у 1940-м, на іх быў данос. На расстрэл. Ён уратаваў усіх нас. Ён ня змог выратаваць яўрэяў. Хоць жыў спачатку ў сям'і яўрэйскага лекара. І быў зь імі вельмі дружны. Але ўратаваць ня змог. У кнізе ягонай ёсьць старонкі пра тое, якім ён бачыў Быцень. Я яе перакладаю.

Нашчадкі расстралянага гаспадара Мікалая Меляшкевіча, ягоныя ўнукі Віктар і Пятро пра вяртаньне зямлі ня мараць. Бо «дзеці на вёску не паедуць». Бо «за савецкія гады зямля стала бясплоднай». Бо «ў тых месцах, дзе рос лес, усё высеклі і спустошылі». Гаворачы на тэму рэстытуцыі, законныя спадкаемцы разважаюць пра зямлю як пра абяскроўленую глебу, як пра фізычны аб'ект. Хоць тут гаворка ідзе пра акт справядлівасьці. А можа, з чужым чалавекам шчыра на такія тэмы гаварыць ня будуць?..

*2013, сьнежань*

# П'яніцам і адпачынку няма

*Як робіцца найлепшая беларуская гарэлка*

Бакшты. Івейскі раён

У даўнейшыя часы слаўныя ў Беларусі самаробныя гарэлкі называліся ад месца, дзе іх выганялі: хойніцкая — ад Хойнік, старадароская — ад Старых Дарог, бакштанка — ад вёскі Бакшты. Куды я і прыехаў паспытаць гэты знакаміты напой. Пра бакштанку ў саміх Бакштах гавораць вельмі асьцярожна. Асабліва зь незнаёмым. Як першая сустрэтая мной на вуліцы кабета.



— Бакштанка ўжо рэдкасьць. Можа хто дзе і зробіць, але прадасьць толькі па знаёмстве. Некалі, я помню, усе гналі. Калі, напрыклад, у каго не было апарата, дык сусед аддаваў суседу. Ну, выганяць, хай найболей, дзесяць літраў. Гэта што? Гэта для сябе толькі.

Пра гарэлку-бакштанку я ўпершыню пачуў ад свайго фамільята, гаспадара карчмы Алеся Бартосіка, які непадалёк ад Бакштаў пабудаваў аграсядзібу, а па сутнасьці — заезны двор. Зра-

зумела, сваіх гасьцей Алесь не частуе крамнай гарэлкай.

— Бакшты — гэта заўсёды быў край гарэлкаварэньня. Пры саветах у Бакштах проста заводы стаялі ў лесе. Потым пачалі змагацца з алькаголем. Прасоўваць дзяржаўнае. Людзі не хацелі піць дзяржаўнае. Хацелі якасную гарэлку піць. І барацьба з самагонаварэньнем мае два бакі. Першы — каб зьнішчыць канкурэнцыю. Ніхто, акрамя дзяржавы, не павінен гнаць. А другое — каб не было параўнаньня алькаголю якаснага і дзяржаўнага.

80-гадовая Вольга Рыжэвіч падзялілася са мной колішнімі сакрэтамі.

— Калісьці была бакштанка, а цяпер — сахарніца. Бакштанка славілася кругом. Я і сама гнала. Як муж памёршы быў, усяго хапіла.



Трэба ж было трое дзетак гадаваць. Яе трэба два разы пераганяць. Тады будзе добрая. У аснове рошча. Жыта прарошчанае. Тады яна добрая атрымлівалася.

Пра яшчэ адну асаблівасьць Бакштаў, не заўважную зь першага позірку, мне паведаміла старая.

— У нас яшчэ многа чалавек у маім веку. 80 мінуўшы. Многа ў нас даўгавечных. Больш за дваццаць чалавек. Але гарэлка тут ні пры чым. Усе адпачываюць, а п’яніцам і адпачынку няма. І ночы няма. Яны ж мучаюцца.

«П’яніцам і адпачынку няма». Дзеля такіх сэнтэнцыяў варта ехаць у Бакшты. Але падзялілася мая суразмоўніца Вольга яшчэ адным цікавым эпізодам. Тое, што за адно неасьцярожнае слова можна было заплаціць жыцьцём за саветамі, добра вядома. Але і Польшча была бязьлітасная.

— Некалі мой тата за палякамі служыў на Ўкраіне. І неяк другу сказаў, што ўжо палякам канец, што скора ўжо наступяць рускія. А гэты прадаў тату. За гэтае слова з таты абмундзіраваньне зьнялі. Каб расстраляць і зямлёй засыпаць. Тады тата сеў на пянёк, яблык зьесьці. І гэты яблык адрыгнуўся яму. А прыкмета — калі адрыгнецца, дык яшчэ не загінеш. І тады сталі яго зваць на расстрэл. А там крапіва была вялікая, і тата ў гэту крапіву ўскочыў і папоўз. І ўдалося выратавацца. Тата пасьля казаў, што калі б яму не адрыгнулася, дык ён не ўцякаў бы.

Ірына, прыгожая менская спадарыня, нарадзілася і вырасла ў Бакштах, куды і прыяжджае кожныя выходныя ў бацькоўскі дом. І яе дзед, і яе бацька былі кавалямі. І гарэлку рабілі, са словаў Ірыны, выдатную.



— Калі шчыра, мы жылі за гэту самагонку. У мяне тата каваль быў. Зарплата была недзе ў 45 рублёў. У 1970 годзе. Як жыць? У мяне стыпэндыя была 40. І жылі з самагонкі. Кліентура зь Менску была. У мяне сусед пабудаваў кватэру на самагонку. Сур'ёзны бізнэс, але вельмі цяжкі.

Ірына даглядае бацькаву і дзедаву кузьню, дзе стаіць астылае кавадла. Яе дзеці ў радавое гняздо езьдзіць ня хочуць. Вядома, аўтара падараванай гарэлкі Ірына мне ня выдала. Але напой быў што трэба. Той самы, мяккі, з пахам жыта, які ня цягне закусваць.

Стары Мікалай Ражкевіч, якому хутка 90, жыве разам з 45-гадовым сынам Анатолем. Пра славу сваёй вёскі Анатоль дазнаўся ажно ў далёкім Крыме.

— Я сам у Крыме быў. Пытаюць: вы адкуль? Кажу — зь Беларусі. А адкуль дакладней? Як назваў Бакшты. О, Бакшты мы ведаем! А адкуль ведаеце? А ў нас група турыстаў адпачывала. Ну, і самагонкі мы пакаштавалі. А ў вас ці ёсьць? Пакаштавалі — гэта праўда з Бакштаў. Бакштанка — гэта двайны перагон гарэлкі. Бралі чыстую гарэлку, залівалі ў кацёл і пераганялі яшчэ раз. Пяршак ішоў 80—82 градусы. І пасьля разводзілі. Хто разводзіў на 50, хто на 45. Але ніжэй не было. Яна п’ецца проста цудоўна. Яна нічым не аддае. Яна паху ня мае. Можаш нават не разьлічыць, калі яна з жыта сьвежага зроблена, бо яна мякка п’ецца. Цяпло ідзе, весялосьць. І можаш не разьлічыць, адну-другую — і зьлегчы. Пры Польшчы, калі выганялі, дык толькі сабе. Палякі давалі штрафы, нават турэмнае заключэньне.

У размову ўступае стары Мікалай.

— Месяц, два, тры. Гледзячы колькі знойдуць. За адну бутэльку, мусіць, месяц сядзеў бацька. Маці купіла, бо параілі націраць ад хваробы. І нехта падказаў, прыйшлі польскія паліцыянты, дык бацьку пасадзілі на месяц. За тое, што захоўваў. А ў 1960-х пачалі гнаць многа. У вялікіх аб’ёмах. Але яна добрая была. Зь зерня.

На асобе пана Анатоля варта затрымацца. Бакштанкі ён ня п’е ўжо роўна дваццаць гадоў. І ня сьпіць 20 гадоў з-за дзікага болю. І 20 гадоў не ўстае з ложка. Анатоль Ражкевіч — мне аднагодак. Слухаючы ягоны бадзёры голас, вы ніколі не здагадаецеся, што гутарка вядзецца зь вельмі хворым чалавекам. Анатоль, сівы грузны мужчына з прыязным позіркам, ляжыць на высокім ложку, спрытна пераключаючы зубамі тэлевізійны пульт. На далонях у Анатоля няма пальцаў. У далёкім 1994-м, яшчэ студэнтам фізкультурнага факультэту, будучы гандбаліст няўдала нырцануў у раку і зламаў сабе шыю.



— Я дваццаць гадоў ляжу. Адразу хацелася на той сьвет адправіцца. Але з ложка не ўцячэш. І паступова я то тэлевізар, то радыё. Чымсьці ж трэба цікавіцца. Але спачатку я ня ведаў, што рабіць. Усё было. І пролежні, і гніль чалавечая. Гніеш, і ўсё. І ня ведаеш, ці сёньня памрэш, ці заўтра. І ўрачы дапамагалі, і маці дапамагала, і бацька, і сваякі блізкія. Калі б не свае, дык даўно быў бы канец. Так і жыву. Спачатку хацелася галавой уніз з ложка. Але шкада родных. Яны мучыліся гадамі, глядзелі за мной. А я вазьму так проста галавой уніз палячу? Добра, калі памру адразу.

А калі яшчэ мучыцца? Тут і так моцны боль стаіць. Боль дзень і ноч.

Згодна са старой прыкметай, на сабе калецтвы нельга паказваць. Але тут ня тое што паказаць, нават адчуць хоць малую долю таго жыцьця, якім жыве Анатоль, ня ўдасца. Але міжволі задумаесься пра тыя праблемы, якія здаваліся табе надзвычай цяжкімі.

— Я адчуваю пастаянны моцны боль. Як зуб баліць. Толькі ў сто разоў мацней. Шыя пераломана. Галава нармальная, а ніжэй за шыю, да пят, да канечнасьцяў рук — боль невыносны. Дажыўся, што хвароба чалавека ператварыла невядома ў каго. Але розум застаўся нармальны. Гарэлкі я ўжо даўно ня п'ю. Я вып'ю, а пасьля пячэ ўсё.

Анатоль не прымае наркатычных прэпаратаў. Бо, кажа, пасьля іх становіцца яшчэ горш. Ня так даўно памерла маці. Цяпер яго даглядаюць стары бацька і брат. Можа, калі ў чалавека ёсьць сапраўдная радня, якасьць мэдыцыны — пытаньне не галоўнае.

— У нас у Бакштах ёсьць бацюшка. Я з гэтым айцом Віталіем сустракаюся, спавядаюся часам. І ён заўжды на любое пытаньне можа даць адказ. Нават чалавеку ў такім стане, як я. Здаецца, выйсьця няма. Часам боль такі, што здаецца — хутчэй бы на той сьвет. Я ня сплю дзень і ноч. Ручнік на вочы накідваю, і ўсё. Ад болю. А як сьпіць нармальны чалавек, у мяне такога сну няма. Проста ляжу. У любы момант

магу расплюшчыць вочы і гаварыць. Начамі гляджу тэлевізар.

Я нярэдка чую добрыя словы вяскоўцаў на адрас сьвятароў. Прынамсі, значна больш, чым у бок мясцовых чыноўнікаў. Але ў Бакштах асаблівы выпадак. Кожны, з кім я меў гутарку, ня проста хваліў свайго сьвятара, а казаў пра яго як пра чалавека, на якім Бакшты трымаюцца. Тым цікавей было зайсьці да айца Віталія, абсалютна няпатаснага адкрытага чалавека.



— Сіла Божая зьдзяйсьняецца ў немачы чалавечай. Калі мы моцныя, мы спадзяемся на свае сілы, на здароўе. А калі чалавек у такой сытуацыі, што нават вады ня можа сабе падаць, у такой немачы — вось тут і праяўляецца сіла Божая. Здавалася б, як у такой сытуацыі чалавеку хацець жыць? Але над гэтым чалавекам праявілася Божая сіла. Калі ёсьць сэнс жыцьця, тады невыносасьць існаваньня перамагаецца. Таму пытаньне — хто мацнейшы? Той моцны, фізычна здаровы чалавек — ці ён вось у такім стане? І ў гэтага чалавека можна шмат чаму павучыцца. Калі людзі нечым незадаволеныя, трэба проста наведаць Анатоля. Паглядзець. Пабыць хвіліну каля яго. Чалавек калі дыхае паветрам, ён не заўважае, што паветра ёсьць. А адымі гэтае паветра?

Тым прадуктам, дзеля якога я прыехаў у Бакшты, я разжыўся ў некалькіх дамах. Лішне казаць, што са мною падзяліліся бясплатна. І што прасілі не афішаваць, дзе разжыўся. Хоць, па вялікім рахунку, гэтых гарэлачнікаў трэба не караць, а рэцэпты іхныя патэнтаваць. Бо бакштанка ані ня горшая за італійскую грапу, за балканскую сьлівовіцу ці грузінскую чачу. Бо гэтым рэцэптам не адно стагодзьдзе. Экспэрт у бакштанскім сьвеце, карчмар Алесь Бартосік упэўнены, што створанае народам зьнішчыць нельга.



— Народ ведае, што яму лепей. Выраб жытняй гарэлкі — вельмі складаны мэтад. Ня кожны можа зрабіць. Бо гэта песьня. Трэба, каб прабіліся гэтыя парасткі ў жыце. Пасьля сушыць, малоць. Гэта ўсё вельмі складана. І якасьць дзяржаўнай гарэлкі прайграе хатняй. Таму што хатняя не дае такога нэгатыву на галаву. Калі мы па маладосьці бралі ў Бакштах гарэлку, галава была ясная і чалавек быў вясёлы. Тое, што прадаецца ў крамах, — па-першае, якасьць невядома якая. Напісаць можна што хочаш на бутэльцы. І «За победу», і «За Сталіна», і «За Гітлера». Але ж пасьля гэтай гарэлкі дзяржаўнай становіцца нешта ў галаве ня тое. Чалавек цягнецца да

таннага. А танная гарэлка, як і таннае жыцьцё, вельмі страшная. Таму людзі п'юць, што таннае, што закружыць галаву і адвядзе ад рэчаіснасьці.

У тым, што рэцэпт бакштанкі не забудзецца, можна не сумнявацца. А тым больш ня зьнікне з памяці такая смачная назва. А вось ці настане такі час, калі сапраўдная беларуская жытняя гарэлка зойме сваё пачэснае месца на паліцы побач з грапай, сьлівовіцай і чачай?

*2014, чэрвень*

# Беларусь будзець

*Як і што прарочылі глыбоцкія старцы*

## Глыбокае

Часта ў падарожжах па Беларусі я чую анэкдоты. Не газэтныя, а сапраўдныя, гэта значыць — народжаныя жыцьцём. Некаторыя показкі настолькі пераканаўча і дасьціпна даводзяць, наколькі беларусы несавецкія людзі, што грэх не падзяліцца імі з шырокай публікай. Вось якія тры гісторыі я пачуў сёлета ў горадзе Глыбокім.

Першая — пра бліскучую перамогу беларускай мовы над расейшчынай.

Адзін глыбоцкі прадпрымальнік вырашыў на полацкай дарозе, на бойкім скрыжаваньні паставіць кавярню. Месца прыкметнае і высокае. Таму і назву прыдумаў удалую — «Гара». І прыйшоў да глыбоцкага рэклямных спраў майстра Аляксандра Мядзельца, каб шыльду зрабіць.

— Прыйшоў да мяне хлопец. Трэба было зрабіць яму шыльду. Для кафэ, на пагорку, на месцы такім спрытным, на дарозе з Полацку на Вільню. Кажа: Назавем «Гара». Ну добра. Гара дык гара. Але ж, кажа, трэба напісаць парускu. «Гора». Карабаціла мяне, але зрабіў я яму шыльду.

І зьявілася на трасе кавярня «Го́ра». Менавіта так мясцовыя людзі і прачыталі. І пайшла пра тое кругласутачнае «Гора» слава па горадзе. Дзе ноччу гарэлкай дагнацца? — Трэба ісьці ў «Гора». Дзе ты бадзяўся ўсю ноч? — Ізноў у «Горы»? І дайшла-такі слава пра тое «Гора» да раённых уладаў. Якія і наставілі гарадзкога рэстаратара на шлях вяртаньня да каранёў. За шыльду прыйшлося плаціць ізноў.




— У выканкаме яму кажуць: Што ты там за «Гора» адкрыў? Сапраўды, усім жонкам гора, чые мужыкі ўцяклі ўначы. Пішы па-беларуску. Гара значыць «гара».

Другая гісторыя будзе пра ролю нашага радыё ў далёкія 1950-я гады. Калі ў Заходнюю Беларусь прыйшлі калгасы. Пра тое, як у вёсцы Заварацы маладыя хлопцы разыгралі дарослую



цётку, аматарку Радыё Свабода, расказаў мне глыбоцкі журналіст Зьміцер Лупач.

— Свабода вяшчае ад 1954 году. Якраз арганізавалі калгасы. У многіх людзей было такое чаканьне, што вось-вось пачнецца вайна і ўсё пераменіцца. Таму і хавалі ў лесе Філістовіча, таму і Жыхар ваяваў да 1955-га. Дзякуючы гэтым чаканьням. І як пайшла трансьляцыя Свабоды, то людзі яе слухалі. І ў маёй вёсцы быў такі выпадак. Адна жанчына чакала, што пачнецца вайна, і прыходзіла да суседкі слухаць радыё. А былі ў нас такія Кулібіны, ня ведаю, хто ім падказаў — што калі ўставіць навушнік у разьём і пачаць у яго гаварыць, адключыўшы антэну, дык тое, што ты гаворыш, будзе чуваць праз дынамік. Яны вывелі ў суседні пакой навушнік. А цётка Агата, аматарка радыё, была вельмі цікавая жанчына.

Зьміцер кажа, што была ў таго розыгрышу перадгісторыя.

— Недзе ў 1944 годзе над нашай вёскай ляцеў савецкі бамбардзіроўшчык, а за ім гналіся некалькі нямецкіх зьнішчальнікаў. І ён, каб разгрузіцца, скінуў некалькі бомбаў каля вёскі. У балота скінуў. Але факт, што цётка спужалася, забегла да суседа на хутар, і калі пачалі рвацца бомбы, заляцела да яго ў варыўню. А там ста-

яла вядро з попелам, і цётку са страху прабрала мядзьведжая хвароба. На гэтае вядро яна і села. У вёсцы гэта ведалі. І тыя жартаўнікі вырашылі выкарыстаць тую гісторыю. І пачалі «вяшчаць». «Хутка калгасаў ня будзець! Пачнецца вайна». А тая Агата вушы навастрыла, усё прымаючы напавер. «А зараз навучым вас, як хавацца ад атамнай бомбы. Трэба настроіць гарнец попелу. Занесьці яго ў варыўню. І як толькі пачнецца...» Далей была цётчына лаянка. Раскусіла яна фокусьнікаў. Выбегла з хаты і болей ужо не прыходзіла слухаць радыё.

Раззлаваная цётка зьбегла, кленучы тых жартаўнікоў, і больш не прыходзіла слухаць Свабоду. Але якая вага была ў радыё ў тыя часы! І якая вера ў вольнае слова! Ня кажучы ўжо пра веру ў магутны і справядлівы Захад, які прыйдзе і вызваліць ад прыгону.

Але найбольш азадачыла мяне гісторыя ад карэннай глыбачанкі Яніны Бацяноўскай, удавы Альберта Бацяноўскага, сябра Саюзу беларускіх патрыётаў. Пані Яніна распавяла мне пра двух дзіўных глыбоцкіх старых, якія яшчэ ў 1930-я гады прадбачылі будучыню і прадказвалі многія падзеі. У тым ліку нашага часу.

— У нас тут былі прадказальнікі такія. І, паводле іх прадказаньняў, ад Расеі шмат аддзеліцца краін. А ад самой Расеі застанецца толькі 7 губэрняў. А ўвесь Дальні Васток, Урал, усё адыдзе. Смаленск — гэта Беларусь. А ў Расеі толькі 7 губэрняў застанецца. Прад-



казальнікі памерлі даўно, у 1930-я гады. Яны нават прадвяшчалі вайну 1939 году. Казалі, што будзець вельмі крывавая вайна. Шмат чаго прадвяшчалі. Пра Беларусь гаварылі. Дык людзі сьмяяліся. «Як гэта Беларусь будзець самастойная дзяржава, калі ў яе нічога няма?» Людзі сьмяяліся, а яны гаварылі, што Беларусь будзець самастойнай. І будзець многа мяняцца кіраўнікоў. І толькі трэці зробіць Беларусь самастойнай дзяржавай. Трэці. Гэтых вешчуноў клікалі Пятрусь Глаўніцкі і Янук Новік. Яны былі зусім непісьменныя. Набожныя, праваслаўныя. «Хочаце верце, хочаце ня верце. Але Беларусь будзець».

*2014, кастрычнік*

# Паказьнік імёнаў і геаграфічных назваў

## А

## В

### Г

**Д**

**К**

## Н

**О**



**П**

## С

## Т



## У



## Ф



## Х

# Прадметна-тэматычны паказьнік

# Пра аўтара

Зьміцер Бартосік нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рыбінску (Расея) у сям’і рэжысэра і акторкі драматычнага тэатру. Разам з бацькамі шмат вандраваў па абшарах савецкай імпэрыі. У школу пайшоў у казахстанскім Усьць-Каменагорску. Працягнуў вучобу ў расейскім Ніжнім Ноўгарадзе. У 1979-м сям’я пераехала ў беларускі Гомель, дзе ў школе аўтар быў вызвалены ад вывучэньня беларускай мовы. Што, урэшце, карэнным чынам паўплывала на далейшы лёс. «Непатрэбны» прадмет абярнуўся забароненым плодам. Адзінай ведай, якая прыдалася ў пасьляшкольным жыцьці, стаў беларускі альфабэт. Цікавасьць да беларускай культуры як глыбока несавецкай зьявы прывяла аўтара спачатку ў віленскую рэдакцыю «Нашай Нівы», а пасьля і на Радыё Свабода. Выдаў кнігу апавяданьняў з уласнага жыцьця «Чорны пісталет» (2002) і два альбомы сваіх песень.

# Summary

Belarusian bard, writer and journalist Zmicier Bartosik was born in Rybynsk, Russia in 1968 into a family of theatrical professionals. He is the author of a book of autobiographical essays ("The Black Pistol," 2002), and has released two albums of songs which he composed and performs himself. Bartosik's affiliation with Radio Liberty's Belarus Service began in 1997 as a contributor to the long-running cultural series "Vostra Brama." Since 2013, he has bylined the service's popular "Liberty Excursions" travelogue. He lives in Minsk with his wife and four children.

With the advent of the Bolsheviks in 1917, the pillaging of the estates of Belarus' landowners began. Some Belarusians joined the ranks of the pillagers, others did not.

And so, contends author Zmicier Bartosik in this collection of portraits culled from his RFE/RL "Liberty Excursions" series, Belarus became a nation divided between thieves and non-thieves. This split defined the nation and the country's history for the better part of the last century. The word "theft" became a kind of fatal stigma. Thieves robbed their wealthier neighbors in the years of collectivization and Stalin's repressions; thieves pillaged the homes of murdered Jews in the years of the German occupation. Sometimes the

thieves were Germans, sometimes soviet partisans, sometimes cops… Those Belarusians who survived WWII emerged from that conflagration as a nation robbed. And the psychological division of Belarusians between thieves and non-thieves remains to the present day.

In this book, Bartosik records the testimony of elderly Belarusians finally unafraid to tell of their role in the nation's tragic bifurcation, and the choices they made as to which group they would ultimately belong.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.










*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.

**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.

*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.










*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.

**Плошча, 19.03–25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.

*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.